ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

3 лютага 1995 г. № 5 (3777) Кошт 200 руб.





# "Я ПРАЙШЛА СКРОЗЬ..."

25 лютага Вольга Клебановіч адзначыць свой юбілей. Перадусім — на сцэне. На сцэне свайго адзінага — Акадэмічнага рускага тэатра Беларусі. Адзначыць не чарговым выхадам у ролі, не ў чарговым спектаклі, а знарок падрыхтаванаю ўрачыстаю праграмаю кшталту бенефіснай. Па-за сумнівам, актрысу будуць доўга віншаваць, і сярод віншаванняў не адзін раз згадаюць пра наданне ёй годнасці народнай артысткі Беларусі, якое апярэдзіла юбілей ці не на месяц... Праз два гады, мабыць, возьмуцца ўрачыста нагадваць публіцы пра трыццацігоддзе яе прыходу ў тэатр...

Прыкра, бадай, толькі з-за аднае акалічнасці: менавіта на такія ўражлівыя падзеі акцёрскага жыцця не прыпала (дай Божа, пакуль) важкае, уражлівае ролі. Не галоўнай, — яны, галоўныя, цэнтральныя, падставовыя, — не абмінаюць, памнажаюцца й доўжацца. І "Ад'ютантка яго вялікасці" спраўна пераймае гераінь... "Наступным годам, тым самым часам" або "Незвычайных прыгод салдата Чонкіна"...

А згадваюцца — Сцепаніда са спектакля паводле быкаўскай аповесці, Жэня Камялькова паводле аповесці Б. Васільева, Ліззта з "Адзінага спадкаемцы" Ж. Ф. Рэньяра... Юры Ступакоў (а ён доўгі час быў партнёрам Вольгі Клебановіч у гэтым спектаклі) распавёў неяк, што "Адзінага спадкаемцу" яны любілі дзівоснаю любоўю: у такой строгай класічнай форме, у вершаваным тэксце патраплялі імправізаваць! Аднойчы, ненаўмысна парушыўшы мізансцэну, спадарыня Ліззта ўбегла з таго боку, дзе мелася быць умоўная сцяна, і з вуснаў яе выканаўцы, спадарыні Вольгі, пачулася: "Криспен, я пошла сквозь... стен!"

...Часам акцёрскія шляхі, што спакойна й пэўна маглі б цягнуцца ля гэтых сцен або пад гэтымі сценамі — напрацаванасці, звыкласці, шараговасці, — праступаюць якраз скрозь. Якраз ад Вольгі Клебановіч церпяць сцены...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Віктара КОЎСКАГА*

# ЛІТ КОЛА ДЗЁН

*Некалі ў "Коле дзён" мы рэагавалі ледзь не на кожнае павышэнне цэн. Называлі гэта "нечаканасцю", "сюрпрызам", "неспадзеўкай"... Потым сталі звяртаць увагу толькі на самыя "значныя і важныя" падаражанні, а апошнім часам і зусім перасталі заўважаць чарговыя змяненні цэн. Сёння гэта ўжо не дзіва. І тым не менш, хто скажа, што ён прывык да ледзь не штотыднёвых паведамленняў пра падаражанне... жыцця. Кожны раз большасць насельніцтва ўспрымае гэта з болем. З пачатку лютага чакае нас павышэнне цэн на прадукты харчавання, на жыллё — цяпер ніяк не звязанае з павелічэннем заробку. Бо яго, гэты заробак, урад і не думае павышаць, нягледзячы на страйк, праведзены афіцыйнымі прафсаюзамі, нягледзячы на зварот Вярхоўнага Савета, нягледзячы на "обнищание сверх обычного" ўсяго народа і найперш пенсіянераў і бюджэтнікаў, нягледзячы на тое, што ў Расіі мінімальны заробак складае 13,5 долара, а ў нас — 2,5. Вера ва "ўсенароднавыбранага" прэзідэнта дэвальвавала ўжо даўно, нязменным на Беларусі застаецца пакуль толькі адно — наша цярпенне.*

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

За мінулы год насельніцтва Беларусі **паменшылася на 21 тысячу чалавек...** Смяротнасць летась перавысіла нараджальнасць на 16500 чалавек, з краіны выехала на 4200 чалавек больш, чым прыехала. Лічбы страшныя. І нічога не робіцца па іх зніжэнні сёлета. А вучоны з Гомеля Уладзімір Пашук і ўвогуле намаляваў катастрафічную будучыню для беларускага этнасу. Паводле ягонага прагнозу, пры захаванні цяперашніх тэндэнцый у дэмаграфічнай сітуацыі ў бліжэйшыя 200 гадоў колькасць беларусаў зменшыцца да 1 мільёна чалавек, а да 2300 года беларуская нацыя цалкам знікне... Можна, вядома, назваць гэты дужа песімістычны прагноз ненавуковым, неабгрунтаваным, але прагноз на тое і прагноз, каб прымусіць нас сёння задумацца над гэтакай будучыняй. Пакуль жа наш урад і наш прэзідэнт вельмі мала робяць, каб гэты прагноз не спраўдзіўся.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Люмпенская псіхалогія большасці насельніцтва прывяла да таго, што Беларусь — адзіная ў Еўропе краіна, якая не здолела ўвайсці ў працэс рэфармавання і дэмакратызацыі, і не здолела таму, што народ не здолеў вылучыць са свайго асяроддзя такіх палітыкаў, якія б маглі павесці краіну ў накірунку рэформ. Адсутнасць нацыянальнай свядомасці, пачуцця Радзімы прыводзяць да таго, што кіруюць дзяржавай антыпатрыёты, для якіх не існуе разумення інтарэсаў нацыі, Радзімы, якія не здольныя зразумець, што самастойная дзяржаўная палітыка — найвялікшая каштоўнасць у сэнсе выкарыстоўвання яе дзеля эканамічных інтарэсаў насельніцтва...

Моцная дэмакратычная дзяржава патрэбна людзям як абаронца іх інтарэсаў, іх уласнасцей, культурных каштоўнасцей грамадства; грамадзяне-патрыёты, гаспадары, і ніхто іншы, могуць утварыць такую дзяржаву".

*(Лявонцій ЗДАНЕВІЧ. "Белыя плямы мінулага — чорныя плямы будучыні". "Народная газета" за 31 студзеня 1995 г.)*

## АДЛУП ТЫДНЯ

Дэпутаты парламента не ўлічылі ніводнай з папраўак прэзідэнта ў Закон "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь". Прэзідэнт, які вярнуў закон на дапрацоўку, цяпер вымушаны будзе абавязкова падпісаць яго, альбо праз тры дні ён аўтаматычна ўступіць у сілу. На жаль, парламенцкая большасць не прыслухалася да прапаноў дэпутатаў ад апазіцыі БНФ і БСДГ аб скасаванні прывілей дэпутатам, якія (прывілеі) толькі кампраметуюць гэты закон. Але, з другога боку, не прайшлі і прапановы прэзідэнта, якія ўзмацнялі ягоную ўладу... Прэзідэнт, вядома, невыпадкова аб'яднаў у адзін "пакет" прывілеі "свае" і дэпутацкія. Здавалася б, пасля масіраванай атакі друку і тэлебачання, дэпутаты павінны былі саступіць прэзідэнту. Добра, што парламент адстаяў сваю незалежнасць (прынамсі, ад прэзідэнта) і захаваў сваё значэнне ў нашай дзяржаве; дрэнна, што ўсё ж дэпутаты не змаглі з першага разу адмовіцца ад неабгрунтаваных і яўна завышаных прывілей, а пакінулі гэта на потым.

## ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

Цалкам падзяляем думку рэдакцыі "Народнай газеты", што артыкул Пятра Краўчанкі "Сапраўдная любоў да сваёй краіны немагчыма без любові да сваёй мовы" (1 лютага г. г.), варта прачытаць "у кожнай сям'і, у кожным школьным класе, у кожнай студэнцкай групе, у кожным працоўным калектыве". Аўтар артыкула каменя на камені не пакідае ад аргументаў барацьбітоў за двухмоўе на Беларусі. "На працягу дзесяцігоддзяў у нас не юрыдычна, а фактычна існавала і сёння рэальна ўжываецца **адна дзяржаўная мова — руская**", — сцвярджае П. Краўчанка. І таму — "рускай мове **ніхто і нішто** не пагражае ў бліжэйшыя 50 ці 100 гадоў". Нам жа, беларусам, даводзіцца зноў і зноў даказваць "тое, што ў другіх народаў успрымаецца як аксіёма, рэальнасць, дараваная Богам.., што мы народ, нацыя, дзяржава, што мы маем натуральнае права на дзяржаўнасць мовы.., што мы нікога не дыскрымінуем і што дзяржаўная мова ёсць не што іншае, як modus vivendi, **спосаб існавання, захавання і выжывання** беларускага народа". Можна цытаваць і яшчэ, аднак лепш прыслухацца да парады рэдакцыі "НГ" — знайсці і прачытаць артыкул.

## "СТРАТЭГІЯ" ТЫДНЯ

Тонкі палітык Н. Назарбаеў — прэзідэнт Казахстана — падкідвае ідэю за ідэяй аб нейкіх "саюзах" паміж былымі рэспублікамі СССР. Што ж, яго можна зразумець: ён мае за плячыма краіну, дзе больш чым напалову насельніцтва — славянскае. Заігрываючы з Расіяй, Н. Назарбаеў, між тым, паскоранымі тэмпамі вядзе, калі так можна сказаць, казахізацыю сваёй дзяржавы. Учынкі ж нашых палітыкаў, што раз за разам "аддаюцца" Расіі, цяжка вытлумачыць цвярозым розумам. Вось і чарговая здача часткі нашага суверэнітэту — падпісанне ў Маскве чатырох сумесных дакументаў аб "далейшым паглыбленні эканамічнай інтэграцыі" паміж Расіяй, Казахстанам і Беларуссю — выдаецца як ледзь не перамога нашых урадоўцаў... Вярхоўны Савет, паводле слоў М. Грыба, павінен разгледзець і даць ацэнку папярэднім беларуска-расійскім пагадненням, якія падпісаны 6 студзеня. Мяркуецца, што тры з іх — аб мытным саюзе, аб банках і аб гандлі без абмежаванняў — падлягаюць абавязковай ратыфікацыі. Спадзяёмся, у народных дэпутатаў хопіць дзяржаўнае мудрасці, каб не падпісаць прысуд сваёй краіне. У "Звяздзе" 1 лютага г. г. досыць грунтоўна прааналізаваны канцэпцыі расійскіх вучоных аб расійска-беларускіх дачыненнях і палітыка кіраўніцтва Расіі ў адносінах да Беларусі ў апошнія гады. Аўтар артыкула "У Крамля ёсць стратэгія" У. Снапкоўскі робіць адназначную выснову: "гаварыць сёння аб якіх-небудзь "сваяцкіх", "брацкіх", "сардэчных" і падобнага роду адносінах паміж Беларуссю і Расіяй было б крывадушнасцю і верхам нацыянальнага нігілізму. Крэмль дакладна выбраў курс на "шлюб па разліку" ў адносінах да Беларусі".

## НАВІНА ТЫДНЯ

Геолагі правялі даследаванні вугальных радовішчаў у Лельчыцкім раёне. Паводле іх прагнозаў, запасы бурага вугалю складаюць тут 16 мільёнаў тон. Распрацавана і тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне мэтазгоднасці дэталёвай разведкі радовішча бурага вугалю ў Петрыкаўскім раёне. Штогод тут можна здабываць адзін мільён тон вугалю. Прычым кошт "свайго" вугалю будзе амаль удвая меншы, чымсьці таго, што мы зараз купляем у суседзяў.

Парламент

# СВАЯ КАШУЛЯ...

У часы панавання "адзіна правільнага" камуністычнага вучэння, паводле якога ўсё і ўся — ад барацьбы з венерычнымі захворваннямі да вывучэння народнай творчасці, патрабавала выключна класавага падыходу. Вядомая прымаўка "Свая кашуля — бліжэй да цела" бясспрэчна была б аднесена да праяў прыватнаўласніцкіх інстынктаў. Само сабой было аксіёмай, што падобны грэх ад пачатку не быў уласцівы членам КПСС — "розуму, гонару і сумленню нашай эпохі".

Днямі гэтая знакамітая ленінская формула ў дачыненні да заснаванай ім партыі прагучала ў Авальнай зале Дома ўрада на адным з пленарных пасяджэнняў бягучай сесіі Вярхоўнага Савета. Прагучала з вуснаў бадай аднаго з самых актыўных дзеячаў парламенцкай апазіцыі БНФ Сяргея Антончыка. І хоць тон, якім вымаўляліся гэтыя словы, быў непрыхавана здзеклівы, спікер парламента Мечаслаў Грыб, які ў гэты дзень неаднойчы рабіў заўвагі дэпутатам-прамоўцам за "некарэктныя выказванні па адрасе апанентаў", гэтым разам прамаўчаў. Як прамаўчала і так званая наменклатурная большасць ВС, да якіх звяртаўся С. Антончык.

А было так. У час абмеркавання Закона "Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце" па ініцыятыве сакратара Камісіі Вярхоўнага Савета па дзяржаўным будаўніцтве А. Вярцінскага (не блытаць з пісьменнікам, таксама дэпутатам ВС Анатолем Вярцінскім) была ўнесена прапанова дапоўніць апошнюю частку артыкула 22 закона наступным зместам: "У стаж службы ў дзяржаўным апараце залічваецца праца на прафесійнай аснове ў партыйных органах да 27 ліпеня 1990 года".

Каторы чытач у неўразуменні спытае: чаму менавіта да гэтай даты? Нагадаем, што ў той дзень Вярхоўным Саветам тады яшчэ БССР быў скасаваны "славуты" шосты артыкул Канстытуцыі рэспублікі (як і Канстытуцыі СССР), паводле якога КПСС абвяшчалася адзінай кіруючай і накіроўваючай сілай савецкага грамадства.

Залішне гаварыць, што нагаданае дапаўненне было з вялікай прыхільнасцю сустрэта дэпутатамі з "партыйным" мінулым і выклікала рэзка адмоўную рэакцыю з боку парламентарыяў дэмакратычнай арыентацыі.

Шчыра кажучы, аўтару гэтых нататак спачатку было не вельмі зразумела, чым менавіта выклікана нагаданая ініцыятыва спадара Вярцінскага. У рэшце рэшт, налічэнне працоўнага стажу, паводле існуючага заканадаўства, праводзіцца ўсім грамадзянам рэспублікі незалежна ад пасады, якую яны займалі ці займаюць. Ды, як кажуць, "ларчик просто открывался". Аказваецца, існуе яшчэ і цэлая сістэма сацыяльнай абароненасці служачых дзяржаўнага апарату, паводле якой яны маюць права выхаду ў адстаўку пасля 20 гадоў (для мужчын) і 15 гадоў (для жанчын) змагання на гэтай ніве і атрымання пенсіёну ў памеры 60 працэнтаў ад зарплаты на момант выхаду ў адстаўку. Неблагі прыварак для 45—50-гадовага мужчыны да яго заробку на працы ўжо не па "чыноўніцкай" спецыяльнасці!

Зараз былыя кампартыйныя змагары за народнае шчасце прэтэндуюць на падобныя правы, матывуючы гэта тым, што КПСС кіравала ўсім у краіне і, фактычна, з'яўлялася дзяржаўнай структурай (паспрабаваў бы хто ім нешта падобнае сказаць шэсцьвосем гадоў назад — абурэнню не было б канца).

Выступаўшыя ў спрэчках дэпутаты С. Шушкевіч, П. Садоўскі, М. Крыжаноўскі, С. Антончык камень на камені не пакінулі ад прапанаванага камісіяй дапаўнення да закона, слушна пытаючыся ў яго аўтараў — якую такую дзяржаўную службу несла, напрыклад, вялізная армія ідэалагічных работнікаў КПСС? У той час, як сотні тысяч працаўнікоў у горадзе і вёсцы атрымлівалі мізэрную зарплату, партнаменклатура мела ўсё.

Адзначым і тое, што ў адказ не лезлі ў кішэню па слова і дэпутатыкамуністы. Праўда, не зварочваючы з ужо наезджанай каляіны: ва ўсім вінаватыя дэмакраты, якія давялі СССР да развалу і да т. п.

Застаецца дадаць, што пастаўленае М. Грыбам на галасаванне дапаўненне да закона не прайшло, дарэчы, як не атрымаў належнай колькасці галасоў і сам закон.

У той дзень тэма сацыяльных гарантый тут, у Авальнай зале, прагучала яшчэ раз. І таксама тычылася яна не самай абяздоленай часткі насельніцтва.

Як вядома, прыняты нядаўна парламентам закон аб Вярхоўным Савеце, паводле Канстытуцыі, быў адпраўлены на подпіс Прэзідэнту краіны А. Лукашэнку і быў ім вернуты дэпутатам на дапрацоўку. Са 118 артыкулаў Закона выклікалі пярэчанні прэзідэнта 8 і сярод іх артыкулы, якія прадугледжваюць сацыяльныя гарантыі самім народным абраннікам.

Да слова, Аляксандр Рыгоравіч з уласцівым яму ўменнем надаць любому пытанню патрэбнае яму палітычнае гучанне прайшоўся па гэтых дэпутацкіх ільготах у адным са сваіх тэлевыступленняў, чым, натуральна, выклікаў крайняе незадавальненне дэпутацкага корпуса. Хоць для справядлівасці адзначым, што члены парламенцкай апазіцыі БНФ ды і некаторыя іншыя дэпутаты галасавалі супраць новых дэпутацкіх ільгот, але засталіся ў меншасці.

На гэты раз, трэба прызнаць, тых, хто выступае супраць прадугледжаных законам дэпутацкіх ільгот, паменела. Нават сярод ранейшых іх прынцыповых праціўнікаў. Ці то падзейнічала на іх нагаданае вышэй тэлевыступленне прэзідэнта, ці то па нейкіх іншых прычынах. Настрой большасці дэпутацкага корпуса, мне здаецца, выказала адна дэпутатка, якая, авалодаўшы мікрафонам, з пафасам усклікнула: "Калі мы самі сабе не дапаможам, ніхто гэта за нас не зробіць!" Залатыя словы, у час сказаныя. Сапраўды, сотням тысяч ушчэнт збяднелым грамадзянам краіны, якія ледзь зводзяць канцы з канцамі, не да клопату аб дабрабыце народных абраннікаў. Жыццё засведчыла — яны сябе і так у крыўду не дадуць...

Застаецца дадаць, што ўсе "забракаваныя" А. Лукашэнкам артыкулы былі дзвюма трэцямі галасоў парламента зноў прыняты і, паводле Канстытуцыі, набываюць законную сілу.

**М. ЗАМСКІ**

# У ІНТАРЭСАХ НАЦЫІ

## ПРАГУЧАЛА З ПАРЛАМЕНЦКАЙ ТРЫБУНЫ

Звяртаюся з болем у душы — да Прэзідэнта, Кабінета Міністраў, Вярхоўнага Савета, да ўсіх цвярозадумаючых людзей з просьбай усвядоміць навіслую пагрозу алкагалізацыі насельніцтва і неабходнасць ажыццяўлення радыкальных мер па ўнікненні гэтай бяды.

У 1994 годзе ў краіне было рэалізавана каля 150 мільёнаў літраў толькі гарэлкі, пра што ўжо аб'яўлялася з гэтай трыбуны. Аднаўляецца вытворчасць пладова-ягадных вінаў, так званых "чарнілаў", найбольш небяспечных для жыцця і здароўя чалавека. Органамі ўнутраных спраў выяўлена каля 20 тысяч самагоншчыкаў, хоць на самай справе іх у шмат разоў больш, і толькі аднаму Богу вядома, колькі яны выпрабляюць атруты. Адным словам, душавое спажыванне алкаголю ўжо знаходзіцца на крытычным узроўні.

Спіртнога рэалізуецца мора, а спажыванне прадуктаў харчавання скарачаецца. Рэалізацыя мяса зменшылася за год на 30, яек і рыбы на — 25, масла сметанковага — на 16 працэнтаў.

У 1994 годзе за правапарушэнні, так альбо іначай звязаных з п'янствам, затрымана каля 1 мільёна чалавек, сярод іх нямала няпоўналетніх і жанчын. Больш за 70 тысяч п'яных кіравалі аўтамабілямі. Імі здзейснена 23 тыс. злачынстваў на дарогах. Загінула ад рук п'яных ці ў выніку п'янства больш за 8 тыс. чалавек. Сёння на ўліку стаяць больш за 100 тыс. хранічных алкаголікаў, у тым ліку больш за 12 тыс. жанчын. Сказанага, па-мойму, дастаткова для ўсведамлення маштабнасці і трагічнасці сітуацыі.

У сувязі з гэтым звяртаюся з заклікам неадкладна распачаць распрацоўку і рэалізацыю прадуманай і ўзважанай дзяржаўнай праграмы па барацьбе з алкагалізацыяй грамадства; увесці жорсткую дзяржаўную манаполію на вытворчасць і рэалізацыю спіртных напіткаў; ажыццяўляць строгі санітарны кантроль за якасцю гарэлкі, віна і асабліва "чарніла"; спыніць рэкламу спіртных напояў і прапаганду п'янства ў сродках масавай інфармацыі; разгледзець меры па паляпшэнні арганізацыі і павышэння эфектыўнасці лячэння алкаголікаў; актыўна садзейнічаць разгортванню грамадскага руху за цвярозасць.

Усяго гэтага патрабуюць інтарэсы выратавання здароўя і будучыні нацыі.

**В. ПІСКАРОЎ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

# ЦІ ДАПАМОЖА ЗВАРОТ?

"Міністэрства культуры і друку звяртае ўвагу рэдакцый газет і часопісаў на тое, што з 1 студзеня 1995 года ўведзены ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь "Аб папярэджанні інваліднасці і рэабілітацыі інвалідаў". Згодна з артыкулам 8 гэтага закона ў рэспубліцы забараняецца рэклама алкагольных напіткаў і тытунёвых вырабаў ва ўсіх сродках масавай інфармацыі.

Міністрэства культуры і друку заклікае журналістаў і рэкламадаўцаў няўхільна выконваць дзеючае заканадаўства".

Вось такі зварот да сродкаў масавай інфармацыі распаўсюдзіла наша рэспубліканскае Міністэрства культуры і друку. Дваякае пачуццё выклікае ён. З аднаго боку — даўно пара! Пра маштабы бяды, што нясуць з сабою алкаголь і тытунь, найбольш красамоўна, бадай, сведчаць нашы... могілкі. Прайдзіцеся па іх — незалежна, па гарадскіх ці вясковых, угледзьцеся ў надпісы на помніках і крыжах найперш мужчынскіх магіл. Надпісы гавораць: тут спачылі без пары яшчэ зусім не старыя людзі, рэдка каму з іх было за шэсцьдзесят. Так, так, сёння нямногія з нас дажываюць да пенсіі. І зводзіць нас без пары ў магілу разгул курэння, а найперш — п'янства: штодзённае, усеагульнае, з маладых гадоў, а то і з малалецтва. Біць у званы, крычаць на ўвесь свет аб гэтай бядзе трэба было, паўторым, ужо даўным-даўно.

А з другога боку — што дасць гэты зварот? Ну, добра, нашы, беларускія, сродкі масавай інфармацыі спыняць рэкламу тытуню і алкаголю. А расійскія? Яны ж у нашай інфармацыйнай прасторы пануюць ці не на ўсе сто працэнтаў, асабліва тэлебачанне. Па адзінай нашай праграме спыніцца гэтая злачынная і агідная рэклама, а па чатырох расійскіх паранейшаму будуць пішчом лезці ў кожную хату і кватэру нахабныя "распуціны" і "смирноффы". Ці, можа, і расійскія кампаніі прыслухаюцца да парад нашага Міністэрства культуры і друку?

"Все это было бы смешно..."

**Л-ц**

# "ЛіМ" НАЗВАЎ ЛАЎРЭАТАЎ

Народжаная пазалетась "лімаўская" прэмія за лепшыя публікацыі года становіцца традыцыйнай. І на гэты раз сродкі на ўзнагароджанне лаўрэатаў фундавала славутая і добра вядомая ў адраджэнскіх колах фірма "Дайнова", за што яе кіраўнікам і супрацоўнікам вялікі дзякуй.

Мінулы год быў багатым на адметныя публікацыі, і таму вызначыць лепшых аўтараў было няпроста. Пасля ўсебаковага абмеркавання "лімаўцы" назвалі лаўрэатамі прэміі за лепшыя публікацыі 1994 года наступных аўтараў:

Алеся АСТАШОНКА — за апавяданні "Габрэйскія матывы" (14 студзеня), "Дом творчасці" (28 верасня), "Жонка артыста" (30 снежня);

Васіля АЎРАМЕНКУ — за артыкулы "Пасля юбілею: напярэдадні жыцця" (15 ліпеня), "Апалагетыка адраджэння" (26 жніўня), "Савецкі народ: тупікі і вяршыні" (4 лістапада), "Афганскі сіндром" (16 снежня) і інш.;

Марыю ВАЙЦЯШОНАК — за апавяданні "Коні" (11 сакавіка), "Дом пад лесам" (16 снежня);

Леаніда ГАЛУБОВІЧА — за нізку вершаў "І ўсё нанова напісаць..." і "Зацемкі з левай кішэні" (16 лютага і 28 кастрычніка);

Яўгена ШУНЕЙКУ — за артыкулы "Нямеччына зблізку" (7 студзеня), "Невядомая краіна" (30 снежня).



*Вітаванне аўтараў лепшых публікацый 1994 года і ўручэнне прэмій адбылося ў "ЛіМе" 27 студзеня. Тады і быў зроблены гэты здымак. На ім (злева — направа) Леанід ГАЛУБОВІЧ, Яўген ШУНЕЙКА, Марыя ВАЙЦЯШОНАК, Алесь АСТАШОНАК і Васіль АЎРАМЕНКА.*

# ЧЫНОЎНІКІ ХВАЛІЛІСЯ...

31 студзеня ў Доме літаратара адбыўся "круглы стол", прысвечаны 5-годдзю з дня прыняцця Закона аб мовах. Яго арганізавала і правяло Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. На пасяджэнні, акрамя актывістаў таварыства, прысутнічалі прадстаўнікі шэрагу міністэрстваў, ВНУ, грамадскіх арганізацый, навукоўцы і пісьменнікі.

"Круглы стол" адкрыў і вёў старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Ніл Гілевіч. Гаворачы пра тое, як драматычна прымаўся тагачасным кіраўніцтвам нашай краіны Закон аб мовах, ён адзначыў, што закон атрымаўся вельмі памяркоўным, але, нягледзячы на гэта, ён усё ж выконваецца слаба.

Зміцер Санько, намеснік старшыні ТБМ імя. Ф. Скарыны, паведаміў прысутным пра дзейнасць нядаўна створанага каардынацыйнага камітэта па выратаванні беларускай мовы. Ён выказаў думку, што сярод супрацоўнікаў Міністэрства адукацыі і навукі ёсць людзі, якія інспіруюць бацькоўскія лісты і звароты супраць дзяржаўнай мовы.

Першы намеснік міністра адукацыі і навукі Генадзь Пятроўскі, нібыта не чуўшы папярэдняга выступоўцы, у духу выступленняў дзесяцігадовай даўнасці, хваліўся выкананнем Закона аб мовах у самім міністэрстве. З яго вуснаў прагучала: "На сённяшні дзень у нашай краіне 64,6 працэнта школ з беларускай мовай навучання і толькі 4,9 працэнта школ працуюць на рускай мове". Прыведзеныя лічбы аптымістычныя, але яны не адлюстроўваюць рэальнасці, бо нават у самім Мінску няма афіцыйна ніводнай беларускамоўнай школы.

Прадстаўнік Міністэрства культуры і друку Уладзімір Ламека паведаміў прысутным, што ў міністэрстве распрацоўваецца канцэпцыя свята ў Тураве. Гаворачы пра тое, што зроблена міністэрствам у плане выканання Закона аб мовах, ён сказаў, што ўсё справаводства ў іх вядзецца на дзяржаўнай мове і сярод супрацоўнікаў амаль няма людзей, якія не валодаюць ёй. На сённяшні дзень зарэгістравана 721 перыядычнае выданне, з іх толькі 146 на дзяржаўнай мове.

Міністр працы Уладзімір Сасноў расказаў, з якімі цяжкасцямі ён сутрэўся, заняўшы гэтую пасаду. Аказалася, што ў міністэрстве толькі адзін ён і валодае беларускай мовай, і да апошняга часу ўсё справаводства вялося па-руску. Яго загадам з 1 студзеня 1995 года супрацоўнікі сталі карыстацца дзяржаўнай мовай. Для гэтага ў міністэрстве былі набыты слоўнікі, даведнікі, праведзены курсы па вывучэнні беларускай мовы. Адным словам, выкананне Закона аб мовах у першую чаргу залежыць ад высокапастаўленых асоб нашай дзяржавы.

Старшыня Віцебскай рады ТБМ імя Ф. Скарыны Валянцін Арлоў выказаў сваю занепакоенасць тым, што віцебскія ўлады робяць усё, каб Закон аб мовах не выконваўся, і змагаюцца за наданне рускай мове статуса дзяржаўнай.

Аляксей Пяткевіч, кіраўнік Гродзенскай арганізацыі ТБМ, паведаміў, што апошнім часам у іх горадзе пачала падымаць галаву русіфікацыя, і ўсё гэта дзякуючы апошнім выступленням нашага прэзідэнта, які ігнаруе Закон аб мовах.

Трывога за родную мову гучала ў выступленнях Юрыя Хадыкі, Міколы Савіцкага, Ганны Сурмач, Анатоля Грыцкевіча, Алеся Шамака і іншых.

Пасля пасяджэння "круглага стала" ў вялікай зале Дома літаратара адбылася вечарына "Чаго вам хочацца, панове?". Яе вёў паэт Сяргей Законнікаў. Перад прысутнымі выступілі Ніл Гілевіч, Янка Брыль, Станіслаў Шушкевіч, прадстаўнік БНФ Юрый Хадыка, старшыня Мінскай гарадской рады ТБМ Мікола Савіцкі, паэты Сяргей Грахоўскі, Віктар Шніп, Валерыя Кустава, Марыя Мацюкевіч, барды Алег Атаманаў, Кастусь Гершчанка. Юрый Авяр'янаў прачытаў верш Янкі Купалы "Ворагам беларушчыны". Старшыня Фонду Ефрасінні Полацкай Валянціна Коўтун ад імя беларускіх пісьменніц і ўсіх жанчын Беларусі ўручыла Н. Гілевічу памятны медаль з выявай Ефрасінні Полацкай. На вечарыне прагучала заява, прынятая на пасяджэнні "круглага стала". Актывістам таварыства былі ўручаны памятныя падарункі.

**НАШ КАР.**

Рэпліка

# НЕ СЦІРАЙЦЕ "ДУРНОТЫ"!

Рыгор Барадулін вынайшаў новы сатырычны жанр — "дурноты", гэткія іранічныя, зласнаваценькія карацелькі. Радыёперадача з назвай "Пазіцыя" магла б зрабіць гэтае вызначэнне сваёй рубрыкай.

Памяркуйце самі. Усе, хто выступаюць у перадачы, незалежна ад узросту, прафесіі і адукацыі, гавораць адно і тое ж: як добра было жыць раней і як блага зараз. Мы і самі гэта бачым, дык што — вецер дзьме, таму што дрэвы гайдаюцца? (Напісала — і засумнявалася: ці не занадта складана для людзей пэўнай катэгорыі?)

Магутныя аналітыкі з "Пазіцыі" не толькі блытаюць следства з прычынай, але і кіпяць сацыяльным гневам і ў гэтым сэнсе літаральна псуюць паветра: усялякая адмоўная эмоцыя (як і станоўчая) мае ўласцівасць разносіцца і перадавацца.

У такіх выпадках яшчэ пытаюцца: а дзе вашы канструктыўныя прапановы? Мо нам прапаноўваюць вярнуцца ва ўчарашні дзень? Рвануў за рычаг, націснуў кнопку, ціскануў на педаль — і ты зноў у развітым, справядлівейшым з грамадстваў. Але такое бывае толькі ў навуковай фантастыцы, а не ў рэальным жыцці.

Дык хіба не "дурноты" — тыя прычыны і енкі па адышоўшым, тыя выкрыцці немаведама каго і за што, тыя дзіўныя прэтэнзіі да Госпада Бога?..

Характэрна, што актыўнічае "пятая калона". Дзе і як адшуквае вядучы Я. Багадзяж яе замшэлых прадстаўнікоў, для мяне суцэльная загадка.

Адзін такі выступаў у панядзелак 30 студзеня ад імя "загнаных у кут" бацькоў-рускамоўнікаў. Бяда дый годзе! У беларускіх школах дзеці "не получат в нужном объёме знаний о мировой культуре"! Ніводзін беларус, на думку выступоўцы, "не может отказаться от общения **на человеческом языке**".

Навапрызначаны спадар Ядранцаў! Звярніце ўвагу на гэтую выключную па непасрэднасці фразу! Хай яна застанецца ў радыйным фондзе як перл эпохі Лукашэнкі, як неўміручы прыклад для ўсіх будучых пакаленняў студэнтаў-журфакаўцаў. Не сцірайце "дурноты"!

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# РЭЛІГІЯ І АТЭІЗМ

## ПЫТАННЕ ВЕРЫ Ў ПОСТКАМУНІСТЫЧНЫМ ЧАСЕ

Сёння, калі, здавалася б, зніклі ўсе абмежаванні на сацыяльна-культурныя тэмы, з'явілася адна, якая неўпрыкмет стала закрытай ці, прынамсі, паўзакрытай. Да таго ж адбылося гэта не па афіцыйным загадзе, а як натуральная з'ява жыццёвай дыялектыкі. Гаворка ідзе аб паўзабытым за апошнія гады супрацьстаянні рэлігіі і атэізму.

Новы паварот у іхнім "саперніцтве" ў постсавецкім часе, калі адбылося механічнае перакульванне "компаса каштоўнасцей" на 180$^0$, мала што мяняе ці высвятляе ў гэтых adносінах. Хуткі пераход пэўнай часткі зацятых атэістаў у шчырыя вернікі сведчыць хіба што аб вялікай патрэбе іх хоць у якой-небудзь "веры" і павярхоўным усведамленні яе сутнасці. Аднак такіх порсткіх "пэракідайлаў" не вельмі многа, і большасць людзей даволі пасіўна ўспрыняла сучасную рэхрысціянізацыю. Ва ўсякім разе, нягледзячы на жвавую і разнастайную агітацыю, выбуховага рэлігійнага ўздыму пакуль не адбылося, чаму віной не толькі вынішчэнне народнай духоўнай традыцыі за савецкім часам...

Далікатнае крананне сённяшніх рэлігійных тэм і поўнае выключэнне з ужытку ваяўнічай атэістычнай лексікі ёсць грамадская рэакцыя віны перад зганьбаванай царквой і шматлікімі вернікамі розных канфесій. Але й такая гуманная і карысная дзея мусіць мець пэўныя межы, за якімі яна можа ператварыцца ў сваю супрацьлегласць — прымус і разбурэнне. Я не заклікаю аднаўляць традыцыі бальшавіцкага атэізму, зноў адбіраць храмы ці чыніць які іншы гвалт, я прапаную зірнуць праўдзе ў вочы, агледзець свой шлях і тое, што ўяўляе сабой наша сённяшняя вера і бязвер'е.

Вера — адзін з псіхалагічна-сацыяльных феноменаў (ці хутчэй ноўмэнаў), важная і неад'емная частка нашай свядомасці, яе натуральная ўласцівасць, без якой немагчыма чалавечае развіццё. Вера і нявер'е, надзея і роспач, любоў і нянавісць — вось своеасаблівыя "магнітныя полюсы" свядомасці, ваганне між якімі і ёсць духоўнае жыццё. Відавочна, што веру, як адну з праяў духоўнай "фізіялогіі", нельга ізаляваць ці адмяніць, як нельга чалавека прымусіць не есці і не дыхаць. Іншая справа, што "аб'екты" веры могуць быць рознымі, і "вера ў" (нешта) заўжды з'яўляецца канкрэтна-гістарычнай.

Найбольш яскравы прыклад — рэлігійная вера, якую можна назіраць у развіцці як любую гістарычную дзею, выдзяляючы перыяды нараджэння, росту, сталасці і заняпаду. Асаблівую цікавасць для нас сёння ўяўляе т. з. "эпоха бязвер'я", пад якой трэба разумець абясцэньванне і заняпад пануючых і пошук новых аб'ектаў веры, якія б скіравалі грамадскі рух у пэўным напрамку, паклікалі да новых мэт, ідэалаў, надзей. Паколькі працэс гэты павольны і доўгі, а разбурэнне старога больш відавочнае і балючае, чым крышталізацыя новага, то ствараецца ўражанне поўнага знікнення веры, дэградацыі маралі, грамадства ці нават блізкага канца свету.

Не думаю, што сённяшні стан хрысціянства хто-небудзь назаве росквітам, аднак становішча яго на Захадзе і Усходзе Еўропы мае шэраг адрозненняў. Тое, што адбываецца ў нас, нагадвае сумную гісторыю малога дзіцяці. Яно шчыра верыла ў чароўнасць Дзеда Мароза, а яго аднойчы на вачах ва ўсіх распранулі дагала, аблілі брудам і збілі да паўсмерці, пасля чаго зноў надзелі старую вопратку і сказалі: "Вер, як і раней". Аднак і "дзіця" стала большым, і апранахі выцвілі і струхлі, і з верай адбыліся пэўныя метамарфозы: на месцы "дзіцячай веры" застаўся настальгічны ўспамін, крыўда, жаль ці спачуванне, бо і бараду адрывалі са скурай, і рукавы з рукамі, і думкі з галавой. Такая крыважэрная трагедыйнасць і бязмерны "звышгераізм", уласцівы савецкай гісторыі, не ёсць агульнахарактэрная з'ява. У Еўропе "распрананне Дзеда Мароза" зацягнулася больш як на 3 стагоддзі і адбывалася звычайна больш спакойным і цывілізаваным шляхам. (Дарэчы, Беларусь яшчэ з часоў Буднага брала ўдзел у гэтым руху, на жаль, у далейшым гісторыя завяла нас у іншы бок).

Трэба адзначыць, што антырэлігійны экстрэмізм бальшавікоў фармальна абапіраўся на атэістычныя традыцыі Захаду, давёўшы іх на расійскі манер да ступені высокага "рэвалюцыйнага" абсурду. Аднак сама атэістычная ці, дакладней сказаць, постхрысціянская тэндэнцыя Захаду ад такіх паслядоўнікаў пацярпела мала, бо ішла ўласным эвалюцыйным шляхам, шляхам філасофскіх і навуковых пошукаў, паступовых сацыяльна-псіхалагічных змен і свабодна-дэмакратычных пераўтварэнняў. Вынікам жа сталі больш натуральныя і глыбокія зрухі ў грамадскай свядомасці і паступовае змяншэнне ўплыву традыцыйнай рэлігійнасці. Хаця адносіны да хрысціянскай традыцыі як да інтэлектуальна-духоўнай спадчыны і да царквы як да выпрабаванага часам сацыяльнага інстытута, які не страціў пакуль грамадска-псіхалагічных функцый, засталіся знешне паважанымі, але за імі хаваецца сур'ёзны крызіс веры, бо феномен хрысціянства на Захадзе ўжо не галоўны вектар тамтэйшага развіцця.

Іншая сітуацыя склалася ў нас, дзе гвалтоўная дыскрэдытацыя рэлігіі, замена яе камуністычнай дагматыкай — савецкай эрзац-верай — і хуткі заняпад апошняй парушылі натуральнае развіццё, дэфармавалі знешнія формы грамадскай свядомасці без адпаведнага ўнутранага (духоўнага, культурнага, сацыяльна-эканамічнага) абгрунтавання. Вось чаму за сучаснай вонкавай "атэістычнасцю", мне здаецца, хаваецца больш прымхлівасці і рэлігійных патэнцый, чым за афіцыйнай набожнасцю хрысціянскага Захаду.

Прыкметай эпохі "бязвер'я" на Захадзе з'яўляюцца і спробы аднаўлення раннехрысціянскіх каштоўнасцей праз шматлікія секты, і пошукі "аб'ектаў веры" навукова-рацыяналістычным ці філасофскім шляхам, і распаўсюджванне экзатычных рэлігій ці сінтэз новых веравучэнняў. Часткова аналагічныя працэсы маюць месца і ў нашым інтэлектуальным асяродку, і ўсё ж тут найбольшае сацыяльнае значэнне ў бліжэйшы час будзе мець рэхрысціянізацыя.

Было б памылкова думаць, што на Беларусі яна стане простым аднаўленнем "статуса кво" пачатку XX ст. І не толькі таму, што нельга ўвайсці ў адну раку двойчы, але, па-першае, таму, што на працягу многіх вякоў на Беларусі была даволі складаная і рухомая рэлігійная карціна, і гэта традыцыя зусім не перавялася, а па-другое, савецкі час не мог не адбіцца на лёсе пэўных канфесій, і самы відавочны прыклад — праваслаўная руская царква (хаця дзеля справядлівасці варта адзначыць, што многія праблемы яе на Беларусі народжаны не толькі XX, але і XIX стагоддзем).

Галоўны фронт барацьбы савецкага часу "атэізм — рэлігія" руская праваслаўная царква Беларусі спрабую перанесці на лінію "праваслаўе — каталіцтва, іншыя канфесіі". Праўда, у карціне гэтага старажытнага супрацьстаяння з'явілася новая дзеючая асоба — беларускі народ, з'яднаны ў сваёй незалежнай дзяржаве. Гэты нечаканы і "недарэчны" факт, відаць, і турбуе праваслаўных іерархаў як традыцыйных раўніцеляў вялікамаскоўскай ідэалогіі. Інтарэсы іх зразумець лёгка, ды і што могуць абараняць "рафінаваныя" вялікарускія чыноўнікі ад царквы? І ўсё ж, перш чым безаглядна кінуцца ў вялікую палітыку, святым айцам трэба было б глыбей пазнаёміцца з тутэйшай гісторыяй і ведаць: што царква ў Расіі і царква на Беларусі (нават праваслаўная) — не адно і тое ж. І жаданне заняць утульнае месца ідэалагічнага аддзела ЦК ці стаць, як калісьці, часткай дзяржаўнай машыны — натуральнае і законнае для Масквы, тут зусім недарэчны. У нас іншыя варункі і звычаі, іншая традыцыя і ментальнасць. На Беларусі ніколі не было "адзінадзяржаўнай веры", і можна доўга спрачацца, добра гэта ці кепска, правільна ці няправільна, але факт застаецца фактам: наша краіна і наш народ

*(Працяг на стар. 4)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## УСТАНОЎЛЕНА ПРЭМІЯ ІМЯ АЛЕСЯ АДАМОВІЧА

**Дзеля ўшанавання памяці знакамітага беларускага пісьменніка, грамадскага дзеяча, з дня смерці якога нядаўна мінуўся год, Беларускі ПЭН-цэнтр і Мас-Медыя Цэнтр устанавілі прэмію імя Адамовіча за лепшыя журналісцкія творы, якія закранаюць актуальныя праблемы сучаснасці.**

**Памер прэміі імя Алеся Адамовіча — 500 долараў ЗША па курсу Нацыянальнага банка Беларусі на момант атрымання прэміі. Мяркуецца, што гэтая прэмія будзе прысуджацца кожны год у чатырох намінацыях: у галіне газетнай, тэлевізійнай і радыёжурналістыкі, а таксама ў галіне літаратурнай публіцыстыкі.**

**Сёлета журы, якое ўзначальвае народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, будзе прымаць матэрыялы (тэле- і радыёпраграмы, артыкулы, апублікаваныя ў беларускай прэсе) за перыяд з 1 студзеня па 1 жніўня 1995 года.**

**Матэрыялы трэба накіроўваць на адрас: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 15-а, Мас-Медыя Цэнтр (тэлефоны 39-40-86, 39-45-36). Газетныя і часопісныя артыкулы прадстаўляюцца ў двух экземплярах, а радыёпраграмы — на стандартных аўдыёкасетах разам з двума экземплярамі сцэнарыя. Тэлепраграмы прымаюцца на відэакасетах стандарту BETAKAM SP-pal; SVHS-pal; VHS-pal, secam, таксама разам з двума экземплярамі сцэнарыя.**

**Лаўрэаты прэміі будуць аб'яўляцца штогод 3 верасня — у дзень нараджэння А. Адамовіча.**

## ПРЭМІІ ЧАСОПІСА "ПОЛЫМЯ"

**Рэдакцыйнай калегіяй часопіса "Полымя" прысуджаны прэміі за лепшыя творы, апублікаваныя на яго старонках у 1994 годзе. Лаўрэатамі сталі: В. Быкаў (апавяданні "На Чорных лядах", "Перад канцом", "Бедныя людзі"), Г. Бураўкін (вершы з кнігі "Узмах крыла"), Л. Пракопчык (нарыс "Ад валокі да соткі"), І. Навуменка (артыкул "Ранні Бядуля"), Г. Кісліцына (рэцэнзія "З жыцця рэчаў"), Я. Янушкевіч (праца "Неадменны сакратар Адраджэння, альбо Эсэ пра Вацлава Ластоўскага").**

## А БЫЛА І "САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ"

**Менавіта так называлася штодзённая грамадска-палітычная газета, што выходзіла з 1 лютага 1920 да 21 сакавіка 1933 года. У адрозненне ад "Советской Белоруссии" — на роднай мове. І ў адрозненне ад сённяшняй "СБ" нямала зрабіла па кансалідацыі грамадства на нацыянальнай ідэі, дзеля нацыянальнага адраджэння. Адказнымі рэдактарамі "Савецкай Беларусі" ў розны час з'яўляліся С. Булат, Хв. Жылуновіч (Цішка Гартны), У. Ігнатоўскі, М. Чарот і іншыя.**

**Газета вялікую ўвагу ўдзяляла пытанням станаўлення і развіцця беларускай школы, друку, літаратуры і мастацтва. Менавіта на яе старонках пабачылі свет многія творы, якія па сённяшні дзень знаходзяцца ў актыўным набытку беларускай літаратуры. Сярод іх — вершы Я. Купалы "На смерць Сцяпана Булата", "Шляхам гадоў", "Сыходзіш, вёска, з яснай явы...", паэмы М. Чарота "Босыя на вогнішчы" і "Карчма", байкі, фельетоны К. Крапівы, вершы Я. Коласа, У. Дубоўкі, Я. Пушчы, А. Дудара, А. Куляшова, М. Лужаніна... "Савецкая Беларусь" друкавала прозу М. Зарэцкага, М. Лынькова, Ц. Гартнага, К. Чорнага...**

**Было праведзена шэраг дыскусій. У прыватнасці, прайшлі гаворкі, прысвечаныя праблемам БДТ-1, творчасці Ц. Гартнага, М. Чарота, М. Грамыкі, аб шляхах развіцця беларускага тэатра і кінематографа.**

**"Савецкая Беларусь" выпускала і літаратурныя дадаткі — "Радавая рунь" і "Чырвоная краіна", а таксама "Літаратурны дадатак да газеты "Савецкая Беларусь".**

**З вышыні сённяшняга дня няцяжка заўважыць, што асобныя публікацыі мелі тэндэнцыйны характар, асобным пісьменнікам перападала за наяўнасць рознага роду "памылак". Тым не менш, "Савецкая Беларусь" — яркая старонка ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці.**

Юбілеі

# ХАЙ НЕ ПЛЫТЧЭЕ "НЁМАН"!

Такое было галоўнае пажаданне юбіляру на вечарыне, прысвечанай 50-годдзю часопіса "Нёман", што адбылася ў мінулую пятніцу ў мінскім Доме літаратара.

"Нёману" — пяцьдзесят? Не можа быць, — усклікнуць многія прыхільнікі гэтага рускамоўнага ў Беларусі часопіса. — Ён жа нарадзіўся ці не ў шасцідзесятыя гады!" Так гэта і не так. Гледзячы, ад якой зыходнай кропкі лічыць. А лічыць трэба ўсё ж са студзеня 1945 года, калі ў Мінску выйшаў першы нумар літаратурнага альманаха "Отчизна". Потым была "Советская Отчизна" — ужо часопіс, які выходзіў раз у два месяцы. А з 1960 года часопіс набыў сваё сённяшняе імя — "Нёман" (хоць, папраўдзе, "Нёманам" стаў зусім нядаўна, доўгі ж час імя нашай слыннай ракі, якая дала назву часопісу, пісалася на рускі манер праз "е" — "Неман").

Зрэшты, ёсць і яшчэ адна кропка адліку. У 1932 годзе ў Вільні выходзіў літаратурна-мастацкі і навуковы часопіс пад такою ж назваю "Нёман", але выходзіў па-беларуску. Значыць, гэта ўсё ж не той продак, ад якога "пайшоў" сённяшні юбіляр.

"Нёман" — аўтарытэтнае выданне. Яшчэ зусім нядаўна сярод выданняў Беларусі ён меў самы вялікі тыраж — пад дзвесце тысяч экземпляраў. Яно, праўда, тры чвэрці тыражу ішло за межы Беларусі, аднак жа гэта не бянтэжыла нікога. Наадварот, суцяшала, бо так і трэба было. "Нёман" сваімі перакладамі лепшых здабыткаў нашай літаратуры на рускую мову нёс яе чытачам усяго вялікага Савецкага Саюза. Сёння таго, што раньш было, ужо няма, як няма і вялікага Савецкага Саюза. Тыраж "Нёмана" набыў, так бы мовіць, "натуральныя" памеры, стаў сувымерны з тыражамі іншых нашых літаратурна-мастацкіх выданняў. Але, тым не менш, імідж часопіса застаўся высокім, ён па-ранейшаму робіць сваю работу прапагандыста нашай літаратуры на прафесійным узроўні, друкуючы, само сабою, і творы тых нашых пісьменнікаў, якія пішуць па-руску. І за гэта калектыву рэдакцыі было сказана на вечарыне, якую вялі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіль Зуёнак і галоўны рэдактар "Нёмана" Анатоль Кудравец, нямала цёплых, шчырых слоў пашаны і ўдзячнасці. Былі віншаванні ад адміністрацыі прэзідэнта і прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра, віталі юбіляра міністр замежных спраў Уладзімір Сянько і намеснік міністра культуры і друку Іван Карэнда, гаварылі добрыя словы пра часопіс Янка Брыль і Іван Чыгрынаў, Віктар Каваленка і Вольга Іпатава, рэдактары часопісаў "Полымя" Сяргей Законнікаў і "Маладосць" Генрых Далідовіч, згадаў тых, хто многія гады працавалі ў "Нёмане", нямала зрабілі для яго ўзвышэння і аўтарытэту і каго сёння няма ўжо, Валянцін Тарас. Гучалі на вечарыне і словы ад імя чытачоў часопіса, у тым ліку і з так званага сёння блізкага замежжа.

Аздобіў жа юбілейную вечарыну невялікі канцэрт, у якім прынялі ўдзел Віктар Скарабагатаў, Ганна Каржанеўская і Ігар Алоўнікаў.

**Н. К.**

# АХВЯРАМ РЭПРЭСІЙ — РУКУ ДАПАМОГІ

У канцы 1988 года ў Мінску быў створаны Мартыралог Беларусі — гісторыка-асветніцкая арганізацыя. Уладам ён не прыйшоўся даспадобы і ў рэгістрацыі яму было адмоўлена.

Тым часам у Маскве быў створаны Мемарыял — таварыства, што аб'ядноўвала ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Затым там узніклі роднасныя арганізацыі, у тым ліку Усесаюзная асацыяцыя ахвяр незаконных рэпрэсій. На Беларусі ў 1989 г. у Бабруйску, а крыху пазней у Гродне, Брэсце, Гомелі ўзнікаюць аддзяленні Усесаюзнай асацыяцыі. Гэтыя чатыры мясцовыя рэгіянальныя суполкі былі ў ліку ўтваральнікаў Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій, устаноўчы з'езд якой адбыўся 7 лютага 1992 года.

БААПР з Мартыралогам Беларусі суіснуюць як роднасныя, больш таго, сяброўскія паралельныя арганізацыі. Мартыралог застаецца гісторыка-асветніцкай арганізацыяй, якая збірае матэрыялы пра рэпрэсіі, вядзе архіў. Мэта ж грамадскай арганізацыі БААПР — садзейнічаць ахвярам палітычных рэпрэсій па некалькіх накірунках. Адна з галоўных мэт асацыяцыі — садзейнічанне поўнай і публічнай рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій. Ёсць і шэраг іншых задач: увекавечанне памяці ахвяр палітычнага тэрору, пошукі месцаў пахаванняў рэпрэсаваных, устанаўленне ім помнікаў, аказанне матэрыяльнай, сацыяльна-бытавой і іншай дапамогі пацярпелым ад палітычных рэпрэсій.

Вышэй ужо гаварылася, што ля вытокаў БААПР былі чатыры аб'яднанні: Бабруйскае, Гродзенскае, Брэсцкае і Гомельскае. Цяпер БААПР налічвае 13 філій. Акрамя пералічаных, былі ўтвораны Пухавіцкая раённая суполка, Маладзечанскае гарадское аб'яднанне, Карэліцкая раённая суполка, Стаўбцоўская раённая суполка, Баранавіцкае гарадское аддзяленне і інш.

Істотным дасягненнем было стварэнне Мінскай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій у пачатку мінулага года, якая аб'яднала каля 2500 рэпрэсаваных па палітычных матывах.

На жаль, у Беларусі яшчэ не прыняты закон аб рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій, у той час як такія законы ўжо ёсць у Расійскай Федэрацыі і Казахстане. Пакуль што ў нас дзейнічае толькі Палажэнне 1990 г., падпісанае яшчэ Гарбачовым.

Як гэта ні балюча, але трэба адзначыць, што ў нашай рэспубліцы мае месца пэўная дыскрымінацыя палітвязняў у параўнанні з іншымі катэгорыямі насельніцтва, якія маюць права на льготы, з тымі ж, напрыклад, ветэранамі вайны і працы. Вось яскравы таму прыклад. З нагоды святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў матэрыяльную падтрымку атрымалі ветэраны і інваліды вайны, работнікі тылу, вязні нямецка-фашысцкіх лагераў і інш. Не было сярод іх толькі былых вязняў сталінскіх лагераў. Кіраўніцтва БААПР звярнулася з адкрытым лістом да Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіча ("Звязда", 26.05.94 г.), у якім указвалася, што былыя вязні ГУЛАГа ў часы вайны чатыры гады працавалі ў савецкім тыле, хай і ў сталінскіх лагерах (не па сваёй, вядома, волі). У звароце было адзначана, што такая няўвага з'яўляецца недапушчальным парушэннем элементарнай справядлівасці і законнасці ў дачыненні да людзей, у якіх трэба прасіць прабачэння і якія вартыя таго, каб дзяржава забяспечыла хоць бы іх старасць. Адказу на гэты ліст не было.

Як сведчаць архіўныя даныя, у Беларусі было рэпрэсавана не менш чым 600 тысяч чалавек. Значная частка іх была расстраляна.

У нашай рэспубліцы лагераў ГУЛАГа не было. На тэрыторыі Беларусі адбывалі тэрмін пакарання асуджаныя не больш як на тры гады. Усе астатнія зняволеныя накіроўваліся ў лагеры, якія размяшчаліся ў большасці на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі. Вядома не менш 16 лагераў, у якіх былі беларусы.

Сіламі нявольнікаў былі пабудаваны тысячы кіламетраў чыгунак: Котлас — Варкута, Караганда — Балхаш, чыгункі ўздоўж фінскай і іранскай граніц і шмат іншых. Вязнямі пабудаваны гарады Нарыльск, Дудзінка, Северадзвінск, Дубны, электрастанцыі Куйбышаўская, Усць-Каменагорская, Камская, Салікамскі папяровы камбінат, часткова Магнітагорскі і Кузнецкі камбінаты.

Зняволеныя ГУЛАГа здабывалі радыеактыўныя элементы — уран і радый, працавалі на заводах па выпрацоўцы цяжкай вады, на многіх іншых строга сакрэтных аб'ектах атамнай прамысловасці, узводзілі звышсакрэтныя гарады.

Былыя вязні, якія адбылі свой тэрмін і пакуль не рэабілітаваныя, цяпер з'яўляюцца свабоднымі грамадзянамі Беларусі і да іх неабходна таксама праяўляць увагу, аказваць дапамогу.

На ўстаноўчым з'ездзе БААПР у 1992 г. у рэзалюцыю быў уключаны пункт, у якім гаварылася: "З'езд уносіць прапанову ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь заканадаўча прызнаць масавыя палітычныя рэпрэсіі злачыннымі дзеяннямі і кваліфікаваць іх як генацыд супроць народа Беларусі". На жаль, Вярхоўны Савет прапановы гэтай не падтрымаў. Трэба спадзявацца, што пасля маючых адбыцца выбараў новы склад Вярхоўнага Савета паставіцца да гэтай ідэі больш спрыяльна.

Надзейнай гарантыяй таго, што масавыя палітычныя рэпрэсіі больш на беларускай зямлі не паўторацца, можа быць існаванне незалежнай прававой дэмакратычнай дзяржавы.

**Г. ШТЫХАЎ,**
**доктар гістарычных навук, сябра БААПР**

# РЭЛІГІЯ І АТЭІЗМ

*(Пачатак на стар. 3)*

гістарычна склаліся як шматканфесійная супольнасць, і парушаць такую традыцыю было б раўназначна самазабойству. Пэўна, гэтага свядома ці падсвядома і жадаюць ідэолагі "самой правой веры на Белой Руси", але спадзяванні іх марныя. Сярод прычын не апошняя — і ў самой праваслаўнай царкве.

Працэс рэхрысціянізацыі на Беларусі носіць даволі дэмакратычны характар, і таму, натуральна, узнікае канкурэнцыя між рознымі плынямі. Калі да эканамічнага рынку нам яшчэ далёка, то "рынак" рэлігійна-канфесійны ўжо працуе. Дык вось, "курс акцый" праваслаўя на ім адзін з самых нізкіх, бо цікавасць людзей скіравана ў першую чаргу да больш дынамічных і дзейсных вучэнняў, да тых, хто спрабуе адказаць на складаныя пытанні сучаснасці. Рускае ж праваслаўе на гэтым фоне выглядае не самым прывабным: закасцянелае і архаічнае, збюракрачанае і дэградаваўшае пад каўпаком камуністычных улад інтэлектуальна і маральна, зноў спрабуючае ўзняць злінялыя харугвы вялікамаскоўскага месіянства, а заадно стаць часткай палітычнага махавіка новай улады. Магчыма, такая характарыстыка задужа рацыянальная, свецкая і, бадай, жорсткая, аднак для Беларусі вельмі блізкая да ісціны.

Асабліва шкодзяць прэстыжу РПЦ няўклюдныя палітычныя акцыі, якія выглядаюць непрыхаванымі спробамі "ўсходняга ціску" ці проста намаганнямі паставіць беларуса на "сваё" месца — у куток для малодшага брата ў расійскай хаце. Гэта нішто іншае, як сведчанне нямоглага кансерватызму, няздольнасці адшукаць сучасныя формы існавання, адпаведныя новым гістарычным умовам, нежаданне пазбавіцца старых праімперскіх звычак і прымхаў. Вось чаму перспектывы артадаксальнага праваслаўя на Беларусі не вельмі радасныя, вось чаму ад яго адвярнулася значная частка інтэлігентных і асабліва нацыянальна свядомых людзей. Любыя з апанентаў РПЦ — і эмацыянальныя, напорыстыя евангелісты, і класічна-стрыманыя, асцярожныя каталікі, і экзатычныя прагматыкі-мармоны, і нават малавядомыя пакуль уніяты — могуць пашырыць свой уплыў за кошт "намінальна-праваслаўнай" паствы.

Зрэшты, справы гэта царкоўныя і вырашаць іх самім вернікам, задача ж нашай дзяржавы, якая павінна застацца выключна свецкай, ствараць роўныя ўмовы для ўсіх чатырох плыняў хрысціянства — уніяцтва, пратэстанцтва, каталіцызму і праваслаўя, якія маюць гістарычныя карані на гэтай зямлі. Не думаю, што канкурэнцыя канфесій на Беларусі стане занадта вострай ці антаганістычнай. На вуліцы ўсё ж не XVII, а канец XX ст., і традыцыйнымі рэлігійнымі праблемамі, на жаль, не вычэрпваецца духоўная сітуацыя часу, а само хрысціянства ўжо не на вастрыі развіцця грамадскай свядомасці, пошукаў новых мэт і каштоўнасцей, што, аднак, не азначае поўнай непатрэбнасці рэлігіі і царквы і зняважлівага да яе стаўлення. Як бы там ні было, хрысціянская традыцыя — наша маці, і мы, нягледзячы на ўсю сваю бязбожнасць і савецкасць, звязаны з ёю кроўнымі і духоўнымі ніцямі. Якой бы старой і непатрэбнай яна нам ні здавалася, паважаць, шанаваць і ведаць яе — доўг любога культурнага чалавека. Не ведаючы сваіх каранёў, асабліва хрысціянскіх, мы не зможам адбудаваць трывала і надзейна свой кавалак гісторыі, які б у сваю чаргу стаў падмуркам для нашых нашчадкаў і спадкаемцаў.

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў*

*Ушчувайце, дакарайце мяне, аднак жа прызнаюся: гаварыць пра "Дайнову" аб'ектыўна, так бы мовіць, нейтральна я наўрад ці змагу. "Дайнова" — гэта традыцыі і сучаснасць! "Дайнова" — гэта стыль і надзейнасць! "Дайнова" — гэта мелодыя магутнасці! "Дайнова" — гэта камп'ютэры і іншая складаная тэхніка, гэта танны метал і шмат што з металу! "Дайнова" — гэта самая прывабная рэклама на нашым тэлебачанні і ў друку. "Дайнова" — гэта сардэчныя, шчырыя, паэтычныя віншаванні ўсіх добрых людзей з Калядамі, Вялікаднем, Радаўніцай, Дзядамі...*

*Карацей кажучы, я ўпэўнена, што няма ў Беларусі чалавека, які б не ведаў слаўную фірму з роднаю, тутэйшаю назваю, (Дарэчы, не выдуманую: на Беларусі не адна вёска носіць такое, альбо блізкае імя - Дойнічы, Дойнічава, Дайнова... Адкуль яно, гэтае імя? Хто ж ведае. Міжволі, і, можа, слушна, згадваецца, што летувіскае* дайна *і малдаўскае* дойна *азначаюць адно і тое ж: песня, мелодыя).*

*Ну, а я ж яшчэ не сказала самае галоўнае пра гэтую салідную фірму, якая займаецца вытворчасцю і праграмным забеспячэннем самай складанай сучаснай тэхнікі, пра фірму, дакладны і адладжаны механізм якой выконвае цэлы шэраг вытворчых, гандлёвых і сэрвісных функцый. Не сказала пра тое, што, можа, найперш паспрыяла стварэнню слаўнага іміджу "Дайновы" — пра напрамкі ўкладання сваіх прыбыткаў. Напрамкі гэтыя — нацыянальна-адраджэнскі, культурна-асветны, экалагічны. Высокая нацыянальная свядомасць (беларускасць) і выкшталцоны густ дапамагаюць фірме займець сваё, адметнае аблічча, якое не зблытаеш ні з якім іншым. Дайноўцы шчыра, унутрана, сардэчна (а не напаказ) зацікаўлены тым, каб развівалася, займала свае гаспадыньскае месца ў нашым жыцці родная мова, каб адраджалася наша культура, вярталася з нябыту наша гісторыя. І не шкадуюць на гэта грошай.*

*Вядома, мецэнацтва, фундатарства для "Дайновы" — не самамэта. Але разуменне таго, што без агульнага культурнага, духоўнага ўздыму грамадства не будзе і працвітання эканамічнага, што здэнацыяналізаванае, манкурцкае грамадства не прыйдзе да цывілізаванай рынкавай эканомікі, — гэтае разуменне праходзіць праз дзейнасць фірмы, як кажуць, чырвонаю ніткаю. Бо гэта ж відавочна: малакультурны, неадукаваны чалавек, плебей духу, люмпен не здатны быць гаспадаром, і ўзровень жыцця чалавечага вызначае не так, бадай, узровень матэрыяльнага дастатку, як узровень духоўнасці. "Дайнова" — адданы і надзейны фундатар не проста шматлікіх дабрачынных, культурных акцый, а, па вялікім рахунку, фундатар нашае нацыянальнае культуры наогул.*

*Дарэчы, можа, самае вялікае дасягненне апошніх гадоў якраз у тым, што ў нашым грамадстве з'явіліся людзі, якія перасталі спадзявацца на ўрад, на добрага дзядзьку, а аддаюць перавагу ўласным сілам, уласнаму розуму. Людзі, якія займелі ўнутраную свабоду, якія паверылі ў сябе. Сярод такіх людзей — прэзідэнт "Дайновы" Адам Палюховіч. Малады, элегантны, падцягнуты, выхаваны, з бездакорнай беларускай гаворкаю. Сапраўдны лідэр, здольны павесці за сабою многіх.*

*Не магу не сказаць і пра тое, што наш штотыднёвік таксама неаднойчы атрымліваў дапамогу і падтрымку "Дайновы". Наша ўдзячнасць фірме і непасрэдна яе прэзідэнту спадару Палюховічу — шчырая і заўсёдная: без тэхнічнага забеспячэння, атрыманага з "Дайновы", наш "ЛіМ" наўрад ці здолеў бы выжыць. Без "Дайновы" не мог бы "ЛіМ" і праводзіць вось ужо трэці год запар конкурс на лепшыя публікацыі года...*

*А кажу гэта ўсё я вось з якое нагоды. Дбаючы пра адраджэнне духоўнай, культурнай спадчыны, клопат аб чым узяла на сябе "Дайнова", не забывае яна і на дзень сучасны, на ягоныя запатрабаванні. Сучаснасць для фірмы - гэта яшчэ і пашырэнне, развіццё тых накірункаў працы і турбот, якія прынеслі і прыносяць ей найбольшы плён. Сучаснасць — гэта тое новае, што на слыху ва ўсіх з нас, — прыватызацыя. "Дайнова" не засталася ўбаку ад гэтай новай явы дня. Яна стварыла свой інвестыцыйны фонд — "Дайнова-Інвест". Менавіта ён і выклікаў нашу зацікаўленасць. Закарцела даведацца, што гэта за яблык, узрошчаны фірмай-яблыняй, і ці далёка адкаціўся ён ад мацярынскае кроны. Пра гэта — мая гаворка з дырэктарам фонду "Дайнова-Інвест" Наталляй ГАНЧАР.*

## "ДАЙНОВА" — "ДАЙНОВА-ІНВЕСТ":

# ЯБЛЫК АД ЯБЛЫНІ...

**— Наталля Мікалаеўна, мы, грамадзяне Беларусі, займелі права на атрыманне імянных прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць". Нам абяцаюць, што чэкі — гэта своеасаблівы наш стартавы капітал у справе прыватызацыі і адзіная — для большасці з нас — магчымасць удзельнічаць у ёй. Акумулятарамі чэкаў сталі нашы новыя структуры, пра якія мы калісь нават і не чулі, — інвестыцыйныя фонды. Стварыла інвестыцыйны фонд і фірма "Дайнова". Якія яго мэты, задачы, функцыі?**

— Так, "Дайнова" заснавала свой інвестыцыйны фонд "Дайнова-Інвест", старшынёй праўлення яго стаў прэзідэнт фірмы Адам Палюховіч. Задача фонду — збор прыватызацыйных чэкаў ад насельніцтва і праз гэта — удзел у прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў. Як вядома, пяцьдзесят працэнтаў дзяржаўнай маемасці будзе прадавацца за чэкі. Гэта дае магчымасць нам удзельнічаць у кіраванні раздзяржаўленымі прадпрыемствамі, аказваць уплыў на іх дзейнасць. Эфектыўнасць работы прадпрыемстваў залежыць найперш ад таго, хто і як будзе імі кіраваць. Чаму б не паспрабаваць і "Дайнове" рабіць гэта? "Дайнова" цягам не аднаго ўжо года сцвердзіла, што ўмее працаваць надзейна, стабільна і прыбыткова. Чаму ж не сабраць чэкі ў людзей, укласці іх у прадпрыемства, можа, нават і яшчэ якія сродкі ўкласці ў яго і атрымаць у выніку ад усяго гэтага максімальны прыбытак? І чым больш мы акумулюем чэкаў, тым больш набудзем акцый і тым эфектыўней зможам уздзейнічаць на нашу эканоміку, на сам працэс прыватызацыі ў нашай дзяржаве. Мы ж прыйшлі, як сёння стала модна гаварыць, усур'ёз і надоўга. Мы, гэта значыць, "Дайнова", не збіраемся сыходзіць з абранай дарогі — дарогі ў цывілізаваную рынкавую эканоміку. Гэта наша краіна, наша Бацькаўшчына, і мы ўсе ў "Дайнове" ўпэўнены, што і ад нашай работы залежыць будучыня нашай эканомікі, будучыня нашых акцыянераў.

**— Што можаце сказаць пра першыя крокі дзейнасці "Дайновы-Інвеста"?**

— Яшчэ раз пераканаліся, што імідж "Дайновы" — высокі і непахісны. Людзі ідуць да нас, нясуць нам свае чэкі, сям-там нават цярпліва стаяць у чарзе ля акенцаў ашчадных кас і ў паштовых аддзяленнях, дзе афармляюцца здзелкі абмену чэкаў на акцыі. І мы рады, што людзі нам вераць, што яны разумеюць: "Дайнова", як і яе "Дайнова-Інвест" — гэта надзейнасць, сумленнасць і стабільнасць.

**— Наталля Мікалаеўна, якія прадпрыемствы найперш у полі зроку вашага фонду?**

— Гэта тыя ж прадпрыемствы, якія цікавяць і саму фірму "Дайнова", знаходзяцца ў сферы яе вытворча-эканамічных інтарэсаў, дзе фірма паспела напрацаваць досыць багаты вопыт. Эксперты фонду распрацавалі шэраг інвестыцыйных праектаў, якія дазваляюць максімальна эфектыўна выкарыстоўваць чэкі нашых акцыянераў. Гэтыя праекты датычаць найперш такіх галін эканомікі, як вытворчасць металапрадукцыі, энергетыка, лёгкая прамысловасць, будаўніцтва, гандаль, вытворчасць сучаснай складанай тэхнікі. Хочацца спадзявацца, што рэалізацыя нашай інвестыцыйнай праграмы забяспечыць рост курсавой вартасці акцый фонду.

**— Колькі каштуе ваша акцыя?**

— Намінальны кошт адной акцыі — 2500 рублёў. Зроблена гэта для зручнасці абмену на чэкі, кошт якіх таксама 2500 рублёў.

**— Значыць, так: перадала я вам свае чэкі, стала ўладальніцай акцый таго ці іншага прадпрыемства. А што далей? Усе мы хацелі б стаць не проста акцыянерамі, а партнёрамі па саліднай справе. Толькі ж праблема раздзяржаўлення дзяржаўнай маемасці ўсе больш, здаецца, становіцца праблемай не столькі эканамічнай, як палітычнай. Новую ўладу не задаволіў ранейшы падзел маемасці, калі найбольш прыбытковыя аб'екты аказаліся ў руках найбольш уплывовых асоб і структур старой улады. У навагоднім віншаванні прэзідэнт заявіў, што падпіша ўказ аб новым этапе прыватызацыі і мерах па яе ўдасканаленні ў інтарэсах народа. Толькі ўсё меней верыцца, што нехта дбае пра народ. У пыл ператварыліся нашы працоўныя сберажэнні і гэтак жа ў пыл ператварыліся зберажэнні прадпрыемстваў. Ці не для таго, каб хоць трошкі неяк нас супакоіць, нам выдалі гэтыя самыя чэкі? Яны сапраўды паспрыяюць прыватызацыі?**

— Прыватызацыя — гэта адзін са сродкаў вывесці нашу эканоміку з глыбокага крызісу. Адна справа, калі, скажам, завод ці фабрыка не маюць гаспадара, і зусім іншая — калі прадпрыемствам кіруюць канкрэтныя, зацікаўленыя ў ягонай прыбытковай працы людзі. Ад прыватызацыі нам не ўцячы. Усе заходнія краіны ў гэтым сэнсе даюць нам добры прыклад. Іх вопыт сведчыць, што дзяржава — кепскі прадпрымальнік, нават аніякі, калі па шчырасці. І калі мы ўжо ўзяліся за гэтую справу, дык трэба верыць у тое, што робім. А інакш навошта было лапці плесці — ствараць фонд? Перад нашымі акцыянерамі нясём адказнасць мы, а не дзядзька. Пакуль што на небакраі не відаць багатых інвестараў, якія б паднялі нашу эканоміку. Сродкі дадуць, павінны даць менавіта інвестыцыйныя фонды, буйныя інвестыцыйныя кампаніі. Аднак жа, не буду крывіць душой, на рэчы трэба глядзець рэальна. Гаварыць, што ў сённяшніх умовах ужо заўтра мы і нашы акцыянеры атрымаюць значныя дывідэнды, будзе, мякка сказаць, хлуснёй. Вядома, можна і горы залатыя наабяцаць, каб прыцягнуць як мага больш людзей. Але мы прынцыпова гэтага не робім і не будзем рабіць. Наш фонд, бадай, адзіны, які гаворыць тое, што мы сапраўды прыкладзём усе намаганні для рэалізацыі нашых праектаў.

**— Наталля Мікалаеўна, а мо нам, смяротным, варта было б укладваць свае чэкі непасрэдна ў нейкае прадпрыемства, абмінаючы інвестфонды?**

— Вось тут я кажу катэгарычнае "не". А ні ў якім разе! Як вядома, ёсць тры шляхі выкарыстання чэкаў. Вы можаце прадаць іх, атрымаць сёння палову ці нават меней іх намінальнай вартасці, трацячы пры гэтым права хоць нешта атрымаць у будучым і вам самім, і вашым дзецям. Другі шлях — гэта, як вы кажаце, укласці іх непасрэдна, напрамую ў прыватызацыю нейкага прадпрыемства. Але ж вы не зможаце без адпаведнай эканамічнай падрыхтоўкі разумна выбраць гэтае прадпрыемства, ацаніць яго стан, магчымасці і перспектывы развіцця, і пры благім збегу абставін лёгка страціце абсалютна ўсё. Самае рэальнае выйсце — гэта ўкласці чэкі ў інвестыцыйныя фонды. Тут аб лёсе вашых чэкаў паклапоцяцца высокакваліфікаваныя спецыялісты. І калі ўжо ім не ўдасца дамагчыся добрага выніку, дык вам тым больш.

**— Тым не менш, вельмі многія прадаюць свае чэкі. Сама бачыла ў ашчадных банках чэргі (хай невялікія) да акенцаў, дзе скупляюцца чэкі. Скупляюць іх і розныя дзялкі ад камерцыі.**

— Што ж, ёсць людзі, якія адчулі камерцыйны смак да такіх здзелак. Яны скупляюць чэкі, фарміруюць пакеты ад 500 і больш чэкаў і прадаюць буйным кампаніям, якія зацікаўлены ў куплі акцый прадпрыемстваў. Скупляюць чэкі па 1000 - 1500 рублёў, а прадаюць удвая даражэй. Прыбытак, як бачыце, стопрацэнтны. Наш фонд адгаворвае людзей прадаваць чэкі. Больш таго, мы прынцыпова не купляем іх, і гэта наша сённяшняя ўзважаная пазіцыя. Гэтым самым мы пазбаўляем замежныя інвестыцыйныя кампаніі магчымасцей пранікнуць на наш рынак і скупіць нашы прадпрыемствы. Чэкі людзі атрымалі імянныя. А вось як толькі яны прадаюцца, гэтая іменнасць адразу ж губляецца, яны пачынаюць абязлічвацца, ператвараюцца ў буйныя пакеты чэкаў, і кампаніі, якія іх купляюць, становяцца іх уладальнікамі. Адначасова гэтыя кампаніі становяцца ўладальнікамі той часткі дзяржаўнай маёмасці, якую можна набыць за чэкі. Кампанія, скупляючая чэкі, можа быць не толькі беларускай, і гэта якраз той выпадак, калі трэба казаць аб праніканні замежнага капіталу. Па існуючай ацэнцы дзяржаўнай маёмасці яе можа цалкам набыць любая вялікая замежная кампанія, а гэта не самы лепшы варыянт прыватызацыі. У нашым выпадку, калі мы мяняем чэкі на акцыі, абязлічванне не адбываецца. Мы бяром на сябе адказнасць перад канкрэтным чалавекам, які паверыў нашаму фонду.

**— Наталля Мікалаеўна, а што вам замінае ў рабоце? Што перашкаджае, калі можна так сказаць, разгарнуцца па-сапраўднаму, як гэта ўмее рабіць ваша заснавальніца "Дайнова"? Выбачайце, але мне чамусьці здаецца, што нейкія перашкоды ёсць.**

— Ёсць, вядома. І самая галоўная — адсутнасць да гэтага часу закона аб інвестыцыйных фондах, хоць праект яго даўно ўжо існуе. Інвестыцыйны фонд — гэта буйная акцыянерная кампанія, парадку мільёна чалавек складнікаў. І законы аб звычайных акцыянерных таварыствах, скажам, нам не падыходзяць. Няма і многіх нарматыўных дакументаў, з-за адсутнасці якіх сабраныя чэкі па паўгода не працуюць, бо не ўкладзены ў тое ці іншае прадпрыемства. Ход прыватызацыі наогул пачаў нагадваць стаячую лужыну, а не хуткаплынную рэчку. Яшчэ адзін нюанс. Лімітнае размеркаванне акцый у залежнасці ад наяўнасці прыватызуемых аб'ектаў на дадзенай тэрыторыі таксама не спрыяе чэкавай прыватызацыі. Вось прыклад. Акцыі маргарынавага завода ў Мінску расхапалі адразу ж, а ў Маладзечне гэтыя ж акцыі ляжаць ужо з паўгода, а інвестыцыйны фонд не можа іх атрымаць. Адбываецца штучнае замарожванне акцый. Варта вызначыць нейкі тэрмін запатрабавання акцый, скажам, месяц. Калі за гэты час яны не запатрабаваны, іх мае права набыць інвестыцыйны фонд. Карацей кажучы, калі няма закона, дык прарэхаў хапае.

**— Вернемся да "Дайновы-Інвеста". Чым яшчэ прываблівае акцыянераў ваш фонд? Ці ёсць для іх нейкія, так бы мовіць, ільготы?**

— Так, ёсць. Фонд прадастаўляе наступныя льготы: жанчынам, якія дасягнулі 55 гадоў, і мужчынам пасля 60 гадоў за куплю 100 акцый адна акцыя даецца бясплатна, усім астатнім гэтая бясплатная акцыя дадаецца да купленых 200. Выплата дывідэндаў па акцыях нашага фонду будзе адбывацца не радзей аднаго разу ў год.

**— Якія правы вашых акцыянераў?**

(Працяг на стар. 12)

— вершы "Пантэра", "Сабор", "Акно-ружа", "Лебедзь" і інш. Безумоўна, знак роўнасці паміж эстэтычнымі канцэпцыямі Рыльке і А. Разанава паставіць нельга, але агульнага ў іх шмат. Творы абодвух — славаспеў рэчы, абодва яднаюць мінулае, цяперашняе і будучае, нібы зводзячы іх у адзіную плоскасць вечнага існавання. Адносна гэтага існавання і парадаксальныя сцвярджэнні А. Разанава прымаюцца намі як лагічныя і натуральныя ("Вяртаюся ў заўтра..." або "Будучыня перайшла ў мінулае..."), і надчасавасць Рыльке не выклікае сумневу:

**...И вновь без возраста природа,**
**И дни, и вещи обихода,**
**И даль пространства, как стих псалма.**

*("Сузіранне". Пер. Б. Пастэрнака)*

Абодва імкнуцца зазірнуць у рэч, каб адшукаць, апроч іншага, яе душу. У Рыльке, прыкладам: "Das Rosen — Innere" — "душа ружы"; у А. Разанава:

**Ніцма ляжыш**
**І ў глыбокім сненні**
**Хаваеш сваю душу.**

Больш таго, А. Разанаў увасабляе ў гліне жаночы пачатак, свет жаночых пачуццяў і станаў — чакання, разгубленасці, затоенасці, жадання:

**Растворана ў ёй**
**Магічная сіла,**
**У ёй**
**Прадугадваецца жанчына...**

**Любіць,**
**Каб яе лашчылі,**
**Песцілі,**
**Бралі ў рукі.**
**Тады яна ажывае.**
**Тады яна робіцца**
**Чуйнай і паслухмянай...**

У абодвух гучыць матыў роўнасці чалавека і Бога (ці нават вяршыннасці чалавека). У Рыльке гэты матыў прысутнічаў ужо ў "Часаслове":

**И всех творений кисти нашей суть**
**в том, чтоб природу,**
**что создал ты тленной,**
**тебе вовек нетленною вернуть...**
**... Умри я — и со мной уйдут**
**Твой смысл, твой дом, весь твой уют,**
**Моими созданный словами.**

*(Пер. А. Карэльскага)*

У А. Разанава чалавек здольны зрабіць з гліны "нават Бога".

І ў аўстрыйскага, і ў беларускага паэтаў рэч валодае мажлівасцю не толькі быць убачанай, але і самой "бачыць". У Рыльке гэты матыў надзвычай завостраны ў вершы "Архаічны торс Апалона": тут глядзіць, углядаецца ў сябе і ў нас мармуровы абрубак, без галавы і, значыць, без вачэй! І ў А. Разанава гліна можа не толькі "адказаць" і "запомніць", але і "пачуць" і "ўбачыць", ды не кожнага, а таго, хто здолее абудзіць

**Дух,**
**Што стаў плоццю.**

Як мне здаецца, не толькі філасофска-эстэтычныя погляды Рыльке і А. Разанава нярэдка ствараюць уражанне дзіўнага сугучча; тое ж можна сказаць пра стан лірычнага героя абодвух — і, безумоўна, саміх аўтараў: стан самапаглыблення, самаросшуку. Можа, гэта вынік часу творцаў, шмат у чым падобнага? Рыльке наканавана было жыць у эпоху "канца веку" і "канца веры" ("памёр Бог"), у эпоху fin de siecle, і жыццё яго было бясконцым духоўным змаганнем, невыносна цяжкім і радасна-светлым адначасова:

**Когда себя в конце итожит век,**
**всегда один найдется человек,**
**что, распрямившись от вериг и уз,**
**поднимет разом весь столетний груз**
**и бросит в пропасть собственной груди.**

*(Пер. А. Карэльскага)*

А. Разанаў — адзін з нямногіх, хто апраўдвае сённяшняе існаванне беларускай нацыі — жыве і творыць па волі лёсу таксама напрыканцы стагоддзя і нават тысячагоддзя, і адчуванне "канца" дае аб сабе знаць у паэме — зноў жа, як у Рыльке, поруч з надзеяй:

**Пусцеюць радовішчы,**
**Рэкі**
**Спрабуюць цячы назад.**

**Безгалоса**
**Выстройваюцца тысячагоддзі**
**Адно за адным,**
**Ды нічым**
**Не могуць дапамагчы**
**І парадзіць нічым не могуць**
**Гэтаму крайняму дню,**
**Гэтаму крайняму году.**

**І толькі гліна**
**Бярэцца правесці**
**Па-над прадоннем**
**Сваёю дарогай**
**Пакінутага чалавека.**

Зрэшты, А. Разанаў і ранейшымі сваімі творамі вымагаў ад нас прыняць пад увагу многае, што ўжо было, а значыць, ёсць і будзе. Можа, у гэтым і сэнс сапраўднай паэзіі і прызначэнне сапраўднага таленту: прадоўжыць у прасторы вечнасці тое, што было ў іншым часе і ў іншым месцы, наблізіць да нас і перадаць будучыні.

Сярод кніг

# МЕЧАСЛАЎ ГРЫБ І... НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ БЕЛАРУСІ

Многія з нас памятаюць, як з выбраннем чарговага высокага кіраўніка ён нечакана для ўсіх (а можа, нават і для самога сябе) станавіўся геніяльным. А там, дзе "геніяльнасць" — і адпаведнае стаўленне. Праходзіла колькі месяцаў, і тагачаснае Выдавецтва палітычнай літаратуры ў Маскве спяшалася выпусціць кнігу яго выбраных прамоў, дакладаў, іншых выступленняў, напісаных, безумоўна, не самім ім. Усё гэта нічога, апроч прыкрасці, не выклікала. А між іншым, у цывілізаваным свеце даўно з'яўляецца нормай выданне падобных матэрыялаў. Як і біяграфій кіраўнікоў. Але то ў свеце цывілізаваным, а ў нас...

У нас першая спроба, як вядома, была зроблена больш года назад, калі з'явіўся нарыс Л. і А. Класкоўскіх "Станіслаў Шушкевіч", які выдавецтвам "Полымя" быў выпушчаны асобнай кнігай падчас удзелу Станіслава Станіслававіча ў прэзідэнцкім марафоне. Таксама вядома, што і ўрыўкі з яго ў газетах і часопісах, і сама кніга была сустрэта далёка неадназначна. Прычына, бадай, не толькі ў непадрыхтаванасці нашага грамадства да падобных публікацый. Усё ж не абышлося і не без жадання (магчыма, і не адкрытага) стварыць чарговага куміра. Таму і прыйшоўся першы "блінец" далёка не ўсім даспадобы.

І вось працяг дарогі ў... цывілізаванае грамадства. Супрацоўнікі Рэдакцыйна-выдавецкага аддзела Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь падрыхтавалі кнігу матэрыялаў з артыкулаў і выступленняў нашага спікера пад назвай "Беларусь на шляхах незалежнасці".

Што ж уяўляе сабой гэты зборнік? Напачатку змешчана "Некалькі штрыхоў да палітычнага партрэта Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь", а працей — кароткая біяграфія. Далей ідзе ўступны артыкул доктара філасофскіх навук, члена-карэспандэнта Акадэміі навук Беларусі Л. Яўменава "Мечаслаў Грыб у палітычным працэсе незалежнай Беларусі".

Я б назваў гэты артыкул таксама спробай палітычнага партрэта, але пададзенага не праз пэўныя жыццёвыя рэаліі Мечаслава Іванавіча. Л. Яўменаў, адштурхоўваючыся ад шматлікіх выказванняў Старшыні Вярхоўнага Савета, яго паводзін у час сесій, прэс-канферэнцый, паказвае М. Грыба палітыкам новай фармацыі, які ў сваёй дзейнасці лічыць прымальным усё, што тычыцца далейшага замацавання нашай дзяржаўнай суверэннасці. Разам з тым М. Грыб, на думку Л. Яўменава, і раней належаў да сацыяльнага тыпу людзей, што "не прымалі ні буржуазнага перараджэння дэнацыяналізаванай былой элітнай вярхушкі, ні дэнацыяналізаванага лева-бальшавіцкага экстрэмізму прадстаўнікоў былой ваяўнічай местачкова-наменклатурнай шляхты. Яны не "секлі з пляча" ні прыватную ўласнасць з капіталізмам, ні грамадскую ўласнасць "рэальнага" сацыялізму. Гэтыя людзі шукалі іншага, трэцяга шляху. Яны выношвалі, выняньчвалі ідэю дзяржаўнасці, якая была б у стане спалучыць на здаровай, разумнай для народа падставе, здавалася б, несумяшчальнае: высокую эканамічную эфектыўнасць капіталістычнага грамадства, прагрэсіўныя ідэі класічнага і прагрэсіўныя з'явы "рэальнага" сацыялізму; прыярытэтную каштоўнасць чалавечай асобы для грамадства з неабходнасцю развіцця чалавека ў пэўным асяродку, сацыяльнай групе, калектыве; правы чалавека з правамі дзяржавы і народа; высокае развіццё нацыянальнай свядомасці з інтэрнацыянальным імкненнем нацый і народаў да планетарнай еднасці".

Такімі М. Грыб і яму падобныя былі, калі змагаліся са сваімі канкурэнтамі за права стаць народнымі дэпутатамі. А які ён сёння, Мечаслаў Іванавіч? На гэтае пытанне таксама дае адказ Л. Яўменаў. Аднак не ў меншай ступені адказ дае і сам спікер сваёй паўсядзённай дзейнасцю. Пачаў даваць з таго моманту, калі правёў сваю першую прэс-канферэнцыю, што адбылася ў канцы 1993 года. Першапачатковыя захады на адказнай пасадзе ён вызначыў так: "Пастараюся кансалідаваць нашыя сілы, наладзіць узаемадзеянне Прэзідыума, Вярхоўнага Савета, фракцый, якія ў яго ўваходзяць. Мы сёння вельмі раз'яднаны і нам неабходна згуртаванасць. Трэба вучыцца слухаць адзін аднаго, вучыцца памяркоўнасці". А ў дачыненні да адносін з апазіцыяй сказаў: "Апазіцыя мае права на свае погляды і ідэі. Усё, што разумнае, будзе падтрымлівацца, а што супярэчыць закону — адхіляцца".

А гэта — апошні матэрыял ў кнізе. Адказы ўласнаму карэспандэнту газеты "Московские новости" пад назвай "За маімі плячыма — Прэзідыум, Вярхоўны Савет, народ" ("Московские новости", 1994, N 44, 2—9 кастрычніка). Пытанне пастаўлена, як кажуць, у лоб. Пасля першых рознагалоссяў парламента з прэзідэнтам (ці прэзідэнта з парламентам) у многіх узнікла трывога, а ці не будзе разгортванне падзей па сумнавядомым расійскім варыянце: "У жыцці ўсякае можа быць, але я не думаю, што ў нас ёсць падставы для паўтарэння расійскага варыянта. Па-першае, у нас ёсць Канстытуцыя, дзе дастаткова дакладна распісаны ўсе функцыі і паўнамоцтвы, а ў Расійскай Федэрацыі яе не было. Па-другое, мы стараемся з абодвух бакоў не дапусціць крызісу. Я ацэньваю тыднёвую работу парламента як канструктыўную. Так, крытыкавалі прэзідэнта, выступалі супраць асобных яго патрабаванняў — гэта нармальна для любой дэмакратычнай краіны".

Паміж гэтымі двума матэрыяламі — больш паўтара года. Жыццё дзяржавы, дзейнасці парламента і яго спікера... Станаўленне беларускай дзяржаўнасці... Далейшыя крокі Беларусі па шляху суверэнітэту, незалежнасці.

Што прымаецца тут з боку М. Грыба — мы ведаем. Як ідзе ў гэтым кірунку прэзідэнт — таксама вядома. Справа не ў тым, каб супрацьпастаўляць іх дзеянні. Задача — каб разабрацца, хто ёсць хто. Як у цывілізаваным свеце гэта робяць. А паколькі мы да цывілізаванага свету імкнёмся, дык, бадай, будзе справядлівым, калі з'явіцца неўзабаве магчымасць ў поўны рост убачыць і прэзідэнта. Ды і прэм'ер-міністра таксама.

Каб жа толькі без глянцу. У дачыненні да М. Грыба, думаецца, так і зроблена.

**З. В.**

# НЕ ТОЛЬКІ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

"Пад назвай **"Асобна, разам, праз дэфіс"** у выдавецтве "Народная асвета" выйшаў нядаўна слоўнік-даведнік дацэнта філалагічнага факультэта БДУ М. Прыгодзіча, прысвечаны аднаму з найбольш складаных і супярэчлівых правілаў правапісу — злітнаму, паўзлітнаму і раздзельнаму напісанню слоў. Важнасць выдання слоўніка, яго надзённасць і актуальнасць не выклікаюць сумненняў. Пытанні злітнага, паўзлітнага ці асобнага напісання слоў у агульнай сістэме правапісу беларускай літаратурнай мовы належаць да ліку найбольш складаных і супярэчлівых па прычыне няпэўнасці і нераспрацаванасці іх у агульным зводзе арфаграфічных правілаў. Як сведчанне гэтага — разнабой і несуладдзе, якія назіраюцца ў моўнай практыцы паўсядзённага друку, мове часопісаў, газет, мастацкіх і публіцыстычных твораў, афіцыйна-дзелавых і службовых папер.

Ды гэта і не здзіўляе. Адкуль можа быць адзінства, нязменнасць і пастаянства ў напісанні названых узораў спалучальнасці лексем, словаформ, калі ў саміх лексікаграфічных працах, перакладных і нарматыўных слоўніках беларускай і рускай моў няма ўзгодненасці і паслядоўнасці ў іх падачы, напісанні? Так, да прыкладу, "Слоўнік беларускай мовы" (1987) прапануе пісаць назву хімічнага рэчыва *ацэтыл-хларыд* праз дэфіс, а "Беларуска-рускі слоўнік" (1988) — злітна (*ацэтылхларыд*). У слоўніках рускай мовы падаюцца напісанні *ядерно-реактивный* (праз злучок), у беларускіх жа — *ядзернарэактыўны* (разам). Аналагічныя прыклады можна працягваць, множыць, доўжыць, прыводзіць і далей. Асабліва часта назіраюцца разыходжанні ў арфаграфічным афармленні канструкцый тыпу *адзіна правільны, геаметрычна дакладны* (нязменны), *часоваабавязаны, вертыкальна-пад'ёмны, вечназялёны* і інш.

Між тым, як адзначаюць даследчыкі, грань паміж тэрмінамі і агульналітаратурнымі словамі на практыцы аказваецца хісткай і няўлоўнай і не можа быць строга рэгламентавана пэўнымі канкрэтнымі правіламі, якімі вызначалася б злітнае, паўзлітнае ці асобнае напісанне адпаведных слоў. А таму правапіс словаспалучэнняў тыпу *высокапастаўлены, раўнамернапаскораны, вечназялёны* ў іх злітным ці асобным напісанні з найбольшай паўнатой і дакладнасцю можа быць адлюстраваны толькі ў спецыяльных слоўніках і даведніках. У рускай мове такім з'явіўся слоўнік Б. З. Букчынай і Л. П. Калакуцкай "Слитно или раздельно?" (М., 1976 і наступныя выданні), у беларускай мове да выхаду слоўніка-даведніка М. Прыгодзіча аналагічных прац пакуль не было.

Слоўнік, як зазначае яго ўкладальнік, з'яўляецца першай спробай стварэння агульнадаступнага даведніка, арыентаванага найперш на школьную практыку, што і прадвызначыла адбор лексічнага матэрыялу і характар яго падачы. У слоўнік уключаны складаныя словы і злучэнні слоў, якія з'яўляюцца агульнымі найменнямі прадметаў, паняццяў і з'яў рэчаіснасці, некаторыя геаграфічныя назвы, у тым ліку назвы гарадоў і мясцовасцей, найбольш ужывальныя прыметнікі, утвораныя ад гэтых назваў. Прыводзяцца таксама спецыяльныя словы і выразы, абрэвіятуры, якія шырока выкарыстоўваюцца ў моўнай практыцы. У яго ўваходзяць некаторыя словы размоўнага стылю, пэўная колькасць устарэлых і абласных слоў рэгіянальнага ўжытку, якія пашыраны ў мове мастацкай літаратуры.

Тут адлюстроўваюцца словы-варыянты, пры гэтым дублетныя (раўнапраўныя) словы падаюцца пры дапамозе злучніка і: *недвухсэнсавасць і недвухсэнсоўнасць, па-дзіцячаму і па-дзіцячы, перадзімні* і *перадзімовы*. Калі ж адзін з адзначаных варыянтаў ужываецца радзей або стылістычна ці тэрытарыяльна абмежаваны, пасля яго ставіцца адпаведная памета (часцей, радзей), напрыклад: *дабравольна*, часцей *добраахвотна*; *лёнакамбайн*, часцей *ільнокамбайн*; *многапакутны*, часцей *шматпакутны*. У выпадках дэфіснага напісання складаных назваў або прыдаткаў прыводзяцца ўскосныя формы абедзвюх частак: *акадэмік-сакратар, акадэміка-сакратара; вагон-рэстаран, вагона-рэстарана; дынама-машына, дынама-машыне; плашч-палатка, плашч-палаткі*. Пры некаторых складаных словах з першай часткай-лічэбнікам у дужках прыводзяцца іх варыянты з лічбавым абазначэннем гэтай часткі: *пяцісотгоддзе (500-годдзе), саракагадовы (40-гадовы), тысячавярстовы (1000-вярстовы)*.

Ва ўступнай частцы слоўніка змешчаны спіс умоўных графічных скарачэнняў, які налічвае звыш ста, а калі дакладней, 112 памет-назваў. Для зручнасці карыстання прыкладаецца і алфавіт.

Слоўнік-даведнік М. Прыгодзіча "Асобна, разам, праз дэфіс", хоць і адрасуецца для школьнага ўжытку, вучняў сярэдніх і старэйшых класаў, аднак з поспехам можа быць выкарыстаны ўсімі, хто карыстаецца пісьмовым словам роднай мовы. Ён будзе настольнай кнігай для настаўнікаў і выкладчыкаў школ і гімназій, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў, работнікаў адміністрацыйных службаў, дзяржаўных, гаспадарчых і культуралагічных арганізацый, супрацоўнікаў рэдакцый і выдавецтваў.

**А. НАРКЕВІЧ,**
**прафесар БДУ,**
**доктар філалагічных навук**

## ЛАЎРЭАТАЎ НАЗВАЛА "ВЯСЁЛКА"

Лаўрэатамі прэмій часопіса "Вясёлка" за 1994 год сталі: Віктар КАРАМАЗАЎ (апавяданне "Алёнчыны слёзкі, зубочак і шэрая мышка"), Уладзімір КАРЫЗНА (казка "Вясёлы кош", вершы "Родны дом", "Хто мацней рыкае"), Уладзімір СЫТЧЭНКА (малюнкі да нарысаў "Наша спадчына").

## УСПОМНІЛІ — НЕ ЗАБЫЛІСЯ...

У Жлобіне адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння пісьменніка-земляка Міхася Чавускага. Пра жыццёвы і творчы шлях яго расказаў старшыня раённай рады ТБМ імя Ф. Скарыны Мікола Шуканаў. Бібліятэчныя работнікі Іна Палтаран і Ларыса Фаміна па-майстэрску разыгралі сатырычныя сцэнкі пісьменніка.

Свае творы, прысвечаныя памяці М. Чавускага, прачыталі на вечары мясцовыя паэты Павел Луд, Марыя Смірнова, Іосіф Рынейскі.

В. БАРХАНАЎ

## ВЫДАННЕ ЗАВЕРШАНА

Нялёгкім і няпростым быў шлях да чытача Збору твораў Язэпа Пушчы. Выхад першага тома (у 1993 годзе) прыпаў на час, калі заказы на беларускую кнігу амаль не збіраліся (здаецца, цяпер становішча ўсё ж палепшылася), таму і тыраж кнігі абмежаваўся ўсяго адной тысячай экземпляраў. Аднак — першы том выйшаў, а другі — затрымаўся, пабачыўшы свет толькі зараз, у пачатку 1995-га, хоць і пазначаны 1994-ым. Выданне — не падпіснае, і аматарам паэзіі давядзецца, бадай, пабегаць, каб купіць другі том, бо наўрад ці хто запісваў, у якой кнігарні набываў першы том.

Але — пра саму кнігу. Творы, якія ўвайшлі ў другі том, напісаны Я. Пушчам у турме, у ссылцы, а таксама па вяртанні на радзіму, дзе яму, як вядома, давялося пражыць не так і шмат: памёр у 1964 годзе. Акрамя вершаў, змешчаны экспромты, паэмы "Бор шуміць" і "Людвіся", казка "На Бабрыцы", некалькі перакладаў. Прадстаўлена і крытычная спадчына — артыкулы "Трапяткое сэрца паэта" (пра кнігу А. Пысіна "Сіні ранак"), "Маленькім чытачам" (уражанні ад зборніка С. Шушкевіча "Сарочы церамок"), "Дарогаю вясны" (пра "дарослую" кнігу гэтага ж аўтара), "Незабыўнае" (успаміны пра Я. Райніса), а таксама артыкул "Янка Купала. Збор твораў...", напісаны яшчэ ў 1928 годзе, паколькі выяўлены ён быў пасля выхаду першага тома Я. Пушчы.

Лепш зразумець, кім быў Язэп Паўлавіч у жыцці, у літаратуры, паэзіі, можна з успамінаў А. Звонака "Добрае імя" і С. Плашчынскай "З дзён далёкіх і блізкіх".

Тым самым завершана вельмі цікавае выданне. Каб яно выйшла, парупіліся супрацоўнікі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі і выдавецтва "Мастацкая літаратура" (рэдакцыйная калегія — С. Андраюк, Р. Барадулін, М. Мушынскі, С. Плашчынская, рэдактар тома — Р. Барадулін, укладанне, падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі, храналагічная канва жыцця і творчасці паэта — Л. Мазанік).

Т. Т.

## ...І ЗАГУЧАЎ "АРКЕСТР"

Вершаваная казка Валянціна Лукшы "Аркестр" дашкольнікам і малодшым школьнікам. Аўтар расказвае пра асноўныя музычныя інструменты, аб'яднаўшы іх у аркестр.

Выдавецтва "Беларусь", якое перавыдала гэты твор, паклапацілася, каб дзеці атрымалі ўяўленне як пра знешні выгляд пэўнага інструмента (мастак Т. Беразенская), так і пачулі яго (да месца музычныя ілюстрацыі, якія падабраў А. Аміраў).

І яшчэ адна адметнасць кніжкі: тэкст пададзены не толькі ў арыгінале, але і ў перакладзе І. Бурсава на рускую мову. Гэта свайго роду падмога тым, хто толькі вучыцца чытаць і размаўляць па-беларуску.

Паэзія

*Алесь Філіповіч нарадзіўся ў 1972 годзе ў г. Орша. Зараз — студэнт БДУ. З вершамі ў "ЛіМе" выступае ўпершыню.*

### Алесь ФІЛІПОВІЧ



## ГОСЦЬ

Гаспадарам — ад сэрца шанаванне
за ежу ды пітво, пачэсны кут.
Сказаць:
хай назаўжды ўрадлівай стане
зямля між вашых пушчаў, быццам люд

тутэйшы на спагадлівасць і шчырасць, —
нішто,
і не аддзячыць за дабра
абсяг, бо я не згэтуль, я нічыйны,
я ў гэтай хаце госць.
І мне пара.

●

Маё жыццё — таксама рэч, хай тое
люстэрка на цвіку ў маім пакоі;
яно, як іншай рэчы уласціва
пыл, павуціне, смутак мой змясціла.

Але аднойчы я прыйшоў дамоў,
маё жыццё за чорнай хусткай мой
схавала смутак, быццам не было,
і ў дом сышло нябеснае святло.

І я тады дрыготкаю рукой
сарваў з люстэрка нетутэйшы строй:
з яго вачніц, дзе змрок ляжаў на дне,
глядзела смерць з усмешкай на мяне.

●

Колькі часу прайшло!
Колькі знікла знаёмых людзей
у дварах невядомых дамоў, гарадоў,
нібы пастак,
колькі часу прайшло,
адбылося стракатых падзей,
толькі зноў я іду,
я іду, праклінаючы памяць.

Колькі слоў і замоў паразнеслі
сівыя вятры,
пакідалі у нетры балотаў
і пушчаў палескіх,
толькі зноў сам сабе,
як якісь звар'яцелы стары,
паўтараю, чым трызніў учора,
заўчора і летась.

Праклінаючы памяць,
я іду між старых пабудоў,
збудаваных на ўцеху анёлкам —
да зор — саркафагаў,
я іду, я плыву па Атлантыцы сноў і гадоў,
адчуваючы болей і болей жывёльную
смагу.

Я не ведаю, дзе ты,
і, напэўна, жыву напавер,
бо да клана самазабойцаў зусім
непрычынны.
Ты была мне за Бога,
і ўсё, што са мною цяпер —
гэта помста нябёсаў
за мой легкадумны учынак.

## ЧОРНЫ СНЕГ

Ноччу снег чарнее, быццам кроў.
Так чарнеюць на паперы вершы, —
і не гурбы снегу стынуць скрозь,
а сумёты спаленай паперы.

Ноччу ўсё чарнее на вачах.
Ноччу ўсё губляе светлы колер.
Паглядзі:
агонь і той ачах,
каб ярчэй чарнеў у грубцы попел.

Ноччу ўсе — ад галавы да пят —
жыхары паўднёвае краіны,
душы іх да золку моцна спяць,
запавіты ў чорныя кілімы.

Спі і ты.
А зрэшты, чысціня
шчэ з маленства і табе абрыдла,
ломіць косці нескончонасць дня,
толькі ноччу вырастаюць крылы.

Ты смяешся, гледзячы здаля
на выяву у люстэрку, дзе не
патароча, — ты, душа твая
прагне ўцехі, скінуўшы адзенне.

Ты ляціш, хоць крылы да зямлі
цягне цяжар вострых і пякельных
камянёў, што моцна прыраслі
да душы, а разам з ёй — да цела.

Дык ляці!
Ты вернешся дамоў
на світанні, дзе і ўдзень без меры
белы снег чарнее, быццам кроў,
дзе сумёты спаленай паперы.

З паэтычнай пошты

### Васіль РАГАЎЦОЎ



Дзень нарадзіўся
самотаю ночы.
Зданню сірочай
па вуліцы крочыць.
Гляньце:
тужліва-маркотныя вочы...
Дзень нарадзіўся
самотаю ночы.

З ціхай зямною
вядзе ён размову:
дзе адшукаць яму
тую замову,
гоіць што смутак,
як матчына слова?..
З ціхай зямною
вядзе ён размову.

...Захад канае
крывёй зараніцы.
Ціша клапотна
люляе зямліцу.
Дзень спачывае,
каб зноў нарадзіцца...
Захад разліўся
барвовай крыніцай.

●

...Калі находзіць радасць на мяне, —
яе прымаю, нібы дабрадзейку,
а расстаюся з ёю... як з зладзейкай,
што таямнічым ценем прамільгне.

Калі крадзецца гора да мяне,
як дзень насустрач апастылай ночы, —
яго страчаю я,
як нейкае сурочча...
з адной надзеяй: можа, праміне?

Калі ж прыходзіць слова да мяне, —
я слову рад, як шчодрай навальніцы,
што дасць душы сасмяглай наталіцца...
І як марозу рады
першы снег.

●

Пераступаю парог —
і быццам пакідаю там,
за парогам,
часцінку свае душы.
А наперадзе —
новыя, нязведаныя парогі.
І ці хопіць сілы і змогі
адолець іх?
Пераступіць і ўзысці
на новы парог?
Каб потым
без жальбы й дакору
расстацца.
Парогі...
І самы найдаражэйшы —
бацькоўскі,
праз які ці не ўпершыню пазнаеш
дзівосы і тайны сусвету.
...Пераадолеўшы
нямала жыццёвых парогаў,
як хочацца вярнуцца
і зноўку пераступіць —
басанож —
парог свайго маленства...
Каб па-новаму адчуць першароднасць
найсвятой таямніцы свету —
цеплыню і дыханне
роднай зямлі.
Пакуль
не позна.

*г. Магілёў*

Дэбют

Дождж. Як утульна, запаліўшы свечку, слухаць, як стукаюць кроплі ў цёмную шыбу і шапаціць мокрая лістота за акном. Як яна любіць гэтыя начныя дажджы! У дзяцінстве старая нянька такімі вось вечарамі расказвала ёй казку пра цудоўнага прынца, які згубіў сваю прынцэсу і ад гора ператварыўся ў дождж. І што гэта яго слёзы стукаюць цяпер у шыбы і просяць вярнуць каханую. Казка. Прыгожая, як само дзяцінства. Як далёка яно адышло! Цяпер яна ўжо паненка, а хутка будзе паняй, князёўна Кобрынская Ганна. Вельмі хутка. Заўтра.

Замак спіць. Сціхлі размовы, бразганне дзвярэй, мітусня слуг. Сціх нават дождж, і цяпер з-за акна чуюцца толькі ціхія ўсплёскі. Гэта Мухавец удзень і ўночы цалуе абрывістае ўзбярэжжа, расплятае і песціць косы шаўкавіста-зялёнай рачной травы. Цяпер ён таксама дрэмле, і ў спакойнай яго вадзе пры святле месяца адбіваюцца сонныя вежы замка. Нават ноч не можа схаваць усю яго веліч. А якім бляскам сустрэне яго сонечная раніца!

Гэты дзень стане для яе асаблівым. Яшчэ ўчора прыбылі на свята галоўныя госці. Вялікі князь Казімір меў ласку прыехаць на вяселле нашчадкаў двух найбольш старажытных беларускіх родаў. Ганна з дзяцінства чула імя Радзівілаў. Патомак славутага Гедыміна, заваёўнік, ужо не першае дзесяцігоддзе трымае ён польскі трон, і ўладу яго ўсё больш адчуваюць і літоўская, і беларуская шляхта. Аб багацці, подзвігах і балях гэтага магната ў Вялікім княстве ходзяць легенды. Вось які пан будзе пасажоным бацькам на яе вяселлі. З якім хваляваннем чакала Ганна яго прыезду!

Сын вялікага Ягайлы, Казімір нідзе не прывык адчуваць сябе госцем — невысокі, каржакаваты, з пышнымі вусамі, мясістым носам і пільнымі вачамі, ён і ў Кобрынскім замку паводзіў сябе ўпэўненым гаспадаром. Ганна шчасліва ўздыхнула, успомніўшы мінулы вечар. Яны сядзелі ў гасцёўні невялікім кружком, толькі самыя блізкія. Якія брыльянты, якое футра падараваў ёй пан Казімір і якія ўбранні ў польскіх паняў! Праўда, напрыканцы мужчыны загаварылі аб рэлігіі. Казімір настойваў на аб'яднанні заходняй і ўсходняй цэркваў, праціўнікі уніі не згаджаліся з ім, успыхнула спрэчка. Ганна выйшла, а госці ў зале яшчэ доўга шумелі. Яна ўспомніла, якім шалёным бляскам гарэлі вочы бацькі, жаніха, Гальшанскага і Слуцкага, як сціскаліся іх кулакі пры гэтых размовах. Ганна таксама была праваслаўнай, і змова з каталікамі здавалася ёй справай недастойнай, але ж навошта такая апантанасць! Гэта палохала. Можа, хоць жаніцьба крыху ахалодзіць яго? Быццам каханне дагэтуль супакойвала хоць аднаго мужчыну.

Ганна запомніла той навагодні баль на ўсё жыццё. Столькі людзей, святла, бляску ў свае шаснаццаць год яна бачыла ўпершыню. Упершыню той ноччу Ганна ўбачыла і яго. Іх пазнаёміў стрыечны брат, і Кобрынская красуня, першая дзяўчына балю, да ранку пратанцавала з незнаёмым прыезджым шляхціцам. Потым былі сустрэчы, яе чаканне, яго прыезды і, нарэшце, змовіны. Усяго праз тры месяцы. Забыта ўсё: шматлікія кавалеры, пышныя ўборы і нават Тадэуш. Яна закахалася ў гэтага 32-гадовага мужчыну, высокага, шыракаплечага, з адкрытым загарэлым тварам, саламянымі валасамі і блакітнымі вачамі. Яе хвалявалі яго вялікія рукі і шаршавыя моцныя вусны. І ён... Ён таксама хацеў хутчэй бачыць яе сваёю. У памяці каторы раз усплыла тая лясная сцяжынка, букет пралесак, схіленая светлавалосая постаць. Ён, такі дужы і смелы, абдымаў яе калені і гаварыў зусім ціха, а потым кружыў яе высока-высока і шчыра смяяўся, калі ўсе словы былі сказаны. Фёдар Бельскі.

А Тадэуш... Ён назаўсёды застанецца сябрам яе дзяцінства. Пяшчотны, рамантычны хлопчык. Таварыш па гульнях, потым самы першы і самы адданы яе кавалер. Ганна магла даверыць яму ўсё-ўсё, любую таямніцу. І аб каханні яе Тадэуш даведаўся першым. Засумаваў. Спрабаваў адгаварыць яе, суцешыць. Але Ганна слухала і быццам не чула. Зразумеў ён усё, калі ўбачыў Бельскага. Непапраўна. У душы змагаліся два пачуцці: нянавісць да саперніка і захапленне чалавекам, якога пакахала яна.

Ганна адчувала стан Тадэуша, але не мела сіл пагаварыць з ім па шчырасці. У гэту апошнюю ноч яна ўспомніла і пашкадавала яго.

Думкі набягалі, абганяючы адна адну, ім было так утульна гойдацца пад шор-

Наталля ВАСЮК

# ІМГНЕННЕ ВЕЧНАСЦІ



***Наталлі Васюк 27 гадоў. Нарадзілася яна на Гродзеншчыне. Пасля заканчэння факультэта журналістыкі БДУ працавала ў раённай газеце, а зараз — на Кобрынскай студыі тэлебачання. Апавяданне "Імгненне вечнасці" — яе першае выступленне ў рэспубліканскім друку.***

гат веснавога дажджу. Ганна яшчэ раз паволна глянула на залітае шкло. Твар. Бледны, з наліплымі мокрымі валасамі і спалоханымі вачамі. Ціха ўскрыкнуўшы, князёўна асела на падлогу. Калі яна здолела расплюшчыць вочы, прывід знік, растаяў у пырсках начнога дажджу.

* * *

Ужо каторы дзень, як д'ябал запаліў вогнішча і падсмажваў яго душу на вялікай патэльні. Тадэуш блукаў па замку з адным жаданнем: схавацца ад яго перадсвяточнай мітусні, не бачыць нічога, забыцца — і не мог. Не мог ён і ўцячы адсюль, паехаць дадому — гэта было вышэй за яго, ён адчуваў, што павінен выпіць гэты кубак да дна, вытрымаць, выпаліць у сэрцы ўсе карані, і таму блукаў, то задыхаючыся, то амаль губляючы прытомнасць ад хуткіх крокаў або звонкага смеху ягонай — толькі ягонай! — Ганны. Нарэшце, зусім абяссілеўшы, Тадэуш заснуў у нейкім пакойчыку за цёмнай парцьерай.

Прачнуўся ён ад настойлівага стуку.

— Цішэй, пане Іван, каб не зазірнуў хто сюды. Усё на месцы?

— Так. Іх тут ніхто не знойдзе. Вось толькі ці ўдасца нам дастаць гэтыя стрэльбы ў час?

— Будзем дзейнічаць, як дамаўляліся. Але першая спроба не ў замку, а на паляванні. На другі дзень пасля вянчання ўсе едуць у пушчу на зубра, там мы яго і падпільнуем, калі застанецца адзін.

— А калі не застанецца?

— Дружа, разоў дзесяць я бачыў Казіміра на ловах. Ён гоніць так, што губляе світу амаль адразу. Ну, а калі не ўдасца там, атруцім у замку, як рудую мыш.

— Ці не паспрабаваць спачатку другі спосаб?

— На вянчальным абедзе? Не. Фёдар наш, але ён кахае яе, трэба зразумець, і Бельскі дапаможа нам. Так ці інакш, але мы раздавім гэту гадзіну, адступніка веры, няшчасце нашай зямлі...

Калі крокі сціхлі, Тадэуш вобмацкам стаў шукаць выйсце. Сэрца шалёна калацілася, у скронях пульсавала адна думка: "Вось калі я табе адпомшчу! За ўсё! За маю Ганну! Не дам, не пушчу яе за бандыта!" Праз некалькі хвілін ён ужо стукаў у пакой вялікага князя.

* * *

Твар нявесты быў бялейшы за яе вянчальнае ўбранне. Толькі цямнелі вочы, пунсавелі вусны ды валасы чорнымі карункамі ўпрыгожвалі твар.

— Отчэ наш, іжэ есі на небясі...

У храме пахне ладанам і кветкамі. Урачыста гучаць словы малітвы. Строгімі, чужымі выглядаюць сёння лікі святых. Ад незнаёмага пачуцця сціскае ў грудзях, набягаюць слёзы. Гэта ад шчасця. Вялікі Божа, дзякуй табе за яго, дзякуй за мужа, клянуся, я буду кахаць яго ўсё жыццё. Я буду добрай жонкай. З ім забудзецца смутак, і боль, і страх. Страх?

З ранішнімі промнямі сонца начное здарэнне быццам выцвіла ў памяці. Раптам спалоханы твар на мокрым акне зноў успыхнуў у думках. Ганна ўздрыгнула. Яна пазнала яго. Гэта быў... О Божа!.. Ледзь утрымаўшыся на нагах, яна мацней ухапілася за руку мужа, тоненькая свечка выслізнула з рук і згасла на падлозе.

— Што з табой, каханая?

Халоднай вужакай у сэрца запаўзаў страх. Што гэта? Няўжо прадвесце? Божа літасцівы! Што можа здарыцца? Мне лягчэй будзе памерці, чым страціць яго. Думкі падобны на рваныя хмары. Яны гоняцца адна за адной, і калі збяруцца ў адно, грымне гром.

— Отчэ наш, іжэ есі на небясі...

* * *

У тую ноч Тадэуш ні на хвіліну не звёў павекі. У памяці ўвесь час усплываў твар князя Казіміра. Барвовы твар з налітымі крывёй вачамі пырскаў слінай і шыпеў:

— Паганцы! Здрадзеі! Бандыты! На князя руку падняць? Я вам пакажу! Я ўсіх правучу, як супраць мяне ісці. Значыць, Слуцкі, Бельскі, Гальшанскі? Мы зробім хітра, мы іх падпільнуем і тады схопім, каб не адкруціліся. І ўсіх на шыбеніцу! На эшафот! У Вільні, пры народзе! А табе, хлопча, я за службу аддзячу. Хто твае бацькі? Абяднелыя шляхцічы? Пойдзеш да мяне ў войска, дам каня, зброю. Спраўны будзеш — сотнікам зраблю.

Жах змяняўся адчаем, вочы то суха блішчэлі, то напаўняліся слязамі. Тадэуш туліўся да дрэва ў чорным парку, з лісця капала, ён вымак і змерз, але не мог сысці з месца. Гэта ён наклікаў бяду на Кобрынскі замак. Якім страшным быў сёння Казімір! Ён не спыніцца ні перад чым! А што будзе з Ганнай, калі яе мужу адсякуць галаву? Ці можна так помсціць ёй за сваё каханне? А можа, яшчэ ўдасца што-небудзь паправіць? Трэба папярэдзіць Ганну! Тадэуш ведаў, дзе вокны яе спальні. Ён убачыў знаёмую постаць, цёмныя карункі валасоў на белым атласе кашулі. Яшчэ ніколі не была яна такой блізкай, жаданай, безабароннай. І як ніколі далёкай. Менавіта тут Тадэуш зразумеў, што згубіў яе назаўсёды.

Ён замкнуў дзверы ў сваім пакоі і пачаў пісаць да Ганны ліст. Ён вырашыў аддаць яго раніцай, але падысці да яе неўпрыкметку аказалася немагчыма, усюды цікавалі Казіміравы слугі. Нарэшце, ён падсунуў канверт пад дзверы яе пакоя з надзеяй, што нявеста зазірне сюды перад вянчаннем. Але Ганна ўвайшла ў былую спальню ўжо княгіняй Бельскай.

* * *

— Родная мая, любая, каханая... Я чакаў цябе... Ласкавая мая... Паверыць не мог, што будзеш маёю. Мне так добра з табой... Я буду кахаць цябе ўсё жыццё, шчасце маё...

Фёдар цалаваў яе вочы, вусны, плечы.

Ганна плакала. Такой шчаслівай яна не была яшчэ ніколі. Яна аддала каханаму ўсё, і ўзамен атрымала непараўнальна больш. Як дзякаваць Богу за такое шчасце? Ганна правяла тонкімі пальцамі па растрапаных яго валасах, па густых бровах і раптам, прыўзняўшыся, моцна прыціснула яго вусны да сваіх. Няхай гэта імгненне стане вечнасцю, і гэта ноч, і ўсё іх жыццё растворыцца ў ім. А пасля, расплюшчыўшы вочы, можна запаліць свечку.

— Мне здаецца, я ведаю цябе ўжо сто гадоў.

— Я такая звычайная...

— Ты — родная, як сэрца або паветра, без якога нельга жыць.

— Ведаеш, мне было так страшна напярэдадні вяселля.

— Забудзь, Ганначка. Цяпер ты — мая жонка, і хай хто-небудзь хоць у думках паспрабуе...

— Ужо паспрабаваў. Прачытай вось: тут і пра цябе нешта ёсць, але я не зразумела як след...

Канверт быў скінуты на падлогу, свечка капнула на пасцель.

— Хто гэта пісаў?

Фёдар узвіўся, схапіў яе за рукі. Ганна спалохана глянула на яго, потым паволна падняла паперку, прабегла яе яшчэ раз. Калі яна павярнулася, на твары былі адны вочы.

— Гэта праўда, Фёдар? Вы хочаце забіць яго? Але за што? Ён жа — вялікі князь, як вы... Фёдар!

— Праўда. І цяпер ён усё ведае. Д'ябал! Ён рыхтуе нам пастку! Трэба папярэдзіць Міхала і Івана, зараз жа. Але — не. Цяпер мяне пільнуюць. Заўтра. Адкладзём справу да іншага выпадку.

— Фёдар... як жа ты мог... на вяселлі?

Толькі цяпер ён убачыў Ганну. Укленчыўшы перад ложкам, ён абняў яе калені.

— Даруй.

* * *

Сонца іскрыстымі дыяментамі пералівалася ў кропельках расы, пранізвала маладую лістоту дрэў, ласкава прыгравала, растапляючы начную імглу. Было яшчэ трохі халаднавата, але ясна, і дзень абяцаў парадаваць веснавым надвор'ем. На ўскраіне лесу з самага ранку гудзеў узбуджаны натоўп. Чакалі галоўнага героя палявання — вялікага князя Казіміра са світай. Чароўнай Дыянай будзе, зразумела, маладая княгіня. А яе муж — правай рукой яснавяльможнага паляўнічага.

Для Казіміра няма лепшага занятку, чым ловы. Злыя языкі плятуць, што гэтай забаве ён аддае перавагу нават перад дзяржаўнымі справамі. Нездарма ж лічыцца такім удалым лаўцом. Напэўна, і сёння яму пашанцуе, і цар Белавежы будзе ляжаць ля ног цара Рэчы Паспалітай.

Ганне было холадна. Можа быць, таму яе не кранала ўзбуджанасць іншых? Яна з ранку не бачыла мужа. Фёдар з князем і яго світай паскакалі наперад, жанчыны трымаліся ў аддаленасці. На бледны твар і маўклівасць Ганны ніхто не звяртаў асаблівай увагі, прыпісваючы іх бяссоннай шлюбнай ночы. А ў яе прыгожай галоўцы пульсавала адна думка: што там адбываецца? Як Фёдар?

Хвіліны цягнуліся бясконца. Недзе ў пушчы трубіў рог, чуліся крыкі, стрэлы. Кожны з іх прымушаў Ганну ўздрыгваць. Ёй здавалася, што гэта забілі князя Казіміра ці нават яе мужа, і словы малітвы застывалі на вуснах.

Ранішняя весялосць гасцей трохі спала, калі з лесу данеслася громападобнае "ўра!" і пачалася пальба з усіх стрэльбаў. Гэта азначала, што зубр забіты і паляванне скончана. Пачынаецца свята. Звера прывалакуць на паляну і паднясуць яго багіні лесу Дыяне.

І вось ужо паміж дрэў паказаліся першыя паляўнічыя. Яны хваляцца здабычай, чуецца смех, гоман, людзей прыбывае. Нарэшце выходзіць і сам Казімір у акружэнні вернай світы. За ім цягнуць вялізнага касматага зубра. Зусім нядаўна ён яшчэ дыхаў, страшна хроп, наводзячы жах. Ён і забіты мае грозны выгляд. Ганна з павагай глядзела на звера. Яна выйшла насустрач князю і, стаўшы адной нагой на звярыную галаву, сказала некалькі віншавальных слоў. Казімір пакланіўся, і, падаўшы руку, павёў яе да свайго шатра.

— Ты нешта сёння занадта бледная, мая дзяўчынка. Не выспалася? І Фёдар з раніцы зусім сур'ёзны.

— А дзе ён? — пытанне вырвалася само сабою. — Чаму не прыехаў з вамі, вялікі князь?

— Не ведаю. Ён паехаў раней, папярэдзіць вас. Ты не бачыла яго?

Сэрца дробным каменьчыкам пакацілася некуды ўніз, далёка-далёка. Ён ужо схоплены. Ні Слуцкага, ні Гальшанскага не было таксама. Іх забралі людзі Казіміра, каб потым судзіць і пакараць смерцю. Яе мужа, Фёдара Бельскага! Вялікі Божа, нельга вытрымаць нават думкі аб гэтым!

— Што з табой, княгіня Ганна? Табе дрэнна? Не хвалюйся, вернецца твой князь, зараз прыедзе.

Вочы Казіміра пазіраюць уважліва, а за спагадлівымі словамі чуецца насцярожаная падазронасць. І раптам Ганна ўбачыла яго. Фёдар стаяў за бліжнімі дрэвамі і глядзеў на яе. Жывы. Адчай надаў ёй рашучасці.

— Прабачце, князь, я вымушана на хвілінку пакінуць вас. З вашага дазволу.

Ад'ехаўшы далей ад цікаўных вачэй, яна перасела да яго на каня і цяпер слухала, стаіўшыся, як стукае яго сэрца.

— Не маўчы, Фёдар. Скажы мне, што адбываецца. Чаму ты не падышоў да мяне?

— Здарылася непапраўнае. Я не паспеў папярэдзіць сяброў, яны ўзялі зброю яшчэ ўчора. А сёння іх схапілі Казіміравы слугі. Разумееш, я бачыў, як іх скруцілі, і нічым не мог дапамагчы. Цяпер мая чарга.

— Божа літасцівы, які жах! Іх павесяць як змоўшчыкаў. І цябе разам з імі.

— Не, Ганначка, нас не павесяць.

— Чаму?

— Мы — шляхцічы. Нам адсякуць галовы.

Ганна не магла плакаць. Яна стагнала, як абяссілены паранены звер.

— Ты павінен уцячы. Паехаць зараз жа.

— Я не магу. Мае сябры...

— Не гавары глупства! Цяпер ты ім нічым не дапаможаш, толькі сябе загубіш. Я прашу цябе, каханы мой, любы, родны мой! Я заб'ю сябе, калі ты загінеш. Скачы ў Маскву, прабірайся лясамі, і цябе не знойдуць. А я што-небудзь прыдумаю, каб цябе не шукалі да раніцы.

— Не, я не магу пакінуць цябе ў гэтым логаве дзікага звера. Паедзем са мной, Ганна, і тады я буду спакойны.

— Не, каханы. Удваіх мы не зможам ехаць так хутка, а адзін ты напэўна ўратуешся. Акрамя таго, зніканне двух хутчэй прыкмецяць і пусцяць пагоню.

— Ганна, а калі ён схопіць цябе?

— Не хвалюйся, са мной нічога не здарыцца. Я на каленях буду маліць аб табе Казіміра. А ты дасі мне звестку, калі міне небяспека. Прашу, паслухай мяне...

— Родная мая, любая... Шчасце маё... Даруй мне, калі зможаш. Ты для мяне даражэй за жыццё. Чаму Бог даў нам так мала шчасця? Усяго адну ноч. Табе было добра са мной, праўда? Ведай, я кахаю цябе, Ганначка.

— Бывай.

Яна абняла мужа, і вусны іх зліліся ў доўгім пацалунку.

* * *

Яны тады яшчэ не ведалі, што ён стане іх апошнім пацалункам. Мінулай ноччу ў нейкае імгненне пяшчоты і кахання яна загадала, каб яно стала бясконцым. Бог або д'ябал наканаваў ёй другі лёс, у ім шчаслівая вечнасць збеглася ў адно кароткае імгненне, гарачае і балючае імгненне першай і апошняй ночы кахання. За што?

Фёдар Бельскі дабраўся да Масквы, дзе яго прыняў і даў уладанне цар Іван III. А праз тры месяцы ў Вільні судзілі двух злачынцаў, якія зрабілі замах на жыццё караля Рэчы Паспалітай. На галоўнай плошчы пры агромністым натоўпе іх пакаралі праз адсячэнне галавы. Пры гэтым ля вялікага князя ўвесь час стаяла маладая дама ў чорным. Яна некалькі разоў траціла прытомнасць, але Казімір так і не дазволіў ёй паехаць дадому. Пагаворвалі, што гэта жонка трэцяга змоўшчыка, якому ўдалося ўцячы, і што Казімір трымае яе як заложніцу, спрабуючы такім чынам заманіць ворага назад.

Ён так і не выпусціў княгіню да свайго мужа. Доўгіх дваццаць гадоў Бельскі чакаў яе. З часам памяць страціла многае, ясна помніцца толькі яе твар і Кобрынскі замак у ранішніх промнях. Ён так і не дачакаўся сваёй Ганны. А некалькі імгненняў, што ўсё жыццё палілі душу гарачымі вугельчыкамі, нарэшце сталі пякучымі льдзінкамі, і часам растаюць, адбіваючы блакіт вачэй, дабаўляючы серабро валасам. А можа, гэта красавіцкі вецер пацалаваў маладое лісце і пырснуў у твар начным дажджом?

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ПАЭТЫЧНЫ СВЕТ

Лідская карцінная галерэя адкрылася ў ліпені 1993 г. Гэтая падзея была прымеркавана да Дня незалежнасці. За паўтара года працы намаганнямі дырэктара Аляксандра Судара, вядомага мастака Гродзеншчыны, было арганізавана нямала выставак, на якіх лідчане змаглі пазнаёміцца з творчасцю мастакоў Мінска, Гродна, Ліды, вучняў мясцовай мастацкай школы. Нядаўна адбыўся вернісаж гродзенскага мастака Антона Ляшчынскага і ягоных вучняў. Гэта было значнай падзеяй у культурным жыцці горада. Выстаўку паглядзела нямала наведвальнікаў. Думкі былі самыя розныя: некаму работы мастака падаліся вытанчанымі, некаму складанымі і незразумелымі...

Стыль работ А. Ляшчынскага навеяны стылем "мадэрн", які панаваў у мастацтве роўна 100 гадоў назад. Гэты стыль далёкі ад масавасці, будзённасці, стандартнасці. Адпавядае гэтай ідэі адыход ад стандарту і тэхніка, у якой выканана большасць работ мастака. Такая тэхніка — манатыпія — дазваляе рабіць адбіткі, якія не паўтараюць адно аднаго, у адзіным экземпляры. Мастак звяртаецца да самых розных крыніц: антычнай міфалогіі, японскага мастацтва, паэзіі, прыродных форм раслін, жывёл і стылізуе іх. Ён паэтызуе прыгажосць жаночага цела, апавядае пра адухаўленне і ажыўленне прыроды, пра тое, што прыгажосць жаночага цела з'яўляецца прадаўжэннем прыроды і ўпрыгожаннем яе.

А. Ляшчынскі закончыў мастацка-графічнае аддзяленне Віцебскага педагагічнага інстытута, сам цяпер выкладае выяўленчае мастацтва ў Гродзенскім універсітэце, загадвае кафедрай выяўленчага мастацтва. Мастакі ведаюць, як цяжка сумяшчаць выкладанне з творчай працай. Але ўсцешна тое, што работы яго студэнтаў, прадстаўленыя на выстаўцы, вызначаюцца творчым падыходам і густам. Мастак А. Ляшчынскі малады, ягоны творчы шлях толькі пачынаецца. Мы яшчэ не раз убачым ягоныя работы і зможам спасцігнуць паэтычны і адухоўлены свет.

**Ларыса ДРАКО,**
мастацтвазнаўца-метадыст карціннай галерэі
*г. Ліда*

## ВЕРНІСАЖ У МУЗЕІ

Новы культурны цэнтр з'явіўся ў Брэсце. Вось ужо некалькі гадоў работнікі Музея выратаваных каштоўнасцей у фае свайго старадаўняга асабняка наладжваюць вернісажы маладых мастакоў. Цяпер тут праходзіць выстаўка брэстаўчанкі Нілы Гарчанюк. Першыя свае работы Ніла выканала, калі яшчэ была навучэнкай Брэсцкай мастацкай школы, а летась закончыла Львоўскі інстытут дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Ніла спрабуе свае сілы ў графіцы, жывапісе, працуе над стварэннем габеленаў.

*На здымку: мастачка Ніла ГАРЧАНЮК.*
*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ*

Музыка

***У 1995 годзе спаўняецца 220 гадоў з дня нараджэння беларускага кампазітара Антонія Хенрыка Радзівіла — князя, ардыната Клецкага, Алыцкага і Нясвіжскага. Ён нарадзіўся ў Вільні, атрымаў добрую адукацыю (Оксфард, Берлін). Пасля задушэння паўстання 1794 г. эміграваў і амаль усё жыццё пражыў у Берліне. Займаў пэўны час нават пасаду Намесніка Вялікага княства Познаньскага.***

***Але не палітыка, а музыка сталася асноўнай справай ягонага жыцця. Ён сябраваў з Бетховенам, Цэльтэрам, Гётэ. Разам з апошнім стварыў найцікавейшы музычны твор — "Фаўст". Гэта быў першы музычны твор паводле трагедыі вялікага нямецкага паэта, які, па словах Адоеўскага, "ніколі не будзе забыты чалавецтвам". Сёлета ж — і 160 гадоў з часу першай пастаноўкі "Фаўста" ў Берліне.***

***Папярэджваючы і юбілей, і выкананне гэтага адметнага твора, мы, супрацоўнікі аб'яднання "Беларуская Капэла", вырашылі пазнаёміць будучых слухачоў (а можа, й гледачоў) з асобаю князя Антонія — ён таго варты.***

***Гэтая публікацыя — пра стасункі А. Радзівіла з вялікім польскім піяністам і кампазітарам Фрэдэрыкам Шапэнам. Князь Антоні — выдатны спявак (тэнар), віяланчэліст, гітарыст, кампазітар — высока цаніў талент свайго маладзейшага сабрата па "мастацтве дзівосным". Тую ж сардэчнасць адчуваў Шапэн і з боку жонкі і дачок князя: эпісталярная спадчына польскага генія — цудоўнае сведчанне таго. (Вытрымкі з лістоў Ф. Шапэна і А. Радзівіла пададзены паводле выдання "Ф. Шопен. Письма", т. 1, М., 1976, пад рэдакцыяй Г. С. Кухарскага).***

# "БЫЎ БЫ РАДЫ ПАБАЧЫЦЦА З РАДЗІВІЛАМ..."

## ЧЫТАЮЧЫ ШАПЭНАВЫ ЛІСТЫ

9 верасня 1828 г. Ф. Шапэн упершыню выязджаў за мяжу. Прафесар Варшаўскага універсітэта Ф. Яроцкі, які ехаў на кангрэс натуралістаў у Берлін, выпраўляўся туды ў суправаджэнні Фрэдэрыка. У той жа дзень Шапэн напісаў свайму сябру Тытусу Вайцахоўскаму: "...Быў бы рады там пабачыцца з Радзівілам Познаньскім".

Але з радкоў ліста відаць, што надзея на спатканне была вельмі слабая, бо А. Радзівіл жыў на той час у Познані.

Ад 16 верасня, ужо з Берліна, у лісце бацькам: "...Радзівіла тут чакаюць 20-га гэтага месяца; было б добра, калі б ён прыехаў..."

Так, на жаль, і недачакаўшыся князя ў Берліне, на зваротным шляху да Варшавы Шапэн спыніўся ў Познані, як ён пісаў да бацькоў — "...на два дні, з нагоды". Нагодаю стаўся візіт Шапэна да князя Радзівіла ў ягоны палац, дзе і адбылося паміж імі знаёмства. Мемарыяльная шыльда, усталяваная на тым будынку ў 1960 г., паведамляе, што ў той вечар у выкананні Шапэна гаспадары пачулі творы Моцарта, Гайдна, Бетховена, Гумеля, а таксама імправізацыі самога Шапэна.

Настойлівасць, з якой шукаў сустрэчы з Радзівілам малады Фрэдэрык, зразумелая. Ужо ў юнацтве, як піша І. Бэлза, Шапэн "паглыблена вывучаючы класічную спадчыну, разам з тым уважліва сачыў за творчасцю... сваіх папярэднікаў і старэйшых сучаснікаў. Шапэн добра ведаў творы свайго настаўніка Эльснера, а таксама Агінскага, Курпіньскага, Ліпіньскага, Шымаоўскай, Лесэля, Антонія Радзівіла..." (Цыт. па кнізе: І. Бэлза, "История польской музыкальной культуры", т. III, ст. 26, М., "Музыка", 1972.).

Сустрэча, відаць, не выклікала прыхільнасці Шапэна да князя, бо праз год, у лісце да Т. Вайцахоўскага ад 20 кастрычніка 1829 г. ён пісаў: "Сёння... я ад'язджаю дыліжансам да Весялоўскіх (А. Весялоўская — хросная Ф. Шапэна. — **В. С.**) у Познаньскае княства... Адной з прычын маёй вандроўкі з'яўляецца і знаходжанне Радзівіла ў сваіх уладаннях за Калішам. Ад яго зыходзіла прапанова, каб я паехаў у Берлін і пасяліўся ў ягоным палацы — і ўсялякія да таго падобныя прыгожыя ды мілыя словы. Я, аднак, у тым не бачу ніякай карысці, нават калі б гэта і ажыццявілася, у чым я не ўпэўнены, бо гэта ўжо не першая "спадарская міласць да ганка", якую я бачыў; але Тата не хоча верыць, што гэта ўсяго толькі belles paroles (прыгожыя словы (франц.). — **В. С.**); у гэтым прычына маёй вандроўкі, пра якую, мне здаецца, я табе ўжо аднойчы пісаў".

Трэба сказаць, што бацькі Фрэдэрыка, усведамляючы талент сына, у прадчуванні падзей на радзіме настойвалі на ягоным выездзе з Варшавы, выбіраючы месца жыхарства для сына. За колькі тыдняў да паўстання 1830 г. ім, нарэшце, удалося ажыццявіць задуманае, адправіўшы Фрэдэрыка за мяжу. Як піша Я. Івашкевіч: "Бацькі лепш за ўсіх разумелі, якім "ваяром" стаўся б іхні сын... Мікалай Шапэн урэшце згадзіўся б і на Берлін, дзе Фрэдэрык апынуўся б пад апякунствам Радзівіла і ягонай жонкі, што азначала б, увогуле, апякунства дома Гагенцолернаў". (Цытую па кнізе: Jarosław Iwaszkewicz, "Chopin", PWM, 1955 г., ст. 165).

Але ж вернемся да стасункаў Шапэна з Радзівілам. 29 кастрычніка 1829 г. Фрэдэрык распісваецца ў гасцявой кнізе князя ў ягонай сядзібе, што ў Антаніне. За тыдзень, што правёў Шапэн у гасцях, зусім змяніліся ягоныя адносіны да князя. З ліста да Т. Вайцахоўскага ад 14 лістапада 1829 г.:

"Ты не паверыш, як мне было ў яго добра. Я вярнуўся з апошняй поштай, — мне з цяжкасцю ўдалося адгаварыцца ад далейшага знаходжання. (Віза была абмежаваная двума тыднямі. Далейшага знаходжання ў Антаніне Шапэн не мог сабе дазволіць. — **В. С.**). Што датычыць мяне.., дык я б там заставаўся, пакуль бы мяне не выгналі...

Там былі дзве Евы, маладыя князёўны, надзвычай ветлівыя і добрыя, музыкальныя, чуллівыя стварэнні. Старая княгіня разумее, што не паходжанне ўпрыгожвае чалавека, і так прыцягвае сваім абыходжаннем, што нельга яе не любіць. А ён, Ты ведаеш, як ён любіць музыку. Ён паказаў мне свайго "Фаўста", і я знайшоў там шмат рэчаў, настолькі хораша задуманых, нават геніяльных, што гэтага я ніяк не мог чакаць ад намесніка. Паміж іншым, ёсць сцэна, у якой Мефістофель спакушае Грэтхен, граючы на гітары і напяваючы пад яе вокнамі, а адначасова чутно спяванне хору з блізкага храма; гэты кантраст выклікае вялікае ўражанне ў выкананні; з рукапісу бачна, як па-майстэрску створана вакальная партыя, а яшчэ больш — д'ябальскі акампанемент да вельмі строгага харала. Гэта паможа Табе скласці ўражанне пра ягоныя прынцыпы разумення музыкі, да таго ж ён заўзяты глюкіст.

На тэатры музыка мае для яго значэнне настолькі, наколькі яна адлюстроўвае драматычныя сітуацыі ці пачуцці — таму нават уверцюра не мае фіналу, а адразу пераходзіць у інтрадукцыю...

Я напісаў у яго alla pollaca з віяланчэллю. У ім толькі бліскучыя забаўкі для салона, для дам, — мне, разумееш, хацелася, каб яго развучыла князёўна Ванда. Падчас майго знаходжання я даваў ёй быццам бы ўрокі. Маладое стварэнне, ёй гадоў семнаццаць, прыгожае, і, праўда ж, проста прыемна ставіць ёй пальчыкі. Але жарты ўбок, у ёй шмат сапраўднага музычнага чуцця, так што ёй няма патрэбы гаварыць: тут crescendo, а тут piano, тут хутчэй, тут паволі і гэтак далей. Я не мог адмовіць ім у прысылцы майго f-мінорнага Паланеза, які зацікавіў князёўну Элізу... Пра натуру князёўны Ты можаш меркаваць паводле таго, што яна прымушала мяне штодня граць ёй гэты Паланез, і ёй больш за ўсё спадабалася As-мажорнае трыо.

Яны ўсе там цудоўныя...

Княгіня Радзівіл жадае, каб я ў маі быў у Берліне...

Ты жадаў мець мой партрэт, і я, зразумела, даслаў бы Табе яго, калі б змог скрасці адзін у князёўны Элізы; яна два разы намалявала мяне ў сваім альбоме і, як мне гаварылі, вельмі падобна..."

(Абодва алоўкавыя партрэты Шапэна, зробленыя князёўнай Элізаю, зберагліся і знаходзяцца ў Нябораве (Антанін). — **В. С.**).

6 лістапада Шапэн пакідаў драўляны трохпавярховы паляўнічы палац, абкружаны англійскім паркам, Няборава — сядзібу князя А. Радзівіла — у найлепшым настроі. У знак прыхільнасці да князя ён паведаміў яму яшчэ напярэдадні, 4-га, пра тое, што прысвячае Трыо g-moll ветліваму гаспадару. Дома, у Варшаве, Шапэн знайшоў ліст да князя: "Мой дарагі Шапэн! Я глыбока ўдзячны Вам, ваша міласць, за тое, што Вы былі настолькі ласкавы, прысвяціўшы мне Трыо, створанае Вамі. Ці не будзеце Вы таксама ласкавы паскорыць яго друкаванне, каб я змог сыграць яго разам з Вамі, калі Вы будзеце праездам у Познані, на шляху да Берліна. Прыміце яшчэ раз, мой дарагі Шапэн, запэўніванні ў той глыбокай зацікаўленасці, якую выклікае ў мяне Ваш талент, як і запэўніванні ў глыбокім шанаванні, якое я да Вас адчуваю. Князь Антоні Радзівіл".

Музычная адоранасць абодвух выклікала пачуццё глыбокай павагі адно да аднаго такіх розных па ўзросце мастакоў. Антонію Радзівілу было 54 гады, Фрэдэрыку Шапэну толькі 18. Радзівіл праз чатыры гады закончыў свой жыццёвы шлях, а Шапэн яго толькі-толькі, па сутнасці, пачынаў.

Зноў (і гэта ўжо ў апошні раз) імя князя Радзівіла з'явілася ў лісце ад 5 чэрвеня 1830 г. усё да таго ж Т. Вайцахоўскага. Шапэн апісвае сябру канцэрты Зонтаг у Варшаве, сваё з ёю знаёмства:

"Князь Радзівіл адрэкамендаваў мяне ёй з найлепшага боку, за што я яму шчыра ўдзячны... Радзівіл расказваў, што яна так спявае і грае апошнюю сцэну Дэздэмоны ў "Атэла", што ніхто не можа ўтрымацца ад слёз... Я не трапіў бы да яе ніводнага разу, калі б яна не пажадала мяне бачыць наконт адной песні, якую аранжыраваў для яе Радзівіл, а мяне прасіў распісаць яе. Гэта варыяцыі на ўкраінскую думку; тэма і фінал прыгожыя, але сярэдняя частка мне не падабаецца, таксама, дарэчы, як і панне Зонтаг; я яе крышку змяніў..."

Бурныя падзеі паўстання 1830—1831 гг. прымусілі Шапэна назаўсёды пакінуць радзіму. Князь Радзівіл у хуткім часе пасля задушэння паўстання быў адлучаны ад пасады Намесніка Вялікага княства Познаньскага. Адлучаны і за тое, што родны ягоны брат кіраваў войкамі паўстанцаў, і за тое, што каля дзвюх тысяч жыхароў княства ўзялі ўдзел у паўстанні.

Праз два гады пасля задушэння паўстання аўтар музыкі да "Фаўста", асобныя месцы якой так цаніў Шапэн, памёр.

Перафразуючы словы У. Караткевіча (што датычаць Міхала Клеафаса Агінскага), можна ўслед за ім сказаць, што "і аўтары бессмяротных твораў смяротныя", але, як сказаў іншы класік, Міхаіл Булгакаў, "Рукапісы не гараць". Дзякаваць Богу, у хуткім часе мы пачуем (спадзяюся, што пачуем) першы музычны "Гётэ — Фаўст" тут, на Беларусі, на радзіме ягонага аўтара — князя Антонія Хенрыка Радзівіла.

**Віктар СКОРАБАГАТАЎ**

# З ІМ — І БЕЗ ЯГО...

Адбылося чарговае пасяджэнне Клуба сяброў оперы, які напрыканцы 94-га адзначыў сваё дзесяцігоддзе. Неверагодна, але гэтае пасяджэнне сабрала рэкордную за ўсю гісторыю клуба колькасць наведнікаў. Прыйшло ці не дзве сотні чалавек, многім з якіх проста не хапіла крэслаў у "клубе". Імпрэза прысвячалася ўшанаванню памяці народнага артыста Беларусі, вядомага рэжысёра музычнага тэатра і педагога Сямёна Штэйна. Ён быў і адным з энтузіястаў-чыннікаў Клуба сяброў оперы, сцэну якога трактаваў як своеасаблівую творчую лабараторыю. Прынамсі, тут былі пастаўлены С. Штэйнам вядомыя камерныя спектаклі "Альпійская балада" (опера В. Губарэнкі), "Медыум" (опера Дж. Меноцці). Тут адбывалася і знаёмства аматараў опернага мастацтва з усімі буйнымі прэм'ерамі, якія рыхтаваў тэатр...

Вяла пасяджэнне клуба яго заўзятая энтузіястка музыказнаўца Алена Саламаха. Цяжка пералічыць усіх артыстаў, якія працавалі са Штэйнам і якія выступалі ў гэты вечар: спявалі, ігралі, успаміналі... Дзесяткі пар вачэй разпораз пазіралі на фатаграфію С. Штэйна, які быў, канечне ж, адным з самых заўзятых сяброў оперы і не прапускаў ніводнага пасяджэння клуба — калі, вядома, не працаваў над спектаклем у якім-небудзь іншым, замежным горадзе. Здавалася, што і на гэты раз імпрэза адбываецца ў яго няўгледнай прысутнасці. На жаль, толькі здавалася...

Фестывалі

# ГАРТАЕМ НЕВЯДОМЫЯ СТАРОНКІ...

Паводле нашых падлікаў, за мінулы год адбылося ў Віцебску 17 самых розных, вялікіх ды малых, фестываляў. І завяршыў гэтую фестывальную эстафету чарговы Міжнародны музычны фэст імя нашага земляка І. Салярцінскага. Пра складанасці ягонай арганізацыі гаварыць зараз не хочацца — бо зразумела ж, што без складанасцяў у справах сёння, на жаль, не абысціся. Затое хочацца яшчэ й яшчэ раз, ужо крыху асэнсаваўшы фестывальныя падзеі, узнавіць атмасферу сустрэч з цікавымі гасцямі, выканаўцамі, вучонымі.

Гэты фестываль прываблівае ўдзельнікаў цеплынёй, традыцыйнай для Віцебска гасціннасцю ды звычлівай публікай. Чарговы фестываль меў, скажам так, "суседскую" накіраванасць — пецярбургскую. Перадусім адзначу выступленні ў двух канцэртах і падчас навуковых чытанняў "Віцебскі рэнесанс пачатку 20 стагоддзя" народнага артыста Расіі прафесара Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі Барыса Іванавіча Цішчанкі. Кампазітар з сусветным імем, ён уразіў віцебскую публіку і пазнаваўчым паведамленнем пра сучасных кампазітараў Пецярбурга, і музыкай уласных сваіх санат, і сваім бліскучым піянізмам. Сустрэчы з Б. Цішчанкам сталіся сапраўднай падзеяй фестывалю.

Як заўсёды цікавую праграму падрыхтавалі знаны ансамбль салістаў з Мінска "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам У. Байдава. Былі выкананы квінтэты для кларнета і струнных А. Лакшына ды Я. Брамса. На першы погляд магло падацца, што "дужа сур'ёзны" Брамс ды зусім невядомы сучасны маскоўскі аўтар Лакшын абрынуць на публіку магутную дозу сумоты. Аднак музыка аказалася вельмі меладычнай і даступнай.

Аматары вакальнай музыкі пазнаёміліся з санкт-пецярбургскім вакальным класічным дуэтам, які выканаў рамансы А. Варламава, П. Чайкоўскага, В. Гаўрыліна, С. Сланімскага ды інш.

У традыцыях колішніх "абарэвутаў" была разыграна мінскімі артыстамі разам з музыкамі "Класік-Авангарда" сцэнічная кампазіцыя нэпаўскіх часоў "Купрыянаў ды Наташа", якая эпатавала публіку сваім гратэскным характарам і дадала разнастайнасці фестывальнай палітры.

У цэлым і канцэрты, і фестывальныя чытанні прайшлі паспяхова. Дарэчы, удзельнікамі чытанняў былі і ўжо названы Б. Цішчанка, і Тацццяна Тэйдар — загадчыца аддзела фонадакументаў бібліятэкі Маскоўскага універсітэта імя М. Ламаносава, якая прывезла унікальныя гуказапісы гутаркі М. Бахціна ды сучаснікаў І. Салярцінскага. Свае работы, прысвечаныя музыцы, прывезла пецярбургская мастачка Таццяна Апраксіна, якая, да таго ж, зрабіла некалькі цікавых паведамленняў з роздумам пра філасофію музыкі, псіхалогію творчасці. Былі й іншыя цікавыя выступленні. Прынамсі, пра ўраджэнца Віцебскай губерні, вучня Віцебскай гімназіі М. Лоскага і яго філасофскія погляды зрабіў даклад віцебскі філософ Уладзімір Уткевіч. Ён расказаў пра адметнасць філасофскай сістэмы Лоскага — асобы, шырокавядомай на Захадзе і малавядомай у нас. Захоплена слухалі наведнікі чытанняў і маскоўскага музыказнаўцу Ігара Карпінскага, і студэнтку Беларускай акадэміі музыкі Ніну Сінякову...

Гэтыя чытанні прайшлі кампактна, "на адным дыханні", бо так або інакш усе паведамленні, даклады, развагі знітоўваліся з імем Івана Іванавіча Салярцінскага ды з ягоным часам і асяроддзем: Лоскі — настаўнік Бахціна, Бахцін — настаўнік Салярцінскага, Салярцінскі — настаўнік Шастаковіча і г. д.

Як ні парадаксальна і як ні шкада, фестывальныя імпрэзы вельмі не спадабаліся той частцы публікі, якая... не наведалася на ніводны канцэрт і загадзя, не маючы ніякага ўяўлення пра якасць і змест прадстаўленай на фестывалі музыкі, "заклеймила" яе як "цяжкую", "незразумелую", "элітарную". Не разумею, на жаль, тыя панове, што і ладзяцца гэткія фестывалі, і выдаткоўваюцца вялікія сродкі, аддаючы ўсе намаганні, каб не варыліся слухачы ва ўласным соку, каб знаёміліся з новай, "незаезджанай" музыкай, а таксама й са старой, амаль забытай, якая ніколі не выконвалася, прынамсі, у Віцебску, а часам — і ў нашай рэспубліцы, і ў свеце! Дзеля гэтага ж запрашаюцца выдатныя выканаўцы, кампазітары, музыказнаўцы, навукоўцы.

Ды, нягледзячы ні на што, фестываль імя І. Салярцінскага зноў даказаў сваю жыццяздольнасць, неабходнасць. Ён мацуецца і пашырае сваю палітру, адкрывае новыя тэматычныя напрамкі ды магчымасці іх асвяення. Дзякуй усім, хто браў удзел у арганізацыі фестывалю. Асаблівай удзячнасці заслугоўваюць спонсары, без якіх нічога проста не адбылося б. Такім чынам, генеральны спонсар фестывалю — англійская кампанія "Стэфахам трэйдынг ЛТД" і малое навукова-вытворчае прамысловае прадпрыемства "Патэнцыял" (г. Віцебск). Пажадайма ім далейшых поспехаў і — спрыяльнай падатковай палітыкі ў сёлетнім годзе. Ну, а ўсіх, хто любіць гэты музычны фестываль, магу запэўніць: наперадзе — новыя цікавыя сустрэчы, бо наша свята высокага мастацтва і духоўнасці будзе жыць!

**Уладзімір ПРАВІЛАЎ**

*г. Віцебск*



*Н. а. Расіі прафесар Б. ЦІШЧАНКА.*

*Фота М. ШМЕРЛІНГА*



*На сцэне — "Класік-Авангард".*



*Зала Віцебскай музычнай гасцёўні падчас чытанняў.*

# "...ЁН НЕ МОГ РАСТВАРЫЦЦА"

***Манаграфія А. Сабалеўскага "Глеб Глебаў" прысвечана аднаму з самых улюбёных і вядомых артыстаў беларускай сцэны. Па агульным прызнанні "першы комік тэатра" Г. Глебаў не меў сабе роўных на купалаўскай сцэне. Так, ён працаваў побач з зоркамі першай велічыні — У. Уладамірскім, Г. Грыгонісам, Б. Платонавым, П. Малчанавым... Аднак і ў гэтым бліскучым сузор'і яго індывідуальнасць не гублялася, талент гучаў моцна, самабытна. Паводле аўтара кнігі, "ён не мог растварыцца ў натоўпе..."***

Гледачы старэйшага ўзросту, відаць, памятаюць глебаўскія сцэнічныя шэдэўры — бенефісна камічнага Мяндозу ("Дуэньня" Р. Шэрыдана), апантанага страхам Тулягу ("Хто смяецца апошнім" К. Крапівы), ну і, вядома ж, Пранцыся Пустарэвіча з купалаўскай "Паўлінкі". Заўсёдна нападпітку, з нязменнай пляшкай гарэлкі, ён надзіва смешна і сімпатычна вымаўляў свае знакамітае "восьцо-дай" і "пані дабрудзею". А ці можна забыць бездапаможна-разгубленае "хоць крукверыць, хоць верць-круць" макаёнкаўскага Гарошкі?! Або па-змоўніцку хітраватае "І абы ціха", якое кожны раз напаўнялася Кропляй-Глебавым новымі камедыйнымі адценнямі?!

На глебаўскіх казках і байках, што гучалі па радыё, выгадавалася не адно пакаленне. Ды і сёння яго голас раз-пораз гучыць у эфіры, зачароўваючы сваёй мяккай, жывой інтанацыяй. Тым не менш, сучасны глядач пра Глебава амаль зусім не ведае. Як жа знайсці тыя словы, каб перадаць веліч акцёрскага таленту, сілу яго натхнення і, можа быць, галоўнае — раскрыць непаўторнасць глебаўскай індывідуальнасці, яго чалавечую і мастакоўскую адметнасць. На маю думку, А. Сабалеўскі знаходзіць гэтыя словы. Яго кніга поўна і глыбока выяўляе самабытную прыроду камедыйнага таленту артыста, яго творчую непаўторнасць.

Крок за крокам аўтар аднаўляе шлях Глебава ў мастацтве, дае характарыстыку дзеячам рускай і украінскай сцэны, якія ўплывалі на фарміраванне творчай асобы. Узнікае сапраўдная панарама тагачаснага культурнага жыцця. Але асноўная ўвага надаецца акцёрскай працы Глебава на купалаўскай сцэне; са шматлікіх роляў вылучаюцца самыя значныя. Гэта Павал Няміра з "Бацькаўшчыны" К. Крапівы, які засведчыў аб нараджэнні акцёра, мальерыўскі Гарпагон са "Скупога", што перадаў Глебаву ад Грыгоніса эстафету першага коміка, раней прыгаданыя ролі. І так да 1966 г., калі акцёр апошні раз выйшаў на купалаўскую сцэну ў вобразе Глушака ў "Людзях на балоце" паводле І. Мележа. А. Сабалеўскі, добры знаўца гісторыі беларускага тэатра, не вылучае акцёрскі лёс Глебава з агульнага творчага працэсу, а разглядае яго ролі ў шчыльнай узаемасувязі з дзейнасцю тэатра імя Я. Купалы.

Кожны сцэнічны твор разглядаецца не толькі праз ігру акцёра, — не забытыя і яго бліжэйшыя партнёры. Таму рэстаўрацыя спектакляў набывае асаблівую вобразнасць і пераканаўчасць. Калі ж няма хоць якіх пісьмовых звестак, характарыстыка сцэнічнага персанажа будуецца на аналізе фотаздымкаў, як, у прыватнасці, адбылося з роляй Мухіна ў спектаклі "Мост" Я. Рамановіча. Акрамя таго, у кнізе прыводзіцца кароткае, але вельмі ёмістае вызначэнне творчай індывідуальнасці кожнага з акцёраў і рэжысёраў купалаўцаў, асабліва першага пакалення. Той, хто прачытае манаграфію, знойдзе каштоўнейшыя звесткі пра У. Крыловіча, У. Уладамірскага. Фларыяна і Ірыну Ждановіч, Е. Міровіча, Г. Грыгоніса, К. Міронаву, Б. Платонава, Л. Ржэцкую, Г. Галіну, В. Полу, адным словам — пра ўсіх, хто складае славу і гонар нашай нацыянальнай сцэны. На фоне іх, карыфеяў, асабліва выразна паўстае каларытная постаць Глебава.

Асаблівасць аўтарскага падыходу выяўляецца ў тым, што А. Сабалеўскі не толькі дае трактоўку адной і той жа ролі рознымі выканаўцамі на купалаўскай сцэне (напрыклад, Глушак Г. Глебава і З. Стомы), але і параўноўвае глебаўскія работы з работамі творцаў іншых рэспублік. Так, разглядаючы самае выдатнае дасягненне Глебава — вобраз Тулягі, аўтар паказвае, якое мастацкае тлумачэнне набыў гэты характар у выкананні ўкраінскага і рускага акцёраў А. Крамарэнкі і В. Агловліна. Або параўнанне Гарошкі ("Выбачайце, калі ласка!") у трактоўцы Глебава і маскоўскага акцёра К. Насонава. Такі паралельны аналіз не толькі выяўляе аўтарскую эрудыцыю, але і дапамагае паказаць выключную непаўторнасць беларускага майстра.

Пастаяннае пашырэнне межаў прадмета даследавання, па сутнасці, ператварае нарыс пра жыццё і творчасць Глеба Глебава ў нарыс гісторыі купалаўскага тэатра, якая адначасова з сучасных пазіцый, з улікам тых змен, што адбыліся ў нашым жыцці і нашай свядомасці. Пры гэтым мне асабіста вельмі даспадобы тое, што А. Сабалеўскі пазбягае просталінейных пазначак і так званых перабудовачных ацэнак, калі станоўчае наўпрост мянуецца адмоўным. Крытык не абмінае складанасці тагачаснага жыцця. Ёсць у кнізе размова і пра ідэалагічны ўціск, і пра палітычныя рэпрэсіі. Ёсць цвярозы погляд на класава арыентаваную драматургію. І, што асабліва важна, у аналізе драматургічных і сцэнічных твораў адчуваецца аб'ектыўнасць аўтара, доказнасць яго меркаванняў, вернасць прынцыпу гістарызму.

Так, напрыклад, А. Сабалеўскі цытуе шматлікія станоўчыя водгукі на спектакль "Пагібель воўка" Э. Самуйлёнка, скіроўваючы нашу ўвагу на саму стылістыку пісьма, на выключна "класавую" тэрміналогію. Але не толькі. Крытык прыводзіць дакладныя звесткі аб пракаце сцэнічнага твора з колькасным указаннем паказаў і наяўнасці гледачоў. Гэта дазваляе зрабіць доказную выснову аб тым, што, нягледзячы на значны стос хвалебных рэцэнзій, "поспех спектакля" і ў той час быў больш афіцыйным, чым рэальным" (с. 61).

А. Сабалеўскі быў жывым сведкам творчасці Глебава, некалькі, а часам і шмат разоў глядзеў адну і тую ж пастаноўку з яго ўдзелам на працягу многіх год. Гэта дапамагае аўтару прасачыць эвалюцыю глебаўскіх сцэнічных характараў, паказаць іх у развіцці, у працэсе тых змен, што адбываліся ў псіхалагічнай і творчай прыродзе акцёра. Вельмі цікавым падалося мне развіццё вобраза Тулягі, — у тым, як яго тлумачыць А. Сабалеўскі. Персанаж гэты заўсёды вабіў пластычнай віртуознасцю, бліскучай камедыйнасцю, але ў перадапошні год жыцця надаваўся акцёрам з нечаканай нотай трагедыйнасці, са шчымлівым душэўным болем. Гэтыя назіранні сведчаць пра значныя патэнцыяльныя магчымасці Глебава, якія не да канца былі рэалізаваны менавіта праз драматычны і трагедыйны рэпертуар кшталту гогалеўскага "Шыняля". На жаль, творчасць акцёра была абмежавана ролямі пераважна камедыйнымі і сатырычнымі, але ў іх выкананні не было роўных на купалаўскай сцэне вялікаму Глебаву.

**Тамара ГАРОБЧАНКА**

Віншуем!

# Апанасу ПАЛІТЫКУ — 60

Бадай, слушная прымаўка: не хочаш смяяцца, дык жыццё навучыць. Ва ўсякім разе, калі акінуць позіркам жыццёвы шлях Апанаса Палітыкі, дык тут не так і далёка ад ісціны. Перш чым стаць пісьменнікам — гумарыстам, сатырыкам, Апанас Паўлавіч не адну прафесію змяніў. У 1951 годзе скончыў у Кіеве (нарадзіўся 5 лютага 1935 года ў вёсцы Бродак Крычаўскага раёна) рамеснае вучылішча, працаваў на машынабудаўнічым заводзе. У 1954 годзе паехаў на асваенне цалінных зямель, рабіў прычэпшчыкам, трактарыстам, затым служыў у арміі, быў электраслесарам у горадзе Шахты Растоўскай вобласці.

У 1959 годзе вярнуўся ў родныя мясціны. У 1960 годзе скончыў сярэднюю школу рабочай моладзі, у 1967-ым — філалагічны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута. Цяпер працуе ў рэдакцыі Крычаўскай раённай газеты.

Як і многія, пачынаў з паэзіі. У 1960 годзе ў "Магілёўскай праўдзе" апублікаваў першы верш. Ды хутка зразумеў, што не ў паэзіі прызванне. Жыццё прымусіла прыйсці да такой высновы. Яно то смяяцца прымушала, то абуралася... А паколькі талент Апанас Паўлавіч меў, і ўзяўся за напісанне гумарыстычных і сатырычных твораў. І апавяданняў, і аповесцяў. Неўзабаве з'явіліся зборнікі "Маўчанне навыперадкі" (1980), "Свой хлопец" (1985), "Праверка" (1990)... А на падыходзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" — кніга "Ключы ад сэрца", лепшае, што напісана аўтарам.



З днём нараджэння, дарагі Апанас Паўлавіч! Доўгіх год жыцця Вам і вострага пяра!

## ПРАЗ ПЯЦЬ ГАДОЎ...



**Амаль пяць гадоў не маглі ўбачыць цалкам экспазіцыю Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея яго наведвальнікі. Час ад часу праводзіліся толькі невялікія выстаўкі. Гэта адбывалася таму, што ішоў рамонт будынка, куды ў 1990 годзе пераехаў музей. Ён размясціўся ў адным са старадаўніх асабнякоў Брэста, пабудаваным у канцы мінулага стагоддзя і які належаў купцу Фогелю. У тыя часы ў ім размяшчаўся тэатр, рэстаран, гасцініца. Тут бывалі Мамант Дальскі, вядомая актрыса Вера Камісаржэўская.**

**І вось, нарэшце, рэстаўрацыйныя работы закончаны. Вялікія, прасторныя, светлыя залы пачалі запаўняцца экспанатамі, якіх у музеі больш за 150 тысяч. Супрацоўнікі спадзяюцца, што хутка наведвальнікі змогуць з імі пазнаёміцца. Першую экспазіцыю тут падрыхтуюць да 50-годдзя Перамогі. Наступныя раскажуць пра мінулае і цяперашняе Брэстчыны. Адну залу плануецца выкарыстаць пад тэматычныя выстаўкі, на якіх будуць дэманстравацца экспанаты з фондаў іншых музеяў рэспублікі.**

*На здымку: крыштальную вазу ў сярэбранай аправе работы Карла Фаберхэ дэманструе старшы навуковы супрацоўнік музея Святлана Сачун.*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ*

## 35 ГАДОЎ НА СЦЭНЕ



**У віцебскіх аматараў тэатральнага мастацтва — свята. У Беларускім акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа адбыўся двайны бенефіс — заслужанай артысткі рэспублікі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Валянціны Петрачковай і заслужанай артысткі Беларусі Людмілы Пісаравай. Урачыстасць, якая сабрала ў сценах тэатра сотні прыхільнікаў творчасці артыстак, была прысвечана 55-годдзю з дня нараджэння і 35-годдзю іх творчай дзейнасці.**

**Віцебскія тэатралы добра ведаюць і памятаюць ролі, створаныя актрысамі на коласаўскай сцэне. А да свайго юбілею В. Петрачкова і Л. Пісарава падрыхтавалі гледачам своеасаблівы падарунак — спектакль паводле п'есы Н. Каляды "Шэрачка з Машэрачкай".**

**На здымку: В. Петрачкова і Л. Пісарава ў спектаклі "Шэрачка з Машэрачкай".**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ*

# У ГОНАР ПЕРАМОГІ

***Міністэрства культуры і друку прыняло рашэнне аб правядзенні Другога рэспубліканскага конкурсу па стварэнні беларускай ваенна-патрыятычнай песні, прысвечанага 50-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.***

Галоўная мэта конкурсу — стварэнне разнастайнага рэпертуару для сучасных ваенных калектываў, прафесійных і самадзейных выканаўцаў. Унутраная годнасць, шчырая любоў да роднай Бацькаўшчыны, народа, які выйшаў пераможцам у той страшнай вайне — гэтыя высокія пачуцці павінны скласці асноўную дамінанту новых твораў. Дні сённяшнія і дні мінулыя нашых вайскоўцаў — асноўная тэматыка конкурсных песень.

У конкурсе могуць прымаць удзел прафесійныя і самадзейныя кампазітары, якія прадстаўляюць у журы новыя творы, не прагучаўшыя раней у публічных выкананнях. Умовамі конкурсу не абмяжоўваецца кола беларускамоўных літаратурных першакрыніц: падставай для музычных твораў можа быць як сучасная паэзія, так і творчасць беларускіх паэтаў ранейшых часоў. Прэтэндэнтамі на атрыманне прэмій з'яўляюцца толькі сучасныя паэты.

Конкурс праводзіцца ў два этапы. Першы тур абвяшчаецца з 1 лютага па 29 сакавіка 1995 года. Лепшыя песні будуць адабраны на другі тур, а найбольш цікавыя творы будуць надрукаваны ў сродках масавай інфармацыі з мэтай распаўсюджвання сярод вайскоўцаў, мастацкіх калектываў і выканаўцаў. 23 красавіка 1995 года ў зале Цэнтральнага Дома афіцэраў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь адбудзецца другі тур конкурсу, на якім песні прагучаць у выкананні вядучых музычных калектываў і выканаўцаў Беларусі.

Міністэрствам культуры і друку Рэспублікі Беларусь аўтарам лепшых песень вызначаны наступныя прэміі, якія прысуджваюцца журы конкурсу:

Першае месца — дыплом і прэмія ў памеры 12 мінімальных зарплат аўтарам музыкі і тэксту.

Другое месца — дыплом і прэмія ў памеры 10 мінімальных зарплат аўтарам музыкі і тэксту.

Трэцяе месца — дыплом і прэмія ў памеры 9 мінімальных зарплат аўтарам музыкі і тэксту.

Дзяржаўныя ўстановы і грамадскія арганізацыі могуць прыняць удзел у правядзенні конкурсу і стаць заснавальнікамі спецыяльных прэмій і прызоў за лепшыя творы ў галіне музыкі, паэзіі і выканальніцкага мастацтва.

Песенны матэрыял у выглядзе клавіра ў двух экземплярах і пісьмовыя заяўкі на заснаванне спецыяльных прызоў і прэмій дасылаць на адрас: 220617, г. Мінск, пр. Машэрава, 11, Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Упраўленне па справах мастацтваў.

# З НОВАЙ ПРАГРАМАЙ



17 студзеня ў Камернай зале Беларускай філармоніі адбыўся канцэрт вядомых мінскіх музыкантаў Вячаслава Зяленіна (скрыпка) ды Аляксандра Мільто (клавесін, арган). На гэты раз (а канцэрт, пра які ідзе гаворка, не першы ў іх практыцы сумеснага музіцыравання) выканаўцы прадставілі творы кампазітараў Рымскай скрыпічнай школы: Карэлі, Джаміняні, Лакатэлі, Соміса, Сенайе, Карбанэлі. Праграма, якую музыканты выканалі нібы на адным дыханні, выклікала гарачы прыём у слухачоў. Публіка неаднаразова патрабавала: "біс!" Трэба адзначыць цёплае і пранікнёнае гучанне скрыпкі ў павольных частках санат і добрую ансамблевую ігру. Як бачым, дуэт існуе і працягвае радаваць слухачоў сваім майстэрствам. Пажадаем выканаўцам далейшых творчых поспехаў. Няхай і ў сваіх новых праграмах радуюць яны слухачоў тонкім камерным музіцыраваннем.

**С. М.**

*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

# КАЗАЧНІЦА З ЛАТВІІ

16 студзеня споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння народнай пісьменніцы Латвіі Ганны Саксэ. Маленькія нашы чытачы маглі пазнаёміцца з яе творамі ў кнізе "Казкі пра кветкі" ("Мастацкая літаратура", 1975 г., пераклад Л. Цяляк). Адразу пасля вайны Ганна Саксэ ў часопісе "Огонёк" усяму свету расказала пра лёс беларускіх дзяцей — былых вязняў Саласпілса, якія ў Латвіі, пасля карных экспедыцый па Асвейшчыне, знайшлі паратунак.

**С. ПАПАР**

# ЯБЛЫК АД ЯБЛЫНІ...

*(Пачатак на стар. 5)*

— Акцыянер можа вольна распараджацца акцыямі фонду, удзельнічаць у рабоце сходу акцыянераў, атрымліваць частку прыбытку ад дзейнасці фонду, атрымліваць частку маёмасці пры ліквідацыі фонду. Набыць нашы акцыі можна ў аддзяленні Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь па месцы атрымання чэкаў і ў любых аддзяленнях сувязі. Для нас гэта стварае пэўныя складанасці, але затое надзвычай зручна людзям. Ну, а калі ў каго ўзнікнуць нейкія пытанні, дык ён можа пазваніць па тэлефонах 30-89-26 альбо 30-89-27 і атрымаць неабходную кансультацыю. Заўсёды параім і дапаможам!

**— Наталля Мікалаеўна, напаследак хачу спытаць вось пра што. Калі бываеш у "Дайнове", заўсёды ўражвае нейкая асаблівая атмасфера ўтульнасці, дружалюбнасці, сяброўства. Супрацоўнікі — пераважна маладыя людзі з неабыякавымі вачыма, адкрытымі, спакойнымі, годнымі тварамі, усе хораша і натуральна гавораць па-беларуску. Ці ўсё, у вас, у "Дайнове-Інвест" — тое ж самае. Невыпадкова ж гэта ўсё?**

— Вядома ж, невыпадкова. Людзі ў нас — усе высокаадукаваныя і высокакваліфікаваныя спецыялісты, глыбока дасведчаныя ў пытаннях эканомікі, у праблемах рынкавых адносін, фінансаў, здольныя правесці ўсебаковы аналіз прадпрыемства, скажам, каб вызначыць ягоную рэнтабельнасць у варунках нашай нестабільнай эканамічнай сітуацыі. Пяць чалавек у нас маюць атэстаты Міндзяржмаёмасці Рэспублікі Беларусь і Дзяржінспекцыі РБ па каштоўных паперах. Гэтыя людзі прайшлі стажыроўку і практыку і атрымалі дазвол працаваць на рынку каштоўных папер. Многія нашы супрацоўнікі маюць па дзве вышэйшыя адукацыі.

**— А як прыйшлі ў бізнес вы?**

— У свой час я скончыла фізічны факультэт БДУ. Працавала ў Акадэміі навук навуковым супрацоўнікам. Але новае жыццё вымагае новых ведаў, вось таму тры гады назад скончыла курсы брокераў, атрымала атэстат на каштоўных паперах і з таго часу працую на гэтым рынку. Зараз заканчваю Беларускі эканамічны універсітэт. Што яшчэ? Маю дзвюх дачок, адной 12, другой 15 гадоў, слаўныя, таленавітыя дзяўчынкі, вучацца ў спецыяльнай англьскай школе, захапляюцца музыкай, шкада, што мала даводзіцца быць разам з імі, бо часу катастрафічна не хапае, праца вымагае вельмі вялікай аддачы.

**— Дзякуй вам за шчырую і цікавую гутарку! І поспехаў усялякіх!**

— Нашы поспехі — гэта і вашы поспехі. Вы ж, здаецца, прызналіся, што сталі нашым акцыянерам.

**— Так, гэта ўсё ж не што-небудзь, а "Дайнова-Інвест"!**

— Дзякуй і вам на добрым слове!

**Гутарку вяла Марыя ГІЛЕВІЧ**

Адгалоскі

# ПАДЫСКУТУЕМ, СУАЙЧЫННІК?

Мы майстры дыскутаваць. Часам аж за грудкі біромся, даводзячы адзін другому "сваю" праўду. Газеты пісалі, што ў Гродне разагрэтыя дыскусіяй "левыя" пусцілі юшку паважанаму чалавеку, калі той насуперак іх меркаванню выказаўся за неабходнасць вяртання гістарычных назваў вуліцам горада. Літаральна на ганку сталічнага гарсавета восем ці дзесяць дзябёлых дзядзькоў дзеля ўмацавання сваіх аргументаў у спрэчцы ўзяліся лупцаваць хлопца, які быў нязгодны з іх патрабаваннем узаконіць у Беларусі "двуязычие" і "свободный выбор языка обучения" — рускага, зразумела ж. Я асабіста за тое, каб ведаць мовы ўсіх нашых суседніх народаў і хоць бы адну-дзве мовы народаў "далёкага замежжа". Праўда, лічу гэта выключна сваёй праблемай і нікога з-за такіх уласных перакананняў дубасіць не збіраюся.

І ўсё ж дыскусія — справа карысная. Кажуць, што толькі ў спрэчках нараджаецца ісціна. А яшчэ кажуць, што ісціна — заўсёды рэч адносная. І тое, і другое сказана слушна. Таксама нельга забывацца, што выніковасць дыскусіі залежыць ад важкасці аргументаў, выверанасці фактаў. Менавіта шэраг істотных недакладнасцей і, як лічу, памылковых высноў, з якімі давялося сутыкнуцца ў "адказе апанентам" Ігната Дуброўскага ("ЛіМ", 25.11.94), змусілі вярнуцца да ранейшай тэмы. Не ўдакладніць напісанае шаноўным аўтарам — азначала б прызнаць за слушныя яго выказванні і ўласную памылковасць.

Адносна заканадаўчых актаў па назве нашае сталіцы. Магчыма, у 30-я гады гарсавет і прымаў нейкае рашэнне на гэты конт. З такімі дакументамі мне, ва ўсякім разе, сустракацца не давялося. Але ведаю дакладна, што назва Менск была зменена на Мінск у адпаведнасці з рашэннем 2-й сесіі Вярхоўнага Савета БССР Першага склікання ад 29 ліпеня 1939 г. Вырашэнне пытанняў аб наданні назваў паселішчам, як тады, так і зараз, з'яўляецца кампетэнцыяй заканадаўчага органа дзяржаўнай улады, а не вырашаецца органамі мясцовага кіравання.

Стэнаграма той сесіі ВС БССР сведчыць, што па пытанні аб змене назвы горада не было ніякага абмеркавання, ніхто не прыводзіў аргументаў. Усё было абумоўлена мэтазгоднасцю — "в целях сближения...". Работа па стварэнні новай супольнасці "советский народ" праводзілася па ўсіх накірунках ужо ў тыя часы. Галасаванне па пытанні засведчыла адзінадушную згоду дэпутатаў, як, зрэшты, і ў дачыненні да любога з адрэзкаў "линии партии". Уніфікацыя і ідэалагічная выверанасць назваў усяго і ўся на вялізным абшары шостай часткі сушы планеты выконвала важную задачу па замбіраванні мазгоў чалавека новай фармацыі.

Варта падкрэсліць, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапанову гарсавета па вяртанні назвы Менск разглядаў, але не прыняў. Такім чынам, у Канстытуцыю краіны і быў унесены запіс аб назве сталіцы Беларусі, прыведзены ў публікацыі сп. І. Дуброўскага. Пытанне гэта выходзіць за межы звычайнага законапаслушэнства. Сесія Мінскага гарсавета, прымаючы рашэнне ад 5 верасня 1991 г., адзначыла, што вяртанне спрадвечнага наймення горада абумоўлена неабходнасцю аднаўлення гістарычнай справядлівасці, а таксама — у сувязі з 400-годдзем надання Мінску герба (12 студзеня 1591 г.). Прыняццем такога рашэння немалая частка гарадскіх дэпутатаў выявіла свае патрыятычныя памкненні, засведчыўшы ўласнае стаўленне да тысячагадовай беларускай гісторыі. Па сутнасці, гэта быў акт рэабілітацыі як "нацдэмаў" ды іншых "польскіх шпіёнаў", так і рэпрэсаванай у 1939 г. назвы нашай сталіцы. Менавіта гэтага не пажадала зрабіць дэпутацкая большасць Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.



Дарма сп. І. Дуброўскі палічыў, што мною прыпісана яму **ініцыятыва** "атаясамлення слоў "нацыяналізм" і "фашызм". З тэксту публікацыі ў "ЛіМе" за 16.09.94 г. гэтага не вынікае. Але я лічыў і лічу, што адназначна атаясамляць гэтыя паняцці **нельга**. Паважаны аўтар, адказваючы траім сваім апанентам у "ЛіМе" за 25.11.94 г., усё ж настойліва даводзіць адваротнае. На маю думку, немалая сувязь прасочваецца паміж паняццямі "нацызм" і "фашызм". У той жа час (выказваю, зноў жа, сваю думку) "нацызм" і "нацыяналізм" не могуць быць словамі-сінонімамі. Фашысты вышэй за ўсё і ўсіх ставілі інтарэсы ўласнай **нацыі**. Асобны чалавек, нацыянальная супольнасць імі не прымаліся за вартыя ўвагі суб'екты. Нават з асяроддзя сваіх суграмадзян імі выдзяляліся асобныя індывіды, надзеленыя, зыходзячы з фашысцкай ідэалогіі, правам панаваць над іншымі. Пра падобныя з'явы варта гаварыць не толькі ў мінулым часе. Хіба не гэткія ж пастулаты прапагандуюцца заўзятарамі "русского национального порядка" сёння? Па гэтай прычыне тэма тэрміналагічнай адэкватнасці ў кантэксце нашай гаворкі мае асаблівае значэнне.

Зрэшты, няма патрэбы на старонках "ЛіМа" займацца лікбезам па тэматыцы фашысцкіх ідэй. Відавочна, у нашай тэрміналагічнай дыскусіі не ўлічаны некаторыя паняційныя адценні. Сп. І. Дуброўскі так заўзята ўзяўся даводзіць заганнасць тэрміна "нацыяналізм", быццам бы яго апаненты адназначна ўзвялі яго ў ранг анёльскае чысціні. Мною, у прыватнасці, нацыяналізм разглядаецца як справакаванае вонкавым фактарам імкненне малой або слабейшай нацыі адстаяць уласную самабытнасць. Добра сказаў пра гэта Уладзімір Ленін, супрацьпаставіўшы якасныя чыннікі нацыяналізму і шавінізму, апошні разглядаючы як адназначна заганную з'яву.

У разважаннях пра адмоўную сутнасць нацыяналізму, дарэчы, наўрад ці да месца скарыстана сп. І. Дуброўскім згадка пра надпіс на транспарце, які давялося яму бачыць на вуліцах Германіі ў часе Айчыннай вайны. Магу прыгадаць рэакцыю, у прыватнасці, літоўца, які дапусціў хібы ў рабоце, калі яго калега кінуў рэзкае: "Ты не літовец!" Для чалавека, які ведае вартасць зместу літоўскасці, горшага абвінавачвання не існуе. У прыгаданых тэксце на транспарце і выказванні літоўца мне бачыцца памкненне абвастрыць пачуццё нацыянальнай годнасці. Іншая справа, што ў тагачасных умовах Германіі гэты транспарант працаваў на рэакцыйную сутнасць фашысцкай ідэалогіі. Але падобны тэкст мог бы стацца цалкам да месца ў сённяшняй Беларусі, дзе маецца вялікая патрэба аб'яднання грамадства вакол ідэі нацыянальнага кшталту дзеля стваральнай працы па вывадзе краіны з прорвы крызісу.

У розных гістарычных і грамадска-палітычных умовах ідэалогія нацыяналізму, калі зацятасць у нацыянальным пачуцці перарастае ў крайнюю форму, цалкам здатная выклікаць з'явы адмоўнага характару. У такім выпадку гаворка пойдзе ўжо не пра нацыяналізм або гэты тэрмін запатрабуе дадатковага тлумачэння. У дакументах НБСЕ, у прыватнасці, ужыта паняцце "агрэсіўны нацыяналізм", пастаўленае ў адзін шэраг з шавінізмам, расізмам і антысемітызмам. Аўтарытэтная міжнародная арганізацыя, відаць, невыпадкова ўзмацніла яго такім эпітэтам.

Для цывілізаваных народаў сёння не існуе праблемы чыстага нацыяналізму, бо для іх не існуе і праблемы нацыянальнай самазахаванасці. Немец, італьянец або француз не зразумее нашых клопатаў пра беларускую (!) нацыянальную школу ў Беларусі (!). Не немец у Германіі не дадумаецца да патрабавання для сябе ці групы сабе падобных нямецка-ненямецкага двухмоўя. Ён, калі мае адпаведнае выхаванне, не дойдзе да непаважлівага стаўлення да германскага федэральнага ці асобнага зямельнага заканадаўстваў. Крый Божа каму ў цывілізаванай краіне выказацца непаважліва ў дачыненні тамтэйшай дзяржаўнай сімволікі. Яшчэ горш будуць расцэнены непаважлівыя ў адносінах да яе дзеянні. У нас усё гэта можна. І, больш таго, падобныя праявы, бывае, праходзяць пры маўклівым патуранні, а, можа, і з маўклівае згоды ўладных структураў.

Мы ўсё яшчэ жывём у перавернутым свеце. І тут цяжка чакаць радыкальных перамен, бо, памятаючы біблейскую прытчу пра саракагадовую вандроўку Майсея са сваім народам па пустыні, трэба гартаваць сілы на гэты няпросты шлях. Думаецца, што менавіта з прычыны "перавернутасці" нашага светапогляду Дзяржкамісія па ўдасканаленні правапісу беларускай літаратурнай мовы не здолела знайсці разумнае рашэнне. "Большасць навукоўцаў і прадстаўнікоў грамадскасці" — хто падлічваў нашы працэнтныя суадносіны? — не пажадала зразумець актуальнасць моўнай рэформы якраз зараз, калі больш і больш людзей далучаецца да беларускага слова. Гаворка не ідзе пра радыкальную моўную рэформу. Маё меркаванне, каго Камісія не аднесла да міфічнай большасці: мяккасць падвоеных зычных, ненаціскное "я", шэраг характэрных моўных прыкмет трэба было прымаць зараз, увёўшы гэтыя правілы ў новыя падручнікі па беларускай мове. Заўтра, калі "настане час", з лёгкасцю "высноў" сённяшніх можна будзе абгрунтаваць немэтазгоднасць рэфармавання правапісу з прычыны засваення "наркомаўкі" пераважнай большасцю грамадзян краіны, затратамі на выпуск падручнікаў і іншымі "неаспрэчнымі" аргументамі.

Можна, у прыватнасці, пагадзіцца з некаторымі выказваннямі не на карысць выкарыстання некаторымі сродкамі масавай інфармацыі "тарашкевіцы". Але што застаецца рабіць, калі тое, пра што ведаюць усе, афіцыйнага шляху вырашэння не знаходзяць. Яно прабівае сабе дарогу самапасам, уводзіцца явачным парадкам. Спыніць аб'ектыўную хаду часу немагчыма. Уся чалавечая гісторыя і асабліва наша апошняе дзесяцігоддзе таму яскравыя сведчанні. Адзінае, што нарэшце важна зразумець: чым даўжэй новае будзе прабівацца на свет, тым большымі будуць выдаткі грамадства. Калі афіцыёз нарэшце зможа адчуваць абнаўленчыя павевы і здолее, што найменей, не станавіцца на іх шляху, не стане патрэбы так заклапочана гаварыць пра нацыяналізм, тым больш — нацыяналізм агрэсіўны. Праўду напісалі беларускія сацыял-дэмакраты адносна адсутнасці ў Беларусі падстаў для міжнацыянальных спрэчак. Толькі, як адзін з аўтараў гэтых радкоў, магу засведчыць, ні ў прыведзеных шаноўным сп. І. Дуброўскім словах, ні ў іншых, занесеных грамадоўцамі ў свае дакументы, не даецца вызначэнне нацыяналізму. Праграмныя прынцыпы, а тым больш праграма партыі не з'яўляецца навуковым трактатам. Тым больш, што ў прыведзенай цытаце гаворыцца пра "шавінізм і нацыянальны экстрэмізм", тоесныя па сваёй сутнасці паняцці, што стасуецца з разуменнем іх цывілізаваным светам.

Такая наша спрэчка ўсчалася, як мне здаецца, з-за ўспрымання сп. І. Дуброўскім пэўных з'яў і паняццяў як бы ў аднамернай плоскасці. Але, як ужо пісаў, нават у белага і чорнага колераў ёсць свае адценні, не кажучы ўвогуле пра шматколернасць свету. Аўтар абодвух лімаўскіх публікацый нібы прапануе нам і высновы Дзяржкамісіі па правапісе, і замацаваную ў Канстытуцыі назву нашае сталіцы, і сведчанні слоўнікаў дзесяці- і стогадовай даўнасці прымаць за аксіёму. Але мы павінны памятаць, што, у прыватнасці, праблема міжнацыянальных стасункаў у XIX ст., у 70-я гады і сёння мае розны змест, неаднолькавы характар. Дарэчы, ці можам мы ставіцца з поўным даверам да звыш ідэалагізаваных слоўнікаў часоў "застою"? Мала знойдзецца з'яў і паняццяў, якія б у розныя перыяды мелі аднолькавую ці нават і падобную трактоўку.

Уменне слухаць і жаданне чуць з'яўляюцца падставамі для грамадскага сумоўя. Гэтыя станоўчыя якасці чалавечай асобы дазваляе выявіць цывілізаваная дыскусія. Не мною прыдумана, што лепш весці спрэчку на словах. Несумненная ж карысць такіх "сутычак" апанентаў у набліжэнні нашай тэрміналогіі да прынятай ужо даўно сусветнай супольнасцю. Без правядзення такой работы мы можам быць незразумелымі ў свеце, як і свет шмат у чым не зразумее нас.

**Ігар ЧАРНЯЎСКІ**

Новыя кнігі

# "НАД БЕЛАРУССЮ РЭКВІЕМ ГУЧЫЦЬ..."

Нядаўна я прысутнічаў на прэзентацыі новай, у многім незвычайнай кнігі. "Афганской тетрадью" яна называецца. Аўтар — мой цёзка і калега Рыгор Сакалоўскі, палкоўнік, галоўны рэдактар "Во славу Родины" — газеты Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. У прасторнай зале сабраліся ветэраны беларускай ваеннай журналістыкі, аб'яднаныя ў пярвічнай прафесійнай арганізацыі "Ажур" пры СЖ РБ, і прыхільна сустрэлі свайго малодшага сабрата па пяры, які прачытаў нам некалькі вершаў са свайго "сшытка", многім надпісаў сваю кніжку.

Я ляцеў якраз у "Белую Русь", новы наш беларускі санаторый на чарнаморскім узбярэжжы ў раёне жывапіснага Туапсе, узяў з сабою "Афганскі сшытак" і ўжо ў мінскім аэрапорце-2 у чаканні рэйса перачытаў навінку.

Добрая кніжка атрымалася ў Рыгора Васільевіча, нічога не скажаш! Ён ведае тую, нікому непатрэбную вайну не па чутках: сам там быў, закінуты лёсам армейскай службы.

На тытуле зборніка аўтар сціпла адзначае, што гэтая кніга — "аб маладым пакаленні, якое прайшло агонь афганскай вайны, але "не уронило своей чести и достоинства".

Першыя радкі ў "Сшытку" прысвечаны "Отчизне" (так называецца верш, якім пачынаецца кніга):

**Как многое ты значишь**
**Для меня!**
**Как не хватает**
**Вдалеке от дома**
**Твоих лугов,**
**Что косами звенят,**
**Твоих тропинок,**
**С детства мне знакомых...**

І адразу — "з месца ў кар'ер!" — гутарка пераходзіць да "с тревогою щемящей сердце" тэмы — пра Афганістан, пра такую нядаўнюю яшчэ, "славутую" вайну, у якой давялося воляй-няволяй удзельнічаць і нашым салдатам:

**Опять декабрь**
**Над Минском серебрится,**
**И падают снежинки**
**На плечо...**
**Однополчан погибших**
**Вижу лица,**
**В глазах укор живым:**
**"За что, за что?.."**

Уся кніга, ад пачатку да канца, прасякнута болем народным, менавіта: за што, за што ж ваявалі мы там, у тым далёкім і трагічным (да гэтага часу!) "Афгане"? І колькі "жизней прервалось" у нашых хлопцаў на той, чужой для нас зямлі, у тых баях "на перевале, где пришлось друзей терять"!

Памяць народная... Яна праходзіць у Рыгора Сакалоўскага праз усю кнігу. "Над Беларусью реквием звучит — о сыновьях земли, в "Афгане" павших!" — упэўнена заяўляе ён.

**Рыгор ТАРАСЕВІЧ,**
**былы ваенны карэспандэнт,**
**ветэран вайны і працы**

Бацькаўшчына

# ТУРАЎСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Больш за тысячагоддзе на палескай зямлі, ля Прыпяці, стаіць, слухаючы плёскат яе хваляў, старажытны Тураў. Дзесяць гадоў таму пацягнула мяне сюды легенда, якую расказаў мне тураўлянін пра князя Святаполка і бедную дзяўчыну Ясю. Легенда ўразіла. Захацелася больш даведацца пра мінулае Турава, знайсці хоць нейкія сляды тых даўніх падзей і напісаць драматычны твор...

І толькі тады, "капаючы" гістарычны матэрыял у тураўскім музеі, я ўпершыню пачуў імя Кірылы Тураўскага, уведаў, што менавіта старажытны Тураў з'яўляецца калыскай вялікага асветніка і златавуста. Ды і адкуль можна было ведаць, бо ў школе не вывучалі спадчыну Кірылы Тураўскага, імя яго ад нас хавалі. Але адраджэнскі час паспрыяў, каб хвалі Прыпяці вынеслі на паверхню гэта славутае імя, пахаванае на доўгія гады людскім "бяспамяцтвам". Патухлая зорка Кірылы Тураўскага зноўку ўзыходзіць на беларускім небасхіле і сваімі промнямі кранае нас, сучаснікаў. На тураўскім замчышчы ўзвышаецца не так даўно пастаўлены помнік беларускаму златавусту, у Гомелі пры культурна-грамадскім цэнтры створана таварыства Кірылы Тураўскага. Далучыўшы да сябе прадстаўнікоў духавенства, вучоных — гісторыкаў, мовазнаўцаў, славістаў, таварыства нямала робіць для прапаганды духоўнай спадчыны святара, пісьменніка, дзеяча культуры старажытнай Русі Кірылы Тураўскага.

І тым не менш, пры ўсім ужо зробленым у гонар гэтага славутага земляка, хочацца, каб не забываліся мы і пра старажытны Тураў — калыску вялікага асветніка. Тураў, як прадзед гарадоў беларускіх, заслугоўвае да сябе большай пашаны і большай увагі.

Неаднаразова едучы ў Тураў, я ў думках вяртаўся да мінулага. Паўставалі перад вачыма тураўляне — далёкія продкі цяперашніх. Ці не тут ля прыдарожнага крыжа сядзеў гусляр і баяў казанні пра тураўскага князя Святаполка Ізяславіча? Ці не па гэтай дарозе некалькі стагоддзяў назад білі капытамі коні князевай дружыны, альбо ці не гнаў тут каня ваявода — ехаў са стольнага града Кіева з чорнай весткай? Ці не гэтай дарогай ішлі сюды ворагі, і князі збіралі тураўлян у раць?

А вось і Прыпяць... Рачны водар дыхнуў у твар. Аўтобус коціць па вялікім мосце. І прыгадваюцца мне сустрэчы з гэтай ракою, калі яшчэ не было моста. Як я стаяў на пароме, на які ўз'язджалі машыны, узыходзілі людзі, і маленькі кацярок пыхаў газай і, надрываючыся, цягнуў паром да берага. Адразу за Прыпяццю — Чэрнічы. Памятаю, давялося пачуць тут ад 98-гадовай бабулі невялічкае паданне пра назву вёскі: калісьці тут быў манастыр княгіні Варвары. Манашак яго называлі "чарніцамі". Вёску, якая ўзнікла тут, назвалі Чэрнічы...

Той, хто раней шмат чуў пра Тураў і ўпершыню трапляе сюды, чакае ўбачыць тут старажытныя збудаванні, сцены, вежы з байніцамі, царкоўныя купалы. Але нічога такога ў Тураве не засталося — сцерлася войнамі, часам. Прызнацца, і мне хацелася ўбачыць усё гэта таксама. Ходзячы ж тут, я не верыў вачам: засталося толькі стражытнае замчышча з крутымі схіламі. У высокім небе над ім, як і стагоддзі назад, кружылі палескія легкакрылыя буслы. Я падоўгу стаяў на рукатворнай гары, і так хацелася пачуць галасы далёкіх тураўлян скрозь стагоддзі, хацелася перакінуць масток у мінулае і ўявіць, якімі ж былі яны, разабрацца ў іх характарах, пачуццях і памкненнях...

Падчас шматразовых маіх сустрэч з Туравам, падчас збору фальклору, гастрольных падарожжаў, увасабленняў тэатралізаваных свят на гэтай зямлі лёс зводзіў мяне з многімі тураўлянамі.

Першае маё знаёмства адбылося з тагачасным старшынёй пасялковага Савета Мікалаем Арцюшкам. У маім уяўленні ён спаўна адпавядаў вобліку карэннага жыхара Турава: адкрыты твар, блакітныя вочы, русявыя валасы. Адчувалася, што ён цвёрда стаіць на

## РАТУША

Упрыгожаннем цэнтральнай плошчы Чачэрска стаў адрэстаўраваны будынак старадаўняй ратушы — помніка архітэктуры XVIII стагоддзя (на здымку). Закончаны толькі знешнія работы, а калі будуць афармлены інтэр'еры унікальнага будынка, тут размесціцца гісторыка-этнаграфічны музей, для якога ўжо закуплена абсталяванне. Грошы на правядзенне ўнутраных рэстаўрацыйных работ выдаткаваў Гомельскі аблвыканкам.

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ*

Мартыралог

# ПАЎСТАННЕ

Як вядома, ахвярамі сталінскіх рэпрэсій рабіліся самыя розныя сацыяльныя групы насельніцтва — ад радавых рабочых і сялян да кіраўнікоў вышэйшых эшалонаў улады. Да апошніх належаў і нарком асветы Беларусі Уладзімір Іванавіч Піваварaў, які рашэннем Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР ад 29 мая 1940 года быў асуджаны на 15 гадоў папраўча-працоўных работ.

У нумары "ЛіМа" за 7 верасня 1990 года было змешчана пісьмо жонкі У. Піваварава Яўгеніі Іванаўны, у якім яна расказала аб апошняй сустрэчы з мужам у мінскай унутранай турме НКУС у красавіку 1940 года. Які яго напаткаў лёс пасля гэтага, ёй засталося невядомым.

... У сярэдзіне 1938 года органы НКУС распачалі чарговую "справу" — цяпер ужо "адказных работнікаў Беларусі". Па сфабрыкаваных у нетрах НКУС БССР абвінавачаннях у контррэвалюцыйнай дзейнасці, прыналежнасці да права-трацкісцкай і нацфашысцкай арганізацый былі арыштаваны былы старшыня ЦВК БССР М. Стакун, былы сакратар ЦК КП(б)Б В. Паталейка, намеснікі старшыні СНК рэспублікі, шэраг наркомаў (у тым ліку і У. Піваварaў) і дырэктароў прадпрыемстваў.

У даведцы Упраўлення дзяржаўнай бяспекі НКУС БССР аб выніках разгрому "антысавецкага падполля ў БССР" адзначалася, што "значная колькасць яго ўдзельнікаў (2570), арыштаваных у другой палове 1937 — першай палове 1938 года, працавала ў ЦК КП(б)Б, ЦВК БССР, Саўнаркоме, наркаматах, АН БССР, ВНУ, пісьменніцкай арганізацыі". У гэты перыяд былі арыштаваны і асуджаны да вышэйшай меры пакарання ўсе 11 членаў бюро ЦК КП(б)Б, 6 з 7 кандыдатаў у члены бюро, а да пачатку 1939 года аказаліся арыштаванымі 42 з 64 членаў ЦК КП(б)Б, выбраных у чэрвені 1937 года XVI з'ездам Кампартыі Беларусі.

У дакументах тых гадоў, прадстаўленых НКУС БССР у ЦК КП(б)Б, наркамат асветы, які ўзначальваў У. Піваварaў, характарызаваўся як "очаг контрреволюции и шпионажа".

У дакладной запісцы, прадстаўленай наркомам НКУС БССР Наседкіным, сцвярджалася: "Наркомат просвещения является очагом польских шпионов, троцкистов, правых и националфашистов, которые по заданию польских разведорганов проводят активную шпионскую, разведывательную и вредительскую работу"...

Далейшыя падзеі, натуральна, развіваліся па дакладна адпрацаваным сцэнарыі. 2 ліпеня 1938 года нарком асветы БССР У. Піваварaў быў арыштаваны ў сябе дома і пасля праведзенага стараннага вобыску (які нічога не даў) быў змешчаны ва ўнутраную турму НКУС г. Мінска. Потым на працягу амаль двух гадоў ён знаходзіўся пад следствам і толькі 29 мая 1940 года яму абвясцілі прысуд Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР аб тым, што ён "за контррэвалюцыйную дзейнасць" асуджаны да 15 гадоў папраўча-працоўных работ.

Цяпер можна толькі здагадвацца, якім неймаверным пакутам падверглі яго ў засценках мінскага НКУС. У красавіку 1940 года жонка апошні раз убачыла Уладзіміра Іванавіча на 20-мінутным спатканні ў мінскай турме НКУС. Яна яго тады ледзь пазнала. У выніку здзекаў, у прыватнасці, прыёмаў "вальса", у яго на абедзвюх руках былі паламаны і садраны пазногці і, нягледзячы на гэта, як потым стала вядома, ён не даў ніякага "кампрамата" на сваіх былых калег, хоць некаторыя з іх далі паказанні пра яго "контррэвалюцыйную дзейнасць".

У чэрвені 1940 года У. Піваварaў быў этапіраваны ў Варкутлаг. У Комі АССР перад вайной колькасць зняволеных удвая перабольшвала грамадзянскае насельніцтва. Лагерны рэжым усё больш рабіўся жорсткім. Асабліва гэта адбівалася на асуджаных па 58-м "контррэвалюцыйным" артыкуле.

Лагер "Лесарэйд", куды быў накіраваны Уладзімір Іванавіч, размяшчаўся за шэсць кіламетраў ад сяла Усць-Уса. Быў ён невялікі як па маштабах вытворчасці, так і па колькасці зняволеных. Усяго іх тут было 193 чалавекі. Дзве трэці з іх былі асуджаны за "контррэвалюцыйныя злачынствы". Працавалі на нарыхтоўцы драўніны для шахтаў, шпалаў. У гэтым лагеры знаходзілася больш за пяцьдзесят нашых землякоў, якія трапілі туды ў 1937—1939 гады.

Чытачы практычна нічога не ведаюць аб фактах масавага супраціўлення рэжыму ГУЛАГа. А між тым, то ў адным, то ў другім месцы зняволення ў знак пратэсту супраць дзеянняў лагернай адміністрацыі адбыўся шэраг як стыхійных, так і арганізаваных выступленняў.

Так адбылося ўвосень 1941 года і ў "Лесарэйдзе". Па матэрыялах следства НКУС і лагернай адміністрацыі, ініцыятарамі супраціўлення сталі так званыя "трацкісты" і "эсэры". Непасрэдна ўзначалілі выступленні А. Макееў, былы кіраўнік "Комілес", і У. Піваварaў. Гэтыя два чалавекі пачалі шукаць аднадумцаў. Неўзабаве да іх далучыліся І. Звераў, які стаў потым камандзірам паўстанцаў, М. Дунаеў — начальнік паўстанцкага штаба (адбываў 15 гадоў за ўдзел у "трацкісцкай арганізацыі"). Ад пяці да дзесяці гадоў мелі тэрміны і іншыя паўстанцы, у тым ліку і нашы землякі: А. Яшкін, В. Парахневіч, В. Казлоўскі і інш.

Быў створаны штаб паўстання, які вырашыў пачаць выступленне ў студзені 1942 года. Паўстанцы выпрацавалі такую праграму дзеянняў: вызваленне з лагераў і турмаў усіх зняволеных, прыцягненне на бок паўстанцаў працоўных і спецперасяленцаў, а таксама мясцовага насельніцтва, стварэнне на аснове добраахвотнага набору ўзброенай арміі, роспуск калгасаў.

Паўстанне павінна было пачацца адначасова на "Лесарэйдзе" і ў лагпункце Поле-Кур'я. Пасля аб'яднання паўстанцы мелі намер захапіць райцэнтр Усць-Уса, адтуль па рацыі прад'явіць ультыматум аб вызваленні ўсіх зняволеных Варкутлага, а ў выпадку адмовы рухацца групамі на Варкуту, Інту, Котлас, вызваляючы зняволеных.

Паўстанне пачалося ў суботні дзень 24 студзеня 1942 года. Вольныя ад дзяжурства ахоўнікі сабраліся ў лазню. Як толькі дзверы ў лазню зачыніліся, паўстанцы абяззброілі стралка аховы, а потым, пранікнуўшы ў казарму, і дзяжурнага. Тут жа, у казарме, паранілі двух стралкоў. Пералічылі першую здабычу: 12 баявых вінтовак, 4 рэвальверы, 1682 патроны.

Адчынілі зону. Паўстанцы пайшлі па бараках, заклікаючы вязняў далучыцца да іх. Адчынілі харчовы і рэчавы склады. Усім паўстанцам былі выдадзены новыя паўкажухі, валёнкі, бушлаты, штаны, шапкі, рукавіцы. З гужавога транспарту быў арганізаваны абоз з васьмі вазоў.

Частка зняволеных, у асноўным непалітычныя, не падтрымалі паўстаўшых. Са 140 чалавек "Лесарэйда", апранутых і абутых у новае абмундзіраванне, канчаткова згадзіліся на выступленне 109. Рушылі на Усць-Усу.

Першым падвергся тут нападу будынак камеры папярэдняга зняволення. Два міліцыянеры аховы паспрабавалі адстрэльвацца, але былі забіты. Паўстанцы вызвалілі 38 чалавек, 12 з іх згадзіліся да іх далучыцца.

У гэты час другая група мяцежнікаў падступіла да будынка пошты. Да вечара будынак быў у іх руках. Яшчэ адна група паўстанцаў спрабавала захапіць аэрадром, дзе ў гэты час знаходзіліся два самалёты. Але стралок, які ахоўваў аэрадром, і пілот сустрэлі вязняў агнём. Тыя вымушаны былі адступіць. Свайго апагея бой дасягнуў у будынку міліцыі.

...Дзень 24 студзеня заканчваўся. Пасля поўначы на дапамогу усць-усінскім энкавэдыстам прыбылі 15 стралкоў з Поле-Кур'і. Паўстанцы адступілі і на дзесяці вазах рушылі ўверх па Пячоры. Адступленне больш нагадвала ўцёкі, і такія паспешлівыя, што большая частка паўстанцаў у розных канцах сяла была кінута на волю лёсу. На наступны дзень усе, хто застаўся ў жывых, у саракаградусны мароз былі перад будынкам міліцыі пастаўлены на калені з рукамі на патыліцы. На каленях жа іх прымусілі дапаўзці да КПЗ і турмы.

Позна ноччу з 24 на 25 студзеня аб паўстанні ў "Лесарэйдзе" стала вядома і ў наркамаце ўнутраных спраў Комі АССР. Адразу ў кабінеце наркома С. Кабакова быў скліканы ўвесь аператыўны склад наркамата. На наступны дзень па яго ўказанні ва Усць-Усе была ўстаноўлена каменданцкая гадзіна. А ва ўсіх населеных пунктах басейна Пячоры на тэрыторыі рэспублікі былі арганізаваны пасты назірання. Напрыклад, у Абезі на гэтую справу мабілізавалі нават школьнікаў. У іх ліку быў і вучань сёмага класа Алег Яфрэмаў, цяпер вядомы акцёр і рэжысёр (бацька Алега, Мікалай Іванавіч, адбываў тут пакаранне).

Настражэйшы рэжым быў устаноўлены і ў лагерах.Была задзейнічана ўся лагерная агентурная сетка.

Частка паўстаўшых на чале з У. Піваваравым рушыла на Кожву. У тры гадзіны ночы ў вёсцы Акісь імі быў напатканы абоз зброі, які накіроўваўся ў Варкуту. Да ўзбраення паўстанцаў дадалося 18 вінтовак, 2 рэвальверы, 5 гранат, некалькі тысяч патронаў.

Раніцай 25 студзеня гэты ўзброены атрад увайшоў у сяло Усць-Лыжа. Калі кіраўнікі паўстаўшых пераканаліся, што аб іх руху ўсе

## РОЗНЫЯ І ЦІКАВЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

ў шостым, апошнім за мінулы год нумары часопіса "Спадчына". Змешчаны артыкул І. Мартыненкі "Практыка пракурорскага нагляду за выкананнем заканадаўства аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны", нарыс А. Смалянчука "Раман Скірмунт: шлях да Беларусі". А. Трусаў ("Агульныя тэндэнцыі ў гарадской матэрыяльнай культуры Вялікага княства Літоўскага") дае магчымасць адчуць, як у даўніну ў нашай дзяржаве надавалі вялікае значэнне гэтаму важнаму пытанню.

Альбін Стаповіч... Гэтае імя пакуль не шмат гаворыць тым, хто жыве ідэямі нацыянальнага Адраджэння. У такім разе варта пазнаёміцца з матэрыялам А. Глагоўскай "Кар'еру пачынаў у Цеханаўцы", прамовамі А. Стаповіча ў польскім сойме, яго развагамі "Беларусы, дзяржаўнасць, незалежнасць". З А. Нікіціным ("Першы Рурык — міф ці рэальнасць?") можна пагаджацца, а можна і спрачацца, ды, як кажуць, у спрэчках нараджаецца ісціна.

М. Мікуліч гутарыць з А. Лісам — "Заходняя Беларусь: культурная спадчына забытага дваццацігоддзя". Змешчана і інтэрв'ю з загадчыцай аддзела антрапалогіі і экалогіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі Л. Цягакай "Беларуская антрапалогія: homo sapiens у прасторы і часе".

Дзякуючы У. Ляхоўскаму (прадмова, падрыхтоўка публікацый і бібліяграфічныя даведкі) можна дэталёва пазнаёміцца з такім аспектам нацыянальнай гісторыі, як "Беларуская справа падчас польскай акупацыі 1919—1920 гг.". Тут жа артыкулы А. Краўцэвіча "Апошні прытулак апошняга караля Рэчы Паспалітай", С.-Г. Мікося "Луіза Бройд — даследчыца Арктыкі і ...Палесся", М. Савіча "Беларускія гаворкі Віленшчыны: гісторыя і сучаснасць", І. Шарухі "Геаграфічны цэнтр Еўропы — у Беларусі", І. Сінчука "Караліны, луідорры і ...філіпок", Э. Паўловіча "Наваградак у першай палове XIX стагоддзя", нарыс В. Чаропкі "Алена Глінская — жонка вялікага князя Маскоўскага Васіля", эсэ Р. Эмерсана "Давер да сябе", рэцэнзія І. Сінчука на кнігу А. Цітова "Пячаткі старажытнай Беларусі".

## БЕЗ НАВУКІ НЯМА НАЦЫІ

Так назваў свае слова ў першым нумары часопіса "Беларуская думка" яе галоўны рэдактар У. Вялічка. Змешчаны таксама гутарка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь М. Чыгіра з У. Вялічкам і Г. Махнач "Ніткі нашага лёсу", роздум У. Глушакова "Цана выбару", ці За чые грахі мы разлічваемся?", артыкул М. Тараткевіча "Сядзім, як тая нявеста ў чаканні жаніхоў", нарыс М. Капыловіча "Не вада, а шампанскае цячэ ў калодзежах, якія дорыць людзям Пятро Іванавіч Атырка", інтэрв'ю В. Ліс з рэжысёрам Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі А. Ляляўскім "Чароўны свет лялек", згадкі М. Маліноўскага "Капітан гэты быў Казарскі, ці Марская слава Беларусі", іншыя матэрыялы.

тураўскай зямлі. Яно і не дзіўна, бо ўвесь род Арцюшкаў — з тутэйшых.

Дбайна клапаціўся гэты чалавек пра Тураў і яго жыхароў. На працягу некалькіх гадоў мне прыходзілася назіраць, з якой павагай ставяцца да яго землякі. Яны ішлі да Арцюшкі па дапамогу, параду не толькі ў службовы кабінет, але і дадому, спынялі яго на вуліцы. І заўсёды Мікалай Мікалаевіч адносіўся да іх з асаблівай зямляцкаю цеплынёй. Клопаты яго былі не толькі пра гарпасёлак. Памятаў Арцюшка і зараз памятае вялікую і слаўную яго гісторыю. Менавіта дзякуючы турботам былога мэра і стаіць сёння ў Тураве помнік, які сведчыць аб яго старажытнасці.

Ды і зараз, на пасадзе старшыні праўлення калгаса "Новае жыццё", з глыбокай пашанай ставіцца ён не толькі да гістарычнай спадчыны, але і да фальклорна-абрадавых свят на тураўскай зямлі.

Прыгадваю, як Арцюшка з усёй адказнасцю ўзваліў на свае плечы абавязкі загадчыка пастаноўчай часткі рэспубліканскага свята "Тураўскае Купалле", якое даводзілася мне ўвасабляць. Яго ўклад паспрыяў ідовішчнасці свята.

Тут пазнаёміўся я і з ужо немаладым чалавекам Фёдарам Міхайлавічам Сяўко, які добра ведаў гісторыю Турава. У недалёкай ад Турава вёсцы, у школе, дзе настаўнічае, ён разам са сваімі вучнямі стварыў этнаграфічны музей. У музеі шмат экспанатаў з культуры палешукоў. Вочы спыняюцца на звычайным яловым сучку, які вісіць на сцяне. Пытаю, якую ролю ён адыгрывае ў сялянскім быце? — "О! — смяецца настаўнік, — гэта мой барометр. Ён паказвае надвор'е. І яшчэ змены надвор'я я заўважаю па сваіх вучнях; калі яны штурхаюцца, няўрымслівыя, у класе, то засвеціць сонейка, калі ж маркотныя — то дождж будзе... Гэта яшчэ не ўсё, — усміхаецца ён, беручы цэп, якім малацілі збажыну сяляне. — Вось я зараз пакажу, як малацілі мужык з жонкаю, а потым да іх далучу яшчэ трох дзяцей". Атрымліваўся цікавы гук са сваім музычным размерам і тактам.

Добрыя ўспаміны засталіся ў мяне і пра былога галоўнага ўрача тураўскай бальніцы Уладзіміра Волкава. На вялікі жаль, яго ўжо няма сярод нас. Вызначаўся ён шырокай эрудыцыяй, настойлівасцю, жаданнем дапамагчы ў цяжкі момант сваім землякам. А колькі Уладзімір стараўся, каб хутчэй было завершана будаўніцтва новай бальніцы? Стары будынак быў даўно непрыгодны. Шмат разоў даводзілася бачыць Волкава на ганках аблвыканкама. Стукаўся ён і ў дзверы Міністэрства аховы здароўя. Таксама адметнаю рысай яго характару была любоў да свайго краю, да родных мясцін. Раней Уладзімір працаваў у Забайкаллі. Аднак пераехаў у Тураў. Сустракаў і сустракаю шмат людзей, якія ведалі Уладзіміра Волкава, і ва ўсіх ён застаўся ў памяці як добры ўрач і вялікай душы чалавек...

Зусім іншы па характары яго брат Іван. Быццам і не адна маці іх нарадзіла. Іван — закаранелы паляшук, на "маторцы" насіўся па Прыпяці з хуткасцю дэльфіна і з заплюшчанымі вачыма ведаў кожны паварот роднай ракі. Дарэчы, ніхто з тураўлян не ўмее так спрытна лавіць рыбу і ракаў, як Іван Волкаў...

З вялікай настальгіяй па страчаным успамінаю сёння Міколу Котава, былога балетмайстара народнага ансамбля танца "Прыпяць". Хоць сам ён родам і не з Турава, але ж карані гэтага самародка моцна ўвайшлі ў тураўскую зямлю. Паважалі Котава ў Тураве і старыя і малыя. Не верылася, што зможа ён пакінуць гэтыя мясціны. Але ж пакінуў. Пакрыўдзілі яго тонкую творчую душу, і збяднеў традыцыйны танцавальны фальклор Тураўшчыны...

Перагортваючы "тураўскія сустрэчы", нельга абысці і сённяшняга старшыню пасялковага Савета Васіля Каральца. Хоць ён па сваім характары сціплы памяркоўна-спакойны, але ў ім закладзена адраджэнская сіла. І праяўляе ён яе ў тым, каб за межамі Турава гучала імя Кірылы Тураўскага.

На жаль, пра ўсіх тураўлян у невялікіх нататках усё ж не раскажаш. Шмат іх, харошых людзей, на гэтай старажытнай зямлі. І ўсе яны розныя і па-свойму непаўторныя.

Зямля тураўская... На працягу стагоддзяў шчодра паліта яна крывёю і потам працавітых герaічных людзей — дрыгавічоў-тураўцаў. На гэтай зямлі што ні назва, — то гісторыя, што ні мясцовасць, — то паданне, што ні рэчка, — то міф. Дык няхай жа калыска вялікага асветніка — старажытны Тураў, і славутае імя Кірылы Тураўскага дарагім будзе ўсім нам, і няхай яго магутная слава зноў загучыць, як некалі гучала па ўсёй нашай старане.

**Мікола МАКАРЦОЎ**

---

ведаюць, усе дарогі адрэзаны, у другой палове дня атрад выйшаў з сяла. Прайшоўшы 70 кіламетраў, падышоў да чумаў аленяводаў. А 26 студзеня ва Усць-Лыжу прыбылі першыя часці войск НКУС. Праз некалькі гадзін яны накіраваліся ў пагоню за паўстанцамі. Раніцай 28 студзеня завязаўся бой, які працягваўся амаль суткі. Паўстанцы арганізавалі ў снежных акопах нядрэнную абарону. Яны забілі 16 ваеннаслужачых, сямёра паранілі, і энкавэдысты мушаны былі адступіць з поля бою.

...У лясной хаціне паўстанцы сабраліся на сваю апошнюю нараду. Сёй-той, гранічна змучаны, прапанавалі спыніць барацьбу і здацца, але большасцю было вырашана разбіцца на групы і ратавацца ўцёкамі на лыжах праз тайгу. Але зрабіць гэтага не паспелі. Дзве групы ўцекачоў хутка былі дагнаны. Была акружана і трэцяя, асноўная група, у склад якой уваходзіў і Уладзімір Іванавіч. Пасля няроўнага бою жывыя былі ўзяты ў палон.

Пачалася крывавая расправа. Забівалі жывых і дабівалі параненых, не шкадуючы нікога. У. Піваварaў і іншыя ацалелыя кіраўнікі паўстання былі дастаўлены ў Сыктыўкарскую турму НКУС. На працягу двух месяцаў ішло следства. У допытах прымаў удзел сам нарком НКУС Комі АССР С. Кабакоў. Удзельнікам паўстання было прад'яўлена абвінавачанне па артыкулах 58-2, 8, 9 (узброенае паўстанне, здзяйсненне тэрарыстычных актаў, разбурэнне або пашкоджанне лагераў у контррэвалюцыйных мэтах) і па пастанове Асобай нарады пры НКУС СССР 30 сакавіка 1942 года 26 удзельнікаў паўстання, у тым ліку і У. Піваварaў, былі расстраляны.

Сёння з упэўненасцю можна гаварыць, што паўстанне было актам адчаю людзей, якія чакалі масавых расстрэлаў...

Прайшлі гады. Жонка і дачка Уладзіміра Іванавіча перад вайной вымушаны былі паехаць з Беларусі ў г. Волжскі Валгаградскай вобласці. Неаднаразова Яўгенія Іванаўна пасылала пісьмы на імя Сталіна, Калініна, Берыі з просьбай паведаміць, дзе знаходзіцца яе муж. Пасля кожнага звароту яе выклікалі ў МДБ і гаварылі: "Што вы хочаце, ваш муж вораг народа", і прапаноўвалі аформіць развод.

У 1953 годзе, пасля смерці Сталіна, жонка У. Піваварава звярнулася ў пракуратуру з просьбай аб рэабілітацыі мужа. 25 снежня 1954 года справа па абвінавачанні Піваварава Уладзіміра Іванавіча была перагледжана Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Прысуд Ваеннай калегіі ад 29 мая 1940 года і справа былі адменены за адсутнасцю складу злачынства (і ні слова аб прысудзе Асобай нарады НКУС СССР ад 12 сакавіка 1942 года).

Пасля "перагляду" справы сям'я атрымала "пасведчанне" аб смерці, выдадзенае гарадскім аддзелам ЗАГС г. Волжскага, у якім было ўказана, што Піваварaў У. І. памёр 28 жніўня 1941 года ва ўзросце 37 гадоў. У графе "прычына смерці" стаяла: ад паралiча сэрца. Месца смерці — невядома (зноў гнюсная хлусня).

У дакуменце гэтым ашаламляе не толькі сам факт хлусні — да яе мы даўно прывыклі, а тое, што хлусня з такімі "падрабязнасцямі" распісвалася на дзяржаўным узроўні. Пра лёс арыштаваных хлусілі заўсёды. Гэта ведае кожны, хто прайшоў чэргі да даведачных акенцаў, — пракурорскіх, міліцэйскіх, гулагаўскіх. Родны табе чалавек знаходзіўся ў адной турме, а табе называлі другую, яго адвозілі на Усход, а гаварылі, што на Поўнач, альбо зусім адгаворваліся няведаннем ("сведениями о местопребывании не располагаем"), ілгалі аб прычынах арышту і асуджэння, ілгалі аб стане здароўя. І асаблівая хлусня — аб прычынах смерці: "сардэчная недастатковасць", "параліч сэрца", "запаленне лёгкіх", але ніколі не расстрэл, не голад, не туберкулёз, не самазабойства.

Праўда раскрывалася паступова, маленькімі частачкамі, у асноўным пачынаючы з сярэдзіны 50-х гадоў. Аднак была катэгорыя ахвяр рэпрэсій (куды трапіў і У. Піваварaў), пра лёс якіх прадаўжалі свядома лгаць і ў час першай рэабілітацыі, і пры застоі, і ў разгар перабудовы. Пад забаронай заставалася праўда пра лёс тых, хто быў расстраляны па прысудзе несудовых органаў — Асобай нарады, троек", "двоек", Камісіі НКУС і Пракурора СССР і г. д.

У прыватнасці, на пасяджэнні Прэзідыума ЦК КПСС 18 жніўня 1955 года была прынята пастанова, на падставе якой Старшыня КДБ СССР І. Сяроў выдаў разгорнутае ўказанне паведамляць аб усіх расстраляных, што яны былі асуджаны да 10 гадоў ВПЛ і памерлі ў час адбывання пакарання. Пры гэтым дата смерці вызначалася органамі КДБ адвольна ў межах 10 гадоў з дня арышту, выдуманай была і прычына смерці. На падставе ўказання КДБ органы ЗАГС выдавалі "пасведчанні" аб смерці. Такое ж "пасведчанне" і атрымала Яўгенія Іванаўна, як і дзесяткі тысяч іншых грамадзян.

Хлусня ўзору 1955 года праіснавала да нядаўняга часу і была адменена (зноў-такі па ўзгадненні з "інстанцыяй") загадам па КДБ СССР ад 30 верасня 1989 года. Такім чынам, людзі, якія атрымалі адказ паміж 1955 і 1963 гадамі і не звярталіся з новымі запытамі пасля сакавіка 1989 года, так і засталіся ў няведанні адносна сапраўдных прычын і дат гібелі сваіх блізкіх (дарэчы, Яўгенія Іванаўна 2 сакавіка 1989 года на сваё пісьмо атрымала адказ з МУС Комі АССР аб тым, што яе муж памёр ад паралiча сэрца 28 жніўня 1941 года).

Гэтае шматгадовае нагрувашчванне хлусні было патрэбна тым, хто хацеў схаваць праўду аб генацыдзе камуністычнага рэжыму супраць уласнага народа. І праўда гэтая хаваецца дагэтуль. Чым жа іншым можна вытлумачыць, што яшчэ не раскрыты склад "троек" і іншых пазасудовых утварэнняў, якія выносілі смяротныя прысуды, што не абнародавана большасць архіўных дакументаў, звязаных з лёсам соцень тысяч чалавек, трапіўшых у жорны рэпрэсіўнай машыны? Па шляху праўды мы павінны прайсці да канца.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт**

---




ЛіМ — ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932-35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935-41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945-46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947-49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949-50)* |
| *В.Вітка* | *(1951-57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957-59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959-61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961-69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969-72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972-76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976-80)* |
| *А.Жук* | *(1980-86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986-90)* |





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**

**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11216.
Нумар падпісаны 2.2.1995 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

